# Матывацыі супраціву




Настасся Александровіч | Сяргей Андросенка | Сяргей Антусевіч
Ігар Банцар | Павал Батуеў | Яраслаў Берніковіч | Аляксей Валабуеў
Вераніка Велігор | Аляксей Дзермант | Эдвард Дмухоўскі | Алесь Гелагаеў
Юрый Казак | Ганна Канюс | Віталь Каратыш | Юрый Карэтнікаў
Воля Кузьміч | Пятро Кузняцоў | Ігар Лапеха | Ян Лялевіч
Юлія Міцкевіч | Васіль Палякоў | Аляксандр Самец | Юра Сідун
Віталь Сіліцкі | Тарэса Собаль | Вольга Стужынская | Алена Талапіла
Паліна Уліна | Іван Шыла | Кастусь Шыталь | Ігар Шынкарык
Генадзь Шэпелеў | Сяргей Чалы | Аляксандра Якубоўская
Уладзімір Яроменак | Галіна Яшчанка

# Матывацыі супраціву
## Кніга апытанняў

Пад рэдакцыяй Андрэя Дынька і Валера Булгакава

Інстытут беларусістыкі
Вільня
Беларускае гістарычнае таварыства
Беласток
2011

# Змест

# Тры хвалі, чатыры шляхі

Віталь Сіліцкі

## Уводзіны

Ідэя гэтага праекта прыйшла мне ў галаву адразу пасля падзей сакавіка 2006 года ў Мінску. Выбух грамадзянскай актыўнасці на прэзідэнцкіх выбарах, які застаўся ў гісторыі як «Плошча» і які я калісьці наіўна акрэсліў як пачатак рэвалюцыі духу ў беларускім грамадстве, на нейкі час выглядаў як прарыў з раўнавагі лукашэнкаўскай аўтарытарнай сістэмы. Выглядала, яна навечна скансалідавала тую самую «стабільнасць», на якую моляцца прыхільнікі цяперашняй улады і якую клянуцца абараніць, не шкадуючы жывата свайго, яе бенефіцыяры. Маральны супраціў, які справакавалі шалёныя рэпрэсіі амаль па другім законе Ньютана, здавалася б, быў адказам на пытанне, якім чынам дамагацца зменаў у Беларусі. Не праз стратэгічную каардынацыю знешніх гульцоў, не праз дробнае палітыканства і паляванне за медыянным выбаршчыкам на бессэнсоўных выбарах, а праз пабудову маральных барыкад, выразных ліній супрацьстаяння паміж дабром і злом, і актывацыю чалавечага сумлення. Каб яно стала падмуркам таго змагарскага духу, які так і не змог растаптаць АМАП і спецназ. Нас тады было мала, але мы верылі, што зможам дамагчыся многага – абы не згас той абуджаны дух.

Але за святам (нават часамі крывавым) маральнага супраціву вельмі хутка прыйшлі сумныя будні. Запал актывістаў хутка сышоў на нішто, энергія і бадзёрасць змяніліся апатыяй і руцінізаванай безнадзейнасцю, багата хто з’ехаў

у эміграцыю знешнюю, яшчэ больш сышлі ў эміграцыю ўнутраную. Палітыкі ж павялі сябе так, што лінію дабра і зла ўжо час быў праводзіць паміж імі самімі. Стала зразумела, што Плошча, выбуховыя палітычныя падзеі – гэта толькі кульмінацыя пэўных грамадскіх працэсаў, якія ствараюць падмуркі для рэвалюцыі духу, але ніяк не іх каталізатар. Ужо ў сярэдзіне 2006 года навідавоку стаў рэзкі спад грамадзянскай актыўнасці, фактычнае замарожванне альтэрнатыўнага жыцця. Яно стала пакрысе прабуджацца толькі з пачаткам апошняй квазілібералізацыі і аслабленнем дзяржаўнага прэсінгу на незалежнае грамадства.

Для мяне было відавочна, што калі грамадскае жыццё будзе падпарадкоўвацца жыццю палітычнаму і працякаць, як трапна заўважыў Алесь Анціпенка, ад выбараў да выбараў, то на такія трох- ці чатырохгадовыя правалы мы асуджаны яшчэ на дзесяцігоддзі і лукашэнкаўская сістэма будзе хутка прыходзіць у раўнавагу пасля кароткачасовых узрушэнняў. Зразумела і іншае – людзям, якія прыходзяць да грамадзянскай дзейнасці, патрэбныя нейкія новыя, іншыя сэнсы і мэты, акрамя таго, каб чатыры-пяць год рыхтавацца да новай Плошчы (гэтыя радкі я пішу акурат 19 снежня 2010 года, калі вось-вось выбухне новая Плошча).

Але аб усім па парадку. Гэтаксама як звужэнне грамадзянскай актыўнасці да палітычнай не давала адказаў на пытанне, як падтрымаць агеньчык грамадскага жыцця і маральнага супраціву, заводзіла ў тупік і засяроджванне на праблематыцы няўрадавых арганізацый як цэнтральнага пункта грамадзянскай супольнасці. Мае калегі і сябры, якіх можна назваць прафесійнымі НДАшнікамі (без усялякіх адмоўных канатацый), з Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый, Адукацыйнага цэнтра «Пост» правялі шмат даследаванняў з мэтай падвышэння прафесійнасці і выніковасці дзейнасці грамадзянскага сектара, успрымання яго грамадствам, магчымых варыянтаў дзяржаўна-грамадскага супрацоўніцтва. Я сам браў удзел у гэтых даследаваннях. Сектар НДА, паводле звестак даследаванняў, што я апрацоўваў, апынуўся паміж дзвюма парадыгмамі, прычым багата арганізацый імкнуліся следаваць абедзвюм. Адну парадыгму – умоўна назавём «змагарскай» (пратэсныя НДА, жорстка арыентаваныя на змену «крывавага рэжыму»). Другая парадыгма – «сабесаўская» (НДА, якія імкнуцца прадастаўляць нейкія паслугі мэтавым групам, часцяком

павышаючы спажывецкія і ўтрыманскія настроі ў грамадстве). Вельмі няшмат было арганізацый, якія, як гэта ні парадаксальна гучыць, ставілі б не вялікія і альтруістычныя мэты, а больш лакальныя, зразумелыя. Чаму НДА мусіць быць абавязкова прафесійнай і ўпакаванай па апошняй модзе ўсімі рэсурсамі і штатам? Чаму грамадзянская дзейнасць мусіць быць прафесіяй, а не хобі? Чаму яны мусяць служыць іншым, а не сабе ды сваім сябрам? Гэтыя пытанні накладаліся на ўспаміны пра пэўныя кніжныя веды, асабліва пра тое, як паўставалі масавыя пратэсныя і нацыянальныя рухі па ўсім свеце. Іх цэнтрамі былі не прафесійныя НДА, а маленькія асацыяцыі добраахвотнікаў, якія выконвалі простыя задачы дзеля сваіх сяброў. Колькі нацыянальных рухаў паўстала з харавых гурткоў і таварыстваў аховы помнікаў! Колькі паспяховых палітычных партый – са спартовых таварыстваў! Колькі сацыяльных плыняў – з простых таварыстваў узаемадапамогі! А колькі – і таго, і другога, і трэцяга – гуртавалася першапачаткова вакол маленькіх царкоўных суполак!

Базавая адзінка грамадзянскай супольнасці – не НДА, а чалавек! Чалавек з яго патрэбамі, якія не зводзяцца да матэрыяльных праблем, а ўключаюць самарэалізацыю, пашырэнне далягляду, набыццё новага досведу, імкненне пабачыць свет, атрымаць адукацыю і г.д. Гэтаксама як мэты грамадзянскага актывіста могуць быць нашмат шырэйшымі і больш разнастайнымі, чым звяржэнне «злачыннага рэжыму». І каб вызначыць, ці адпавядае грамадзянскі сектар патрэбам сваіх чальцоў, перш-наперш трэба адказаць на пытанне – а што гэта за патрэбы? Што матывуе людзей быць актыўнымі, заангажаванымі, неабыякавымі? Якія найбольш тыповыя шляхі прыходу да грамадзянскай актыўнасці?

Гэта было першае кола пытанняў, праз якія паўстаў праект «Матывацыя супраціву». Праект быў рэалізаваны цягам 2010 года пад навуковым кіраўніцтвам Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў і пры саўдзеле Мінскай аналітычнай групы, часопіса «ARCHE» і газеты «Наша Ніва». Структура праекта простая – намі было праведзена больш за тры дзясяткі інтэрв'ю з найбольш тыповымі прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці. Маленькая выбарка не прэтэндуе на рэпрэзентатыўнасць, а адказы на пытанні ў разгорнутых інтэрв'ю – на статыстычную валіднасць. Нашай задачай было высвятліць

найбольш тыповыя матывы і погляды, стаўленні і адчуванні, зразумець найбольш базавыя ўзаемасувязі паміж выхаваннем, адукацыяй, жыццёвым досведам і грамадзянскай актыўнасцю і, у сваю чаргу, паміж ёй і іншымі аспектамі прыватнага, грамадскага і прафесійнага жыцця.

Абапіраючыся на гэтую вельмі немудрагелістую метадалогію, мы хацелі кінуць свежы позірк на грамадзянскую супольнасць. Зразумеўшы найбольш тыповыя матывы і ўзаемасувязі, што вядуць чалавека да неабыякавасці, мы імкнемся вызначыць магчымыя перспектыўныя шляхі нарошчвання грамадзянскай субкультуры, шляхі, якія выходзяць за рамкі нашых меркаванняў пра грамадзянскі сектар як тэрыторыю палітычнага змагання, ці, наадварот, адмысловы такі сабес, шляхі, якія ідуць праз мазгі і сэрцы саміх грамадзян, саміх беларусаў.

Ставячы пытанні пра матывацыю і шляхі да супрацьву, мы зыходзілі з пэўных гіпотэз. Беларусь успрымаецца даследчыкамі і актывістамі як краіна з крайне нізкім узроўнем «жывых» грамадзянскіх традыцый і палітычнай культуры актыўнага ўдзелу (participatory political culture), як краіна, дзе падпарадкаван( не асобы дзяржаве з'яўляецца нормай, а прынцып «мая хата з краю» дамінуе нават сярод прасунутых колаў грамадства. У гэтых умовах грамадзянская супольнасць можа паўставаць толькі праз унутраны пратэст, які вырастае з асэнсавання ўласнай адрознасці ці імкнення стаць адрозным. Да такога пратэсту падштурхоўвае нетыповы для паспалітага грамадзяніна жыццёвы досвед (набыты пры адносінах з пэўнымі людзьмі – такімі ж «белымі варонамі» або дзякуючы камунікацыі з іншымі грамадствамі і культурамі) або, як гэта ні парадаксальна, уласныя традыцыі ў кантэксце карпаратыўнай дзяржавы, дзе была пэўная прастора для так званага «актывізму».

Што ж паказала даследаванне? Ці з'яўляюцца грамадскія актывісты «белымі варонамі»? Ці іх выбар – неабыякавасць, актыўны ўдзел у грамадскім і палітычным жыцці, здольнасць рызыкаваць і ахвяраваць, – ёсць наступствам пэўных асабістых псіхалагічных рыс, пэўных праяў характару, інстынктыўнага жадання «паплыць супраць цячэння»? Ці значыць, што некаму з нас наканавана нарадзіцца актывістам і змагаром, а некаму – цынікам і прыстасаванцам? Ці справа ў тым, што, па словах аднаго з удзельнікаў даследавання, неабыякавасць – «*гэта*

*асаблівы склад асобы, псіхатып чалавека»?* Адказы грамадзянскіх актывістаў далі падставу меркаваць, што галоўны чыннік, які прыводзіць іх да грамадзянскай актыўнасці, усё ж вонкавы, і такі чыннік працуе нават у грамадстве, дзе традыцый грамадзянскага жыцця не так шмат.

Гэты чыннік адлюстроўвае вынікі больш шырокіх даследаванняў пра фактары фармавання палітычнай культуры, якіх багата праведзена ў сусветнай паліталагічнай і сацыялагічнай традыцыях. Напрыклад, уплывовыя даследаванні пад кіраўніцтвам Рональда Інглегарта выявілі феномен «фарматыўнага ўзросту»: палітычныя (і не толькі) каштоўнасці і погляды і стаўленні да жыцця складаюцца ў чалавека ў перыяд, калі ён пераходзіць з дзіцячага ў дарослы ўзрост, задумваецца пра выбар шляху жыцця, прафесіі, прымае нейкія рашэнні, якія накіроўваюць яго на далейшы шлях у жыцці, які пасля цяжка перамяніць (як пры выбары каляіны на развілцы). Мары, планы, каштоўнасці, густы, эмоцыі, што авалодваюць маладым чалавекам, потым вызначаюць яго выбар, схільнасці, пазіцыю на працягу жыцця. Чалавек можа змяніць свой *modus vivendi* пад уплывам абставінаў (калі стварае сям'ю, робіць кар'еру, прымае іншыя сацыяльныя абавязкі), але застацца сацыяльна актыўным і неабыякавым.

У Беларусі, як, мабыць, і на значнай частцы постсавецкай прасторы, грамадзянская супольнасць прырастала хвалямі, фарматыўны ўзрост якіх супадаў з ключавымі падзеямі ў жыцці грамадства, якія мянялі светапогляд цэлага пакалення. Таксама як пакаленне шасцідзясятнікаў «ажыло» і мела свой другі шанец у канцы васьмідзясятых, шчасце (ці няшчасце) нарадзіцца ў цікавы час паўплывала і на тое, як прыходзілі ў грамадзянскі сектар беларусы. Абсалютная большасць апытаных актывістаў прыйшлі да актыўнай грамадскай дзейнасці пад уплывам вызначальных для лёсу краіны падзей. Можна акрэсліць тры пакаленні, фарматыўны ўзрост якіх прыпаў акурат на такія пікавыя перыяды:

## Калі?

*Хваля 1*

Пакаленне перабудовы (часта ўзгадваецца як пакаленне «Талакі», але яно нашмат шырэйшае). Гэтае пакаленне «зарадзілася» энергіяй хуткіх, збольшага нечаканых, фантастычных зменаў, што адбыліся ў краіне цягам некалькіх гадоў пасля доўгай паласы стагнацыі. Ментальна гэтыя людзі засталіся ў часе зменаў, і, нават калі на змену перабудове і незалежнасці прыйшла лукашэнкаўская «стабільнасць», яны не здаліся і працягвалі «чакаць калядаў», паўтарэння таго шыкоўнага ў палітычным плане фарматыўнага досведу.

«Калі я закончыў сярэднюю школу, скончыў жыццё Савецкі Саюз. 1991 год, вучоба у Менску, самастойнасць, *бурнае палітычнае жыццё* ў новай незалежнай краіне краіне – гэта моцна ўплывала».

«Аднойчы *летам 1990 года* я паехаў у Мінск на свята, якое ладзіў БНФ у скверы Я. Купалы. Пасля яго вяртаўся ў Карэлічы са стосам газет, часопісаў, кніг, з бела-чырвона-белым сцяжком ды гербам «Пагоня».

*«Пачатак маёй актыўнай дзейнасці прыпаў на канец 80-х гадоў. Тады ўплываць на працэсы, што бурна працякалі ў грамадстве, было надзвычай проста».*

*Хваля 2*

Другая хваля – гэта так званае «пакаленне «Маладога Фронту», моладзь (цяпер, праўда, і не зусім моладзь), якая сфармавалася ў кантэксце першых гадоў незалежнасці і адказала супрацівам на рэстаўрацыйную палітыку прэзідэнта Лукашэнкі. Гэтая хваля пацярпела балючую паразу, аднак, ізноў-такі, засталася ў грамадзянскім сектары, не ў першую чаргу, таму што не верыла, што лукашызм пратрымаецца доўга. У грамадзянскай субкультуры ім, аднак, давялося затрымацца найдаўжэй.

«*У 1996 годзе з'явілася магчымасць страты Беларуссю незалежнасці ў выніку «інтэграцыі» з Расеяй*. Пайшоў на мітынг, арганізаваны каля беларускай амбасады ў Маскве Таварыствам беларускай культуры імя Францішка Скарыны. Так усё і пачалося».

«Пасля *рэферэндуму 1995 года я моцна «пакрыўдзіўся» на ягоныя вынікі і вырашыў, што пасля ўніверсітэта ў 1996 годзе пайду ў БНФ*».

«Моцна на маё станаўленне як асобы, лідара, паўплывала менская вясна 1996-га, калі здавалася, што наш нацыянальны рэванш непазбежны, на акцыі са школы на Паўднёвым Захадзе я спакойна выводзіў 10–15 чалавек аднадумцаў. На той момант, прынамсі, у сталіцы гэта быў сапраўдны ўздым, на мітынгах 96-га я акрыляўся верай, адчуваў салідарнасць і сапраўднае нацыянальнае адзінства».

*Хваля 3*

Гэта пакаленне Плошчы 2006 года (у гэтай кнізе яно найменш прадстаўлена). Тут назіраецца якраз адваротная тэндэнцыя. Згасанне агню маральнага супраціву адбылося вельмі хутка, расчараванне і безнадзейнасць вярнуліся, і да грамадзянскай дзейнасці прыйшлі хіба тыя, хто ўжо быў у яе ўцягнуты да падзеяў 2006 года.

*«10 сутак» на Акрэсціна ў 2006 годзе пацвердзілі, што не ўсё можа быць так і тады, калі хочаш».*

Фактар фарматыўнага ўзросту прыводзіць да важнай высновы: нават буйныя палітычныя няўдачы, калі яны разварушылі грамадства, маюць для яго важныя доўгатэрміновыя наступствы. У такія пікавыя падзеі чалавеку прасцей зацікавіцца палітыкай і грамадскім жыццём, а зацікаўленаму чалавеку – нашмат прасцей знайсці аднадумцаў і паплечнікаў. Таму з пытаннем «калі» звязана і пытанне, «як» чалавек прыходзіў да грамадзянскай дзейнасці.

## Як?

*Варыянт 1.* Сябры і знаёмыя

Тут важным чыннікам з’яўляецца, скажам так, «блізкасць да арэала змагарства». Грамадзянская супольнасць папаўняецца метадам снежнага камяка – там, дзе ўзнікаюць асяродкі грамадзянскай актыўнасці (а ўзнікаюць яны, як правіла, у пікавыя моманты), незаангажаванаму чалавеку прасцей знайсці аднадумцаў або проста новых сяброў, якія прапануюць яму іншы, непадобны да яго буд-

зённага досвед. Акурат таму шмат з апытаных адказвалі на пытанне «чаму Вы сталі грамадзянскім актывістам, а Вашы аднакласнікі – не?» у такім стылі : «Якраз мае аднакласнікі грамадзянскімі актывістамі і былі». Але, зноў-такі, падлетку-старшакласніку прыйсці да грамадзянскай актыўнасці ў 1990 ці 1996 годзе было нашмат прасцей, чым у, скажам, 2002-м...

«*Мы выхоўваліся ў часы перабудовы, і, калі гэта ўсё пачало адбывацца ў краіне, школе, мы вельмі цікавіліся ўсімі працэсамі*. Часам нават зрывалі школьныя ўрокі, бо настаўнікі расказвалі адно, а ў газетах пачыналі пісаць зусім іншае».

«З *ліцэістаў*, з якімі навучалася разам, якраз шмат хто займаецца грамадскай дзейнасцю і ў Беларусі, і за мяжой».

«*Грамадскай дзейнасцю мы займаліся ўсе ў класе* – я заканчвала ліцэй №1 г. Брэста ў год, калі быў першы рэферэндум па Канстытуцыі».

«Хаця першая мая грамадская актыўнасць праявілася падчас удзелу разам з аднакурснікамі ў першых Дзядах. З таго ўсё пачалося. Гэта былі студэнцкія гады».

«*Аднойчы сябра запрасіў мяне на мітынг апазіцыі. Потым быў яшчэ досыць цікавы семінар па паліталогіі. А з набліжэннем прэзідэнцкіх выбараў стала зразумела, што магу сам паўплываць на змены ў нашай краіне*».

*Варыянт 2*. Бацькі і сваякі

Другі, менш часты спосаб уваходу ў грамадскае жыццё – праз бліжэйшае атачэнне, бацькоў і сваякоў. Але гэта шлях тых, каму пашчасціла (ці не пашчасціла) нарадзіцца ў сям'і неабыякавых, прасунутых, грамадзейскіх людзей, тых, хто ўжо стаў суб'ектам грамадзянскай супольнасці. Такіх – выразная меншасць, але менавіта з такіх паўстаюць цэлыя дынастыі заангажаваных людзей, якія перадаюць з пакалення ў пакаленне тыя самыя «habits of the heart», звычкі душы, што ствараюць аснову дэмакратычнай субкультуры.

«З дзяцінства мне *гаварылі і вучылі бацькі*, што я павінен усё ў жыцці рабіць не проста так, а з пэўнай мэтай, каб пакінуць добры след... Гэта ўсё прывяло да таго, што, калі я вучыўся ў школе, *я быў як бы «белай варонай» між сваімі аднакласнікамі*».

«Аднак найпершы штуршок ці спрыяльную глебу да грамадскай актыўнасці *дало выхаванне дома ў вялікай сям'і. Бацькі з дзяцінства ўкладалі*

*нам у галаву важнасць развівацца*, ісці да пастаўленых мэтаў, адказваць за свае рашэнні з ранняга ўзросту, не мірыцца з несправядлівасцю і падтрымліваць слабейшых за цябе».

*Варыянт 3*. Уласныя пошукі

Трэці тыповы шлях да грамадзянскай актыўнасці – гэта шлях тых, хто кажа, што іхны выбар на карысць грамадскай дзейнасці – гэта выклік асяроддзю. Гэта людзі, якія, растварыўшыся ў мэйнстрыме карпаратыўнага грамадства, часцяком не могуць знайсці пляцовак, за якія яны змаглі б зачапіцца, каб весці «жыццё іншых».

*«Я паступіла ва ўніверсітэт, але пачувалася самотнаю і разгубленаю. А таксама мела жаданне прыкласці да нечага свае сілы. І тады мае аднакласнікі распавялі мне, што выпадкова даведаліся пра існаванне Задзіночання беларускіх студэнтаў*».

«*У 1996 годзе я вучыўся ў 8-м класе і на той момант ужо меў выразны погляд на тое, што адбываецца ў краіне. Аднак не меў, на жаль, паразумення на той час з роднымі ў сваіх поглядах*. У маленькім вайсковым гарадку пад Баранавічамі знайсці сяброў, якія б падзялялі мае погляды, таксама было складана. У выніку большасць свайго вольнага часу я сядзеў у баранавіцкай бібліятэцы, чытаючы падшыўкі газет».

*Варыянт 4*. «Таквілеўска-Путнамаўская» грамадзянская супольнасць

Нарэшце, троху людзей прыйшлі да грамадзянскай дзейнасці праз найбольш распаўсюджаныя ў цывілізаваным свеце каналы сацыялізацыі, якія не звязаныя наўпрост з палітычнай дзейнасцю, – краязнаўства, вольны час. Іх шлях у чымсьці падобны да шляху трэцяй катэгорыі – да грамадзянскай актыўнасці часцей за ўсё прыводзіць выпадак.

«Вярнуўся я да актыўнасці даволі нечакана. Гэта звязана з захапленнем спортам. *Прыкладна ў 1996 годзе я сустрэў свайго сябра, з якім на той час не бачыўся гады тры. Ён запытаўся, дзе я гуляю ў футбол, і запрасіў гуляць з імі*. Я прыйшоў. А там гулялі Анатоль Лябедзька, Яраслаў Раманчук, Віктар Ганчар ды іншыя».

«*Пасля першага курса было шмат вольнага часу, надта не хацелася ісці, напрыклад, у аўташколу. Але было вялікае жаданне рабіць штосьці карыснае. Сябры ездзілі ў дзіцячы дом і ў Бараўляны*. Адзін раз з'ездзіла, неяк адчула, што я гатовая паехаць яшчэ раз. Потым яшчэ».

Сярод матывацыйных фактараў, што падштурхоўваюць чалавека да грамадзянскай дзейнасці, выразна выдзяляецца чыннік клопату пра нацыянальныя каштоўнасці, мову і культуру. Гэтаксама ж знаёмства з беларушчынай і зацікаўленасць ёй правакуе чалавека на больш шырокую, разнастайную грамадзянскую дзейнасць. Гэтая ўзаемасувязь нацыянальнага з грамадзянскім сама сабою вартая дадатковага, больш глыбокага даследавання, асабліва ў рэчышчы разваг некаторых аналітыкаў пра супярэчнасць паміж моўна-этнічным і грамадзянскім нацыяналізмам. Нацыя легітымізуе грамадзянскую супольнасць, стварае прастору для дзейнасці, прапануе цэлы шэраг актыўнасцяў (грамадскіх, культурных), якія даюць магчымасць заангажавацца любому. У беларускіх умовах нацыя лепш за іншыя чыннікі выхоўвае пачуццё ўласнай адказнасці за пэўныя рэчы (тую ж мову), калі чакаць падтрымцы ў справе яе захавання няма ад каго і калі ад уласных дзеянняў залежыць шмат. Нацыянальныя героі, міфы, легенды задаюць узоры, да якіх людзі пачынаюць цягнуцца і па якіх пачынаюць «мераць сваё жыццё». Цікава, што некаторыя творы нацыянальнай літаратуры (тыя ж «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча) грамадзянскімі актывістамі ўзгадваліся неаднаразова.

З «ненацыянальна-заклапочанай» часткі грамадзянскай супольнасці выдзяляюцца рамантыкі-касмапаліты – тыя, хто выгадаваўся пад уплывам класічных твораў сусветнай літаратуры, з якой браў сваіх рыцараў і герояў. Кажучы пра нацыянальны чыннік грамадзянскай актыўнасці, ключавую ролю тут адыгрываюць знакавыя асобы, з якімі актывісты сустракаліся на працягу жыцця і якія іх «навярталі» ў беларушчыну.

«Я шмат чытаў у дзяцінстве, думаю, гэта і пакінула нейкі след у душы. Памятаю, як быў уражаны аповесцю Уладзіміра Караткевіча «*Дзікае паляванне караля Стаха*». Потым прачытаў «*Каласы пад сярпом тваім*» і пачаў разумець, што такое

Беларусь – не рэспубліка ў СССР, а амаль што казачная краіна, дзе даўней жылі незвычайныя героі-людзі».

«А ўвогуле мне заўсёды падабаліся лёгкія гістарычныя раманы *Скота*, *Дзюма*. Розныя прыгоды і гэтак далей. Ва ўсіх гэтых творах, як бы тое смешна ні гучала, захоўваўся нейкі *рыцарскі дух, дух сяброўства, узаемадапамогі.* А для большасці з нас *гісторыя Беларусі* была адкрыццём. Вось нешта з тых раманаў хацелася перанесці на нашу гісторыю, дзейнасць. Навявала, што ты павінен нешта зрабіць».

Безумоўна, большасць грамадзянскіх актывістаў адчуваюць сябе ў пэўным канфлікце з «мэйнстрымам». Для многіх з іх прорва, што аддзяляе іх ад паспалітага «электарату», проста шакуючая:

«Перыядычна, калі збіраемся кампаніяй, я згадваю прымаўку пра тое, што чым больш пазнаеш людзей, тым больш падабаюцца сабакі».

*«Яны [людзі] ў асноўнай масе затурканыя, абыякавыя, «сляпыя нібы краты», палахлівыя, жывуць па прынцыпе «абы было добра».*

Але толькі да таго часу, пакуль людзі не пачнуць самі адчуваць плён і вынікі грамадскай працы або проста пачынаюць давяраць асобе, якая ёй займаецца: «На ўласным досведзе бачу: да пазітыву і поспеху цягнуцца. Падтрымка адчуваецца, і гэта матывуе».

Шлях да падвышэння прывабнасці грамадзянскага сектара – у яго большай камунікацыі з той часткай грамадства, якая жыве па законах і практыках карпаратыўнай дзяржавы. Гэта ў сваю чаргу ставіць і іншае пытанне – пра разнастайнасць формаў актыўнасці грамадзянскага сектара, яго здольнасць генераваць праекты і практыкі, якія выходзяць за рамкі самога яго.

Гэта разумеюць і самі грамадзянскія актывісты. Яны бачаць сваю адрознасць, іншасць ад мэйнстрыму, але не імкнуцца яе абсалютызаваць, зрабіць з яе своеасаблівы культ, якому яны б пакланяліся ва ўласнай царкве абраных. Адрознасць – гэта хутчэй праблема, бар'ер, які трэба пераадолець.

*«Для таго каб змяніць менталітэт беларусаў і дрэннае стаўленне грамадства да апазіцыі, трэба змяняцца самому найперш, каб прапанаваць альтэрнатыву, каб прыцягнуць людзей і зацікавіць да змянення саміх без прымусу».*

*«Людзі неабыякавыя, у чым за гэты час я пераканаўся. Пры пэўным індывідуальным падыходзе ў кожным чалавеку можна знайсці нешта».*

* * *

Пры канцы 2010 года пытанні, што былі зададзеныя падчас падрыхтоўкі і рэалізацыі гэтага праекта, набылі новы сэнс і гучанне. Грамадзянская супольнасць разам з палітычнымі апазіцыйнымі сіламі атрымала балючы ўдар увечары 19 снежня 2010 года. Кароткая і збольшага імітацыйная лібералізацыя, што «дазвалялася» ўладамі цягам апошніх 2–3 год, была імкліва згорнутая, і да нас вярнуўся час татальных рэпрэсій. Але сам «выбух» той снежаньскай ночы толькі пацвердзіў устойлівае існаванне патэнцыялу для палітычных і сацыяльных альтэрнатыў у грамадстве.

Гэты патэнцыял складваўся не толькі з упартасці і ахвярнасці той часткі грамадзянскай субкультуры, якую мы даследавалі ў гэтай кніжцы, але і з часткі «мэйнстрыму». Той часткі, якая прадэманстравала гатоўнасць да пераменаў у грамадстве сваім выхадам на плошчу і сваёй датычнасцю да беспрэцэдэнтнай кампаніі салідарнасці з палітвязнямі, што разгарнулася на нашых вачах апошнімі днямі 2010 года. Гэты прыліў сілаў у грамадзянскую супольнасць, з аднаго боку, цалкам ішоў у рэчышчы логікі ўзнікнення матывацыі супраціву, апісанай тут на прыкладзе ролі «выбуховай падзеі», якая пачынае фармаваць палітычную свядомасць тых, хто да яе датыкнуўся. Аднак наўрад ці большасць з іх прайшла тую самую школу сацыялізацыі, якую можна прасачыць на прыкладах традыцыйных грамадзянскіх актывістаў. Новы грамадзянскі супраціў кансалідуецца не вакол апазіцыйных структур, а ў сацыяльных сетках. Аднак у той жа час відавочна, што ключавымі пунктамі ў гэтых сетках з'яўляюцца якраз тыя актывісты, што прайшлі праз школу грамадзянскага сектара і здолелі «вырвацца» за яго межы, здолелі пашырыць сваё кола камунікацый на падставе даволі базавых, будзённых спраў і клопату («мамскія» блогі, абарона правоў жывёлаў, клубы аўтамабілістаў і г.д.). Сама тэма патэнцы-

ялу сацыяльных сетак для мацавання грамадзянскай супольнасці вартая асобага даследавання. Бачна, што ва ўмовах фармавання інфармацыйнага і спажывецкага грамадства патэнцыял грамадзянскай супольнасці ляжыць акурат у разнастайнасці дзеянняў і іх формаў, каналаў камунікацыі і персанальнага досведу актывістаў, пашырэння іх камунікацыі з іншымі сегментамі грамадства, асабліва з беларускім сярэднім класам, што набывае моц. У той жа час, калі гаварыць не пра разавыя праекты, а пра ўстойлівую матывацыю да грамадзянскай дзейнасці, яна, магчыма, застаецца такой жа ва ўсе часы – традыцыі неабыякавасці ў сям'і і сярод сяброў, клопат пра нацыянальную культуру, імкненне да самарэалізацыі.

# 1. Як Вы думаеце, чаму Вы сталі займацца грамадскай дзейнасцю, а Вашы аднакласнікі – не?

### Настасся Александровіч

Мяркую, што вялікі ўплыў аказала сям'я (бабуля асабліва), беларускамоўны садок, выкладчык беларускай мовы ў каледжы.

Актыўная грамадская пазіцыя не давала спакою мне з дзяцінства: я была школьным «адвакатам», абараняла слабых ад несправядлівасці, выступала за праўду ды свабоду думкі.

### Сяргей Андросенка

Насамрэч, думаю, што гэта напачатку з вобласці ўласных захапленняў і інтарэсаў. Нехта ў школе любіў зрываць заняткі, нехта прыходзіў, каб дэманстраваць новую вопратку, нехта любіў аднакласніка ці аднакласніцу – таксама добрая матывацыя. Я любіў гуманітарныя прадметы. Літаратура, гісторыя, грамадазнаўства прымушалі крытычна глядзець на рэчы, аналізаваць мінулае і параўноўваць з сучаснасцю. Я з дванаццаці год чытаў моладзевую прэсу – газеты «Раніца», «Зорька», «Переходный возраст», часопіс «Бярозка». Шмат пісаў, шмат думаў, шмат разважаў, развіваў крытычнае мысленне.

Першая дыскрымінацыя, з якой я сутыкнуўся, – дыскрымінацыя праз маю беларускую мову, актыўным носьбітам якой я імкнуўся быць. Пасля я сутыкнуўся з дыскрымінацыяй праз сваю гомасексуальнасць. Я імкнуўся быць шчырым з

навакольнымі, як мяне і вучылі ў школе, вучылі бацькі. Але шчырасць часта выклікала негатыўныя рэакцыі. …Паноптыкум. Замкнёнае кола… Я сутыкаўся, у лепшым выпадку, з непрыманнем, у горшым – з непрыхаванай агрэсіяй.

Я быў «не як усе» ў школе: беларускамоўнасць пасля сёмага класа, у прыватнасці, вылучала. Увогуле, я думаю, што шмат з тых, хто займаецца грамадскай дзейнасцю, былі не такімі, як усе, ужо ў школе. Не, не горшымі або лепшымі, але не як усе. І цяпер, пасталеўшы, мы хочам выправіць сваіх аднакласнікаў, якія не разумелі нас, а іншым разам і агрэсіўна ўспрымалі нашу інакшасць.

### Сяргей Антусевіч

У мяне, напэўна, унікальны клас… Калі я быў на Дні Волі ў 1996 годзе, то сустрэў чатырох сваіх аднакласнікаў.

Аднакласнік Сяржук Паўленка ў свой час быў першым сустаршынём «Маладога Фронту», а аднакласнік Эдвард Дмухоўскі і цяпер актыўна займаецца гісторыка-культурніцкай грамадскай дзейнасцю, быў заснавальнікам гарадзенскага моладзевага «Альянса імя Вітаўта Вялікага».

А сам я стаў займацца грамадскай дзейнасцю, бо хацеў і хачу, каб мая пазіцыя, мая дзейнасць прыносілі пазітыўныя змены ў грамадстве.

### Ігар Банцар

Я перакананы, што менавіта адносіны ў сям'і былі тым вырашальным фактарам, які дазволіў мне развіцца ў самадастатковую асобу. Дзякуючы ліберальнаму падыходу да пытання выхавання з боку маіх бацькоў я меў неабмежаваныя магчымасці да самаразвіцця, чым і скарыстаўся.

### Павал Батуеў

Гэта складанае пытанне. Хтосьці жыве па стандартнай схеме – школа, універсітэт, праца, сям'я. А грамадская дзейнасць сюды не ўпісваецца.

У грамадстве няма разумення, што такое грамадская дзейнасць, чым яна можа быць карысная, чым можа дапамагчы ў самарэалізацыі… Апрача гэтага, няма падзелу і разумення таго, што існуюць грамадскія арганізацыі, а існуюць палітычныя. У выніку людзей палохаюць рэпрэсіі, якія здольныя паламаць схему, пра якую я гавару.

## Яраслаў Берніковіч

Напэўна, усё склалася так, што само жыццё мяне да гэтага падштурхнула. Нейкія падзеі здарыліся, нейкія сустрэчы адбыліся. Да прыкладу, вельмі значным для мяне было знаёмства з глыбоцкім краязнаўцам, выдаўцом газеты «Вольнае Глыбокае» Уладзімірам Скрабатуном. Уплыў аказалі сустрэчы з іншымі актывістамі.

Дарэчы, я мяркую, што і сярод маіх аднакласнікаў ёсць шмат такіх, хто падзяляе мае перакананні і хто шмат на што здольны. Проста яны не праяўляюць свае актыўнасці – з розных прычын. Але не выключаю, што ў нейкіх жыццёвых абставінах яны могуць апынуцца са мной поруч.

## Аляксей Валабуеў

Насамрэч, некаторыя мае аднакласнікі пачыналі займацца грамадскай дзейнасцю і нават паспелі адысці ад спраў. Калі ж браць агулам, дык гэта хутчэй пытанне выпадковасці і асабістых якасцяў. Я заўсёды быў чалавекам актыўным. Што праўда, мая актыўнасць да грамадскага жыцця мела аддаленае дачыненне. Знаёмства ж з некаторымі асобамі вылілася ў большую зацікаўленасць да палітыкі і працы трэцяга сектара. Аднак перакананы, што за любымі выпадковасцямі стаяць пэўныя заканамернасці. Пры адэкватнай палітыцы дзяржавы ў галіне развіцця і падтрымкі NGO колькасць людзей, якія звязваюць свой лёс з грамадскай дзейнасцю, у нашай краіне была б значна большай.

## Вераніка Велігор

Грамадская дзейнасць патрабуе сіл, адвагі, часу ды сэнсу ў тым, што робіш і да чаго імкнешся праз сваю дзейнасць. Большасць маіх аднакласнікаў не магла пераадолець страх: страх перад рэакцыяй рэжыму (звальненні бацькоў з працы, адлічэнні з навучальных устаноў, магчымасць неўладкавання на «нармальную дзяржаўную» працу, страх быць "іншапланетнікам"). А наконт астатняй часткі – тым усё роўна, абы было «выпіць і закусіць». А галоўнае, не хочацца быць такой, як усе...

## Аляксей Дзермант

Мабыць, таму што з самага ранняга веку я задаваў нейкія пытанні адносна свайго жыцця, навакольнага жыцця, цікавіўся гісторыяй і бачыў пэўную неадпаведнасць, разрыў паміж сучаснасцю і мінуўшчынай. Хацелася гэты разрыў пераадолець у сабе і данесці тое іншым. Ці то з дапамогай навуковай дзейнасці, ці то з дапамогай дзейнасці грамадскай. Відаць, гэта асаблівы склад асобы, псіхатып чалавека. У любым грамадстве такімі справамі займаецца прыкладна 10–15% людзей.

## Эдвард Дмухоўскі

Я б пра сваё пакаленне так не сказаў. Мы выхоўваліся ў часы перабудовы, і, калі гэта ўсё пачало адбывацца ў краіне, школе, мы вельмі цікавіліся ўсімі працэсамі. Часам нават зрывалі школьныя ўрокі, бо настаўнікі расказвалі адно, а ў газетах пачыналі пісаць зусім іншае. Настаўнікі проста не маглі адказаць на нашы пытанні.

Я вучыўся ў даволі актыўным класе. Адным з маіх аднакласнікаў быў Сяргей Антусевіч – таксама вядомая ў Гродне асоба. Іншыя актыўныя людзі былі ў нашым класе. Для нас, выхаванцаў савецкіх школ, гэта было нармальна. Савецкая школа прывучала да грамадскай дзейнасці – былі гурткі, дыскусійныя клубы. Рыхтаваліся розныя вечарыны. Людзі ангажаваліся ў грамадскую справу.

### Алесь Гелагаеў

Нічога не скажу пра сваіх аднакласнікаў, а што да мяне – я заўсёды ганарыўся тым, што я беларус, у 1990-я гады стаў антыкамуністам і нацыяналістам. Пакуль у Беларусі не скончаныя пэўныя этапы нацыятварэння, я лічу неабходным займацца пашырэннем тых ідэй, якія я лічу карыснымі і маральнымі для краіны. Дадам яшчэ, напэўна, матэрыяльныя прычыны – мая асноўная праца дае мне дастаткова сродкаў і вольнага часу для таго, каб прысвячаць вольны час і частку гэтых грошай працы дзеля Беларусі.

### Юрый Казак

Задатак да грамадскай дзейнасці закладваецца яшчэ з дзяцінства, калі бацькі выхоўваюць і закладаюць аснову характару. З дзяцінства мяне бацькі вучылі, што я павінен усё рабіць у гэтым жыцці не проста так, а з пэўнай мэтай, каб пакінуць добры след. Усё, што ні робіш, павінна быць мэтанакіравана. Жыць не толькі для сябе, а для сваёй краіны, свайго народа, дзеля будучыні маладога пакалення. Гэта ўсё прывяло да таго, што, калі я вучыўся ў школе, я быў як бы «белай варонай» між сваімі аднакласнікамі. Я больш цікавіўся гісторыяй і іншымі навукамі. Атрымоўваў веды з неафіцыйных (не школьных) крыніц.

### Ганна Канюс

Грамадскай дзейнасцю мы займаліся ўсе ў класе – я скончыла ліцэй № 1 г. Брэста ў год, калі быў першы рэферэндум па Канстытуцыі. Проста потым амаль усе займелі сем'і, добрую працу, так бы мовіць, угрунтаваліся. А я ўсё так і засталася змагаркай за свае правы і правы навакольных.

### Віталь Каратыш

Мяркую, што так сталася ад таго, што ў нас розныя каштоўнасці і мэты. Для кагосьці будучыня Беларусі важнейшая за ўласную кішэню. Гэта натуральна –

хтосьці працуе ў бізнесе, хтосьці працуе ў міліцыі, а хтосьці займаецца грамадскай дзейнасцю альбо палітыкай.

## Юрый Карэтнікаў

Мае аднакласнікі не сталі займацца грамадскай дзейнасцю, бо, магчыма, не так блізка і асэнсавана ўспрымалі падзеі 1995 года, звязаныя з новым курсам: са зменай сімволікі, палітычным уціскам, русіфікацыяй, якія для мяне паслужылі штуршком да грамадскай дзейнасці. Нават двойчы паказаны ў той час на БТ фільм «Нянавісць: дзеці хлусні» адбіўся ў маёй свядомасці не перакручаным сэнсам, а рамантыкай змагання і нацыянальнага адраджэння. Калі меркаваць, то большасць маіх школьных аднагодкаў ужо на той момант былі лаяльныя да незалежнасці Беларусі мовы, ды, у прынцыпе, пачыналі фармавацца як грамадзяне самастойнай дзяржавы. Але, усё ж, пра нейкі іх каштоўнасны выбар на той час гаварыць не даводзілася – ім проста не далі даспець, дакладней, змяніліся ўмовы гэтага грамадскага выспявання. Таму нават сёння большасць з іх не задумваюцца пра нейкую барацьбу ці грамадскую дзейнасць, бо маюць задавальняючы іх сацыяльны кантракт з дзяржавай. Магчыма, часам яны крытыкуюць існуючую эканамічную мадэль і прэзідэнта, але не маюць у галовах дакладнай альтэрнатывы наўзамен і адказу на пытанне, што ім самім рабіць.

## Пятро Кузняцоў

Адзін мой аднакласнік стаўся супрацоўнікам КДБ. Уяўляю, калі яго таксама б аб гэтым спытаць.

Калі сур'ёзна, то жыццё – складаная штука, і на нашыя паводзіны ўплывае шмат фактараў. І соцыум, і сям'я, і нават якія кнігі мы чытаем. Ніхто з маіх родных ніколі не быў у баку, затое ўсе былі й ёсць вельмі адказнымі людзьмі, амаль усе ваявалі. Калі я пачынаў сваю дзейнасць, маці сказала: «З Богам!». І я спакойны й шчаслівы сваім лёсам.

## Воля Кузьміч

Аднакласнікаў у мяне дзве кагорты. Першая – у вясковай базавай школе. З іх, на жаль, большасць так і засталася там, не працягнуўшы адукацыю. Другія мае аднакласнікі – лунінецкія ліцэісты, з многімі з якіх я й цяпер у добрым кантакце, аднак у грамадскую дзейнасць з іх, бадай, ніхто не пайшоў ці не застаўся ў ёй. Таму паразважаць, чаму так, не проста, але цікава.

Так выйшла, што вандравала з дзяцінства па розных санаторыях-лагерах. Таму з першых класаў з'явілася звычка, а потым і прага да новых знаёмстваў, камунікацыі ды творчых задумаў. Старалася не замыкацца на школе, перапісвалася з падлеткамі з Беларусі ды іншых краін. Далей паступіла ў ліцэй і пераехала з вёскі ў горад, жыла ў інтэрнаце, потым – у сваякоў. З настаўнікамі ў ліцэі шанцавала. Яны стараліся навучыць нас найперш думаць і абгрунтоўваць свае рашэнні, іншыя, наадварот, выклікалі пратэст. Таму першы досвед грамадскай ініцыятывы атрымаўся якраз у ліцэі, калі ўсім класам дзеля эксперымента перайшлі на беларускую мову і расейскую літаратуру таксама адказвалі па-беларуску.

У вясковай беларускамоўнай школе я была адзінай, хто вучыўся па-расейску, атрымлівала падручнікі на расейскай мове і адказвала па-расейску. Мае бацькі ўсё жыццё пражылі на вёсцы, як і большасць сваякоў. Тады, у 80-х, за СССРам, бацькі, жадаючы мне лепшага, лічылі, што большыя магчымасці для адукацыі і перспектыў працы мне дасць расейская мова. Аднак, перайшоўшы вучыцца ў ліцэй, дзе ўсё навучанне было па-расейску, а беларуская была толькі некалькі гадзін у тыдзень, я зразумела, што нашае – якраз беларускае і ў гэтым перспектыва. У 9-м класе нашу ініцыятыву па пераходзе на беларускую падтрымалі і некалькі профільных настаўнікаў. Гэта быў 96-ы год, аднак актыўныя менскія падзеі не аказвалі вялікага ўплыву на размеранае жыццё маленькага горада. Прыгадваюцца школьныя ініцыятывы па абароне «Пагоні», калі ў адказ на рашэнне дырэктаркі зняць герб мы штодня малявалі яго крэйдай на дошцы. З аднакласнікамі хацелі зрабіць грамадскую ініцыятыву, аднак праз недахоп разумення, як гэта робіцца, далей за абдумванне назову і сімвала справа не

пайшла. А там ужо раз’ехаліся па ўніверах, і пачалася іншая гісторыя – не пра аднакласнікаў, а пра аднагрупнікаў.

Аднак найпершы штуршок ці спрыяльную глебу для грамадскай актыўнасці дало выхаванне дома ў вялікай сям’і. Бацькі з дзяцінства ўкладалі нам у галаву важнасць развівацца, ісці да пастаўленых мэтаў, адказваць за свае рашэнні з ранняга ўзросту, не мірыцца з несправядлівасцю і падтрымліваць слабейшых за цябе. Дый самі яны добры прыклад грамадскай дзейнасці – прынамсі, у межах вёскі і вялікай сям’і. Хоць самі пра тое, што яны грамадскія дзеячы, хіба што не ведаюць:)

На выбар дзейнасці кожнага з нас – і мяне, і маіх аднакласнікаў, напэўна, у роўнай ступені паўплывала выхаванне ў сям’і – калі закладаюцца першасныя рысы характару, адукацыя, інфармаванасць, перажытыя падзеі і яркія прыклады людзей вакол.

### Ігар Лапеха

Думаю, што моцна паўплывала выхаванне. Мне проста трапляліся ў розныя перыяды майго жыцця, тыя людзі, якія мяне і зрабілі такім, які я ёсць. Найбольш на станаўленне асобы ўплываюць людзі. Напэўна, маім аднакласнікам яны проста не трапіліся.

### Ян Лялевіч

Проста кожны пакліканы да чагосьці свайго і, адпаведна, мае схільнае да таго ці іншага сэрца. Нездарма ж, грамадская дзейнасць – толькі адзін з трох сектараў актыўнасці.

### Юлія Міцкевіч

Напэўна таму, што ў мяне ў школе была мянушка «прэм’ер-міністр», а ў іх – не.

### Васіль Палякоў

Складана сказаць адназначна. Кожны абірае свой шлях, не апошнюю ролю тут адыгрываюць і абставіны, якія склаліся ў жыцці.

Мяне заўсёды цікавіла палітыка. Перабудова, падзеі, якія разгортваліся ва Усходняй Еўропе пры канцы 80-х гадоў, жнівеньскі путч 1991 года ў Маскве, распад СССР – усё гэта разгортвалася на маіх вачах і не магло не паўплываць на студэнта-гісторыка.

Перыяд пэўнай дэмакратызацыі пачатку 90-х гадоў наклаў свой адбітак на ўспрыманне свету і не дазволіў пазней «схавацца» ад грамадска-палітычных рэалій, падштурхнуў да грамадскай дзейнасці.

### Аляксандр Самец

Яшчэ ў часы вучобы ў сярэдняй школе любімым прадметам для мяне была гісторыя. Асабліва гісторыя Беларусі. Мяне вельмі цікавілі аповеды старажылаў пра жыццё за палякамі, пры першых саветах, пры немцах. Я параўноўваў гэтыя аповеды з тым, што было напісана ў падручніках, і навідавоку была, мякка кажучы, нестыкоўка. Тады задумаўся, дзе праўда? Адказ шукаю да сёння.

А што датычыць маіх аднакласнікаў, то гэта ў іх трэба спытаць, чаму яны нічым не займаюцца. Напэўна, проста жывуць паводле прынцыпу «як усе».

### Юра Сідун

Я змяніў чатыры школы і магу пэўна сказаць толькі пра аднакласнікаў з апошняй з іх. У апошніх класах школы прынамсі тры мае аднакласнікі далучыліся да грамадскай дзейнасці разам са мной. Пазней, праўда, яны адышлі ад яе. Аднак нечакана для мяне іншыя людзі, што вучыліся са мной у класе, пазней перыядычна далучаліся да грамадскай дзейнасці ў розных формах. У тым ліку два мае школьныя сябры актыўна ўдзельнічалі ў Плошчы 2006 года.

### Тарэса Собаль

Мне складана адказаць на гэтае пытанне. Мы тадыраслі ў такі час, што ўсе павінны былі нечым займацца. Спачатку – у піянерах, потым – у камсамоле. Але ці тое было насамрэч нейкай дзейнасцю? Усё вырашалася ў вярхах, там камандавалі, што і як рабіць.

Такое і цяпер захавалася. Цяпер «Дом Польскі» ў Івянцы аддалі афіцыйнаму СПБ, то ўсе мерапрыемствы там па разнарадцы праводзяцца. Камандуюць – ідзі спявай, – і людзі ідуць. Без ахвоты і без душы.

Я таксама не адразу ўцягнулася ў дзейнасць Саюза палякаў. Усё паступова. Так выйшла, што стала кіраваць івянецкай філіяй. Выпадкова нават, але цяпер магу параўнаць тое, што мы рабілі самі ад пачатку 90-х, і тое, што рабілі раней.

### Вольга Стужынская

З ліцэістаў, з якімі навучалася разам, якраз шмат хто займаецца грамадскай дзейнасцю і ў Беларусі, і за мяжой. Добрая адукацыя і выхаванне нарадзілі пачуццё прыналежнасці да «беларушчыны», узрасцілі гонар за сваю краіну, яе мову, культуру і гісторыю, падштурхнулі да грамадскай актыўнасці. Таксама гэта ідзе з сям'і. Мая маці – гісторык, да таго ж вельмі актыўная ў грамадскім сектары, паўплывала на мой выбар прафесіі і дзейнасці.

### Алена Талапіла

А шэраг маіх аднакласнікаў стаў займацца грамадскаю дзейнасцю, таму катэгарычнасць гэтага пытання не для мяне. Думаю, адказ пра пачатак для нас усіх будзе больш-менш падобны: добрыя кнігі, добрыя настаўнікі, агульны настрой у краіне…

Важней, на маё меркаванне, было б адшукаць адказ на пытанне, чаму я працягваю займацца грамадскаю дзейнасцю. Прычына палягае ў тым, што я лічу палітыку грунтоўнаю часткаю чалавечага жыцця. І палітыку не ў выглядзе

«прыйшлі–прагаласавалі–чакаем наступных выбараў», а як удзел у жыцці грамадства, у вырашэнні агульных пытанняў.

### Паліна Уліна

А я не ведаю, чым займаюцца мае аднакласнікі. Так склалася, што мы амаль не кантактуем. Хаця адна дзяўчына спрабавала займацца, але перастала. Прычыны банальныя: людзі не гатовыя ахвяраваць сваім часам, у кагосьці проста няма жадання займацца хаця б чым, хтосьці пачынае займацца, але ад таго, што адразу не бачна выніку – кідае.

### Сяргей Чалы

Напэўна, ім гэта проста не цікава. Я не лічу, што ўсе павінны займацца грамадскай дзейнасцю. Гэта справа асобных людзей. Гаварыць аб тым, што большасць павінна нечым займацца па-за сваёй асноўнай працай няправільна. Каму тое цікава, той і займаецца грамадскімі справамі.

Чаму цікава мне – нават не ведаю. Я належу да пакалення, якое прыпала на самы разлом, час вялікіх пераменаў. Мы засталі савецкі час, перабудову, потым незалежнасць. Ёсць магчымасць параўноўваць. У такія моманты пачынаеш задумвацца, што адбываецца. Я па адукацыі фізік-тэарэтык, і гэта наклала свой адбітак. Міжволі пэўныя схемы і мадэлі з фізікі накладваліся на грамадскае жыццё краіны. Я зразумеў, што скіраванымі намаганнямі можна паўплываць на сітуацыю ў грамадстве, нават змяніць хаду гісторыі. Таму і вылез з бярлога.

Цяпер адчуваецца той момант, калі можна гэта зрабіць. І варта паспрабаваць.

### Іван Шыла

Грамадская дзейнасць для мяне – рэалізацыя задум, самарэалізацыя, сябры, будучыня і ўспаміны. Але людзі розныя і па-рознаму хочуць бавіць вольны час. Гэта нармальна і натуральна, што мае аднакласнікі рэалізуюць сябе ў іншых

кірунках альбо проста навучаюцца і атрымоўваюць адукацыю, абмяжоўваючы публічную актыўнасць да нуля.

Да таго ж, многія падыходзяць да жыцця вельмі прагматычна, не пакідаючы анічога па-за межамі ўласнага гаманца, хай сабе і будучага, уяўнага. Грамадская дзейнасць не прыносіць прыбытку, затое можа прывесці да праблем. Пасля таго як мяне выключылі са школы, наўрад ці нехта з маіх аднакласнікаў у бліжэйшай будучыні захоча рызыкаваць навучаннем ці кар’ерай.

У кожнага свае каштоўнасці і прынцыпы. Я кіруюся тэзай, што быць грамадзянінам – азначае думаць не толькі пра сябе. Хтосьці можа думаць зусім па-іншаму. І я паважаю гэтае меркаванне і не магу адназначна сказаць, як лепш і хто мае рацыю.

### Ігар Шынкарык

Няпростае пытанне. Аднакласнікі і аднакурснікі не займаюцца грамадскай дзейнасцю. Цікавяцца трохі, сайты чытаюць. Але не больш за тое. Дакладна адказаць на гэтае пытанне не магу. Як адзначыла адна мая знаёмая, мая зацікаўленасць у грамадскай дзейнасці звязаная з абвостраным пачуццём справядлівасці.

Упершыню мая грамадская актыўнасць праявілася падчас удзелу разам з аднакурснікамі ў першых Дзядах. З таго ўсё пачалося. Гэта былі студэнцкія гады. Пазней дзейнасць то прыгасала, то расла.

### Кастусь Шыталь

У свядомасці большасці беларусаў адсутнічае разуменне адказнасці за тое, што адбываецца ў грамадстве. Бацькі і школа гэтаму не вучаць, а абсяг распаўсюду незалежнай інфармацыі і ідэй невялікі. Таму я не магу асуджаць сваіх аднагодкаў за іх абыякавасць да грамадскага жыцця – яны гэтага проста не разумеюць.

### Генадзь Шэпелеў

Мне заўсёды цікава было гэтым займацца. Знаёміцца з новымі людзьмі беларускамоўнымі. Пра іншых не магу сказаць, чаму не цікавяцца такім. Магчыма, проста не ведаюць, што яны беларусы.

Я таксама некалі быў «пашпартным» беларусам. Пазней пазнаёміўся з музыкай, іншымі рэчамі. Мне цікава гэта.

Да беларускасці павінен быць штуршок. Для мяне такім штуршком былі першыя выбары. Тады прасілі дапамагчы падчас выбараў, і я прыйшоў у БНФ. А потым, пасля ганебнага рэферэндуму, я перайшоў цалкам на беларускую мову.

### Аляксандра Якубоўская

Чаму мае аднакласнікі не сталі займацца грамадскай дзейнасцю, я не ведаю. Магчыма, іншыя прыярытэты ў жыцці, а мо проста папалі ў іншую плынь, якая іх больш зацікавіла. Можа, у будучыні некаторыя яшчэ зоймуцца гэтым. Патэнцыял ёсць. Я ж стала займацца грамадскай дзейнасцю, бо адчувала неабходнасць у нейкіх зменах у краіне, немагчымасць заставацца простым назіральнікам, хацелася неяк дапамагчы.

### Уладзімір Яроменак

Дакладнага адказу на гэтае пытанне няма. Я мяркую, што гэта проста супадзенне некалькіх фактараў: выхаванне бацькоў, любоў да роднай мовы, культуры, гісторыі, прага да нечага новага, незнаёмага, крыху авантурнага.

### Галіна Яшчанка

Напэўна, таму што я раней пачала цікавіцца грамадска-палітычным жыццём краіны і задумвацца пра сэнс жыцця.

## 2. Што Вы даведаліся пра сябе і людзей навокал за час грамадскай дзейнасці, чаго Вы не ведалі раней?

### Настасся Александровіч

Пра сябе даведалася тое, што часам баюся размаўляць па-беларуску, хоць раней думала, што гэта лёгка. А пра людзей – нават складана сказаць. Беларускія ідэі далёка не ўсім патрэбныя ў Беларусі. Часам пад шыльдай змагання за незалежнасць ды дэмакратыю хаваюцца зусім іншыя мэты, што вельмі абурае. Праз гэта і губляеш надзею і веру.

### Сяргей Андросенка

Калі ты робішся публічнай асобай, калі адкрыта выказваеш нейкае гледзішча, а тым больш, калі прыкладаеш намаганні да таго, каб дасягнуць той рэальнасці, якую бачыш ідэальнай для сябе, да цябе пачынаюць ставіцца па-новаму. Ты становішся або своеасаблівым кумірам, або аб'ектам для крытыкі.

Калі я пачаў актыўна займацца пытаннем правоў ЛГБТ, робячы гэта так, як бачу гэта слушным я, знайшоў шмат аднадумцаў, але таксама знайшоў сярод сяброў і знаёмых і тых, хто адрокся мяне менавіта праз маю актыўную пазіцыю. Часам нават не праз гамафобію ці ідэалагічныя спрэчкі, а проста праз актыўнасць.

Часам прычынай дыстанцыявання магла служыць тэматыка маёй дзейнасці, метады, партнёры ў рэалізацыі сумесных праектаў, нават мая палітычная прыналежнасць і мова, а часам сукупнасць гэтых фактараў. Я даведаўся, што з

першага погляду сур’ёзныя людзі часта бываюць непаслядоўнымі, лёгка змяняюць сваё меркаванне, могуць «саскочыць» у апошні момант або калі нешта ідзе не па плане.

Але не хочацца толькі аб сумным. За час сваёй грамадскай практыкі таксама даведаўся аб тым, што ў Беларусі ёсць неабыякавыя і смелыя людзі. Я марыў аб гей-прайдзе ў Мінску з 2007 года, тады я быў адзін, сам-насам са сваёй ідэяй. Цяпер я ўжо далёка не адзін у сваім імкненні да магчымасці карыстацца ўсёй паўнатой сваіх канстытуцыйных правоў на практыцы і ў дзеянні да дасягнення поўнага раўнапраўя ў Беларусі для ЛГБТ.

### Сяргей Антусевіч

Пра сябе – ніколі не думаў, што столькі часу буду займацца грамадскай дзейнасцю, што мяне, маіх сіл хопіць на тое, каб трымаць «удары лёсу», пра людзей, напэўна, мала даведаўся, бо за гэты час магу пахваліцца толькі некалькімі сотнямі людзей, з якімі давялося камунікаваць, а кожны чалавек – гэта сусвет… Зразумеў, што калі хочаш рухацца далей у жыцці і грамадскай дзейнасці, то трэба ўмець дараваць, без гэтага немагчыма, бо людзі не робаты, яны стамляюцца, яны робяць памылкі, часам здраджваюць…

### Ігар Банцар

Прыходзячы ў грамадскую дзейнасць, я меў 14–15 год і быў трохі наіўным рамантычным маладым чалавекам, які верыў, што можа лёгка змяніць свет навокал. Аднак з цягам часу прыйшло разуменне таго, што ўсе людзі – розныя, у кожнага свае інтарэсы.

Самае прыкрае адкрыццё для мяне як для чалавека, які лічыць сябе патрыётам Беларусі, гэта тое, што, на вялікі жаль, шмат людзей праз свае амбіцыі ставяць уласныя інтарэсы вышэй за інтарэсы ўсяго грамадства, вышэй за інтарэсы сваёй краіны.

## Павал Батуеў

Цяжка сказаць… У прынцыпе, за гэты час я пераканаўся, што людзі неабыякавыя. Пры пэўным індывідуальным падыходзе ў кожным чалавеку можна знайсці нешта, нейкую ягоную ўласную пазіцыю. Людзям можна нешта данесці, нешта растлумачыць. Маё асабістае стаўленне да людзей змянілася ў лепшы бок.

## Яраслаў Берніковіч

Пра сябе са здзіўленнем даведаўся, што маю пэўныя арганізатарскія здольнасці, магчыма, нават лідарскія якасці. Яшчэ год дзесяць таму я і ўявіць сабе не мог, што буду ўдзельнічаць, да прыкладу, у парламенцкіх выбарах. Таксама ніколі не думаў, што стану прадпрымальнікам, што буду выдаваць газету. Бо паводле адукацыі я тэхнік-будаўнік, некалі працаваў прарабам, майстрам на будоўлі. А ўвогуле ледзьве не стаўся прафесійным вайскоўцам: служыў на Далёкім Усходзе ў зенітна-ракетных войсках і пасля тэрміновай службы застаўся на тры гады. Аднак вайсковая кар'ера не атрымалася – пасля развалу Савецкага Саюза давялося б даваць прысягу ўжо на вернасць Расеі, а я гэтага не хацеў. Таму і вярнуўся на радзіму.

Пра людзей, якія цяпер вакол мяне, магу сказаць так: мяне дзівіць і адначасова выклікае захапленне чалавечая спагадлівасць. Беларусы, аказваецца, болей не прагматыкі, а, хутчэй, рамантыкі – яны здольныя рабіць бясплатна, здавалася б, зусім непатрэбныя кожнаму з іх асабіста рэчы. Згадайце, што такое «талака», і зразумееце, што нашы людзі адвеку былі гатовыя да грамадскай, на агульную карысць, дзейнасці.

## Аляксей Валабуеў

Не магу сказаць, што зрабіў нейкія велізарныя адкрыцці ў антрапалогіі. Хіба яшчэ больш пераканаўся, што калі чалавек ставіць нейкія мэты і накіравана да іх рухаецца, дык ён іх абавязкова дасягне.

## Вераніка Велігор

Аказалася, я магу кіраваць невялікай групай людзей, запланаваць і правесці акцыю. Калі захачу, магу пераадолець страх перад выпрабаваннем… Пра людзей? А каго Вы адносіце да людзей? Я магу падзяліць «суполку» «людзі» на некалькі падсуполак і ахарактарызаваць, але не буду… Увогуле, пра людзей я даведалася, што яны дэградуюць (50 % – дакладна!). І тыя, якія вераць, што яны паходзяць ад малпаў, у малпаў і ператвараюцца.

## Аляксей Дзермант

Па-першае, што людзі ў нашай краіне насамрэч вельмі прыгожыя і цікавыя. Цікава ездзіць па краіне і камунікаваць з імі. Для мяне гэта было вялікім адкрыццём. Калі існуе патрэба камунікацыі і яна не знікае, нягледзячы ні на што, з'яўляюцца людзі з самымі рознымі імёнамі, узнікае патрэба збліжэння з імі. Праз людзей адкрываецца невядомая для цябе краіна. І ў сабе адкрываюцца невядомыя раней струны душы, элементы ўласнай асобы, якія адкрываюцца праз іншых людзей. Такое ўзаемаўзбагачэнне, я б сказаў.

## Эдвард Дмухоўскі

Калі ты жывеш сваім жыццём, маеш магчымасць чытаць незалежныя газеты, ходзіш на сваю штодзённую працу, з некім сябруеш, кагосьці кахаеш, у цябе складваецца нармальнае жыццё – ты ў курсе ўсяго. Складваецца ўражанне, што большасць людзей жыве ў такім самым свеце, што і твой.

А калі пачынаеш працаваць з людзьмі рэальна, ходзіш па кватэрах, цябе спачатку халоднай вадой абліваюць, потым гарачай, потым абухом па галаве. Ты шакаваны, разумееш, чаму менавіта такі прэзідэнт у краіне і менавіта такая сітуацыя, а не іншая.

Я думаў, што Цэнтральная Беларусь – гэта сапраўдны беларускі край, што ў Менску беларуская мова на сур'ёзным узроўні. Калі ўпершыню трапіў у Менск у 1996 годзе на дэманстрацыю ў Дзень Волі, убачыў, што гэта ўсё сам сабе прыдумаў, што рэальнасць зусім іншая. Што трэба аддана працаваць, каб нешта змянілася.

### Алесь Гелагаеў

Самае галоўнае – гэта разуменне разнастайнасці Беларусі і разнастайнасці лёсаў, сямейных гісторый, поглядаў жыхароў краіны. З кожным трэба размаўляць, да кожнага трэба шукаць падыход, нікога не трэба адштурхоўваць. Толькі гэта дазволіць дабудаваць сапраўдную нацыянальную дзяржаву – адзіную ў яе разнастайнасці.

### Юрый Казак

Аналізуючы сваю дзейнасць, убачыў большасць сваіх недахопаў і добрых якасцяў. Заўважыў і пачаў пазбывацца ад дрэнных якасцяў і развіваць добрыя. Даведаўся, што, каб змяніць менталітэт беларусаў і дрэннае стаўленне грамадства да апазіцыі, трэба змяняцца самому найперш, каб прапанаваць альтэрнатыву, каб прыцягнуць людзей і зацікавіць да змянення саміх без прымусу.

Наконт людзей магу сказаць, як хрысціянін, што большасць праблем у нашым грамадстве з’явілася пасля 70-гадовага камуністычнага (а можа, і ранейшага) адрачэння Бога і Яго Прынцыпаў. Хрысціянства і вера ў Госпада Ісуса Хрыста – адзінае, што можа аб’яднаць наш народ супраць таталітарызму і дэспатычнай улады. Бо нашы людзі моцна расчараваліся ў апазіцыі за 15 год.

### Ганна Канюс

Людзей спазнаюць, калі разам перажываюць і беды, і ўдачы. Занятак грамадскай дзейнасцю ў нашай краіне – гэта пастаянная барацьба. Твае паплечнікі часта аказваюцца сапернікамі, а мне пашанцавала – тыя людзі, з якімі я пачынала, і цяпер мяне падтрымліваюць – радай, тэлефанаваннямі, усяляк пасабляюць.

## Віталь Каратыш

1. Прыйшоў да высновы, што запалоханыя слабыя людзі могуць рабіць страшныя рэчы.
2. Стаў цаніць сапраўднае сяброўства.

## Юрый Карэтнікаў

Па-першае, даведаўся і пачаў разумець, у чым розніца паміж грамадскім і палітычным сектарамі, даведаўся пра розныя кірункі працы і дзейнасці. Мая грамадская праца пачыналася са звычайнага ўдзелу ў мітынгах і шэсцях і толькі з часам пачала выходзіць за гэтыя межы, хаця пэўныя сантыменты да тых «гарачых» падзей Вясны-96 маю і сёння.

Грамадская дзейнасць прывяла да высновы, што калі хочаш нешта зрабіць добра, якасна, то павінен сам браць за гэта адказнасць. У сваёй працы ты мусіш праяўляць свае здольнасці, уласным прыкладам матываваць іншых. З часам стаў разумець, што Беларусь і свет шырэйшыя, чым ты гэта разумееш, і што хутка ўсё мяняецца толькі ў кіно, у рэальнасці ўсё значна складанейшае.

## Пятро Кузняцоў

Я дакладна цяпер ведаю дзве рэчы: добрую і дрэнную. Добрае палягае ў тым, што людзі, усе, заўсёды ставяцца да цябе прыязна, калі бачаць, што ты добра й сумленна робіш сваю працу. То бок нашы людзі – не злыя, не зайздросныя, а вельмі й вельмі добрыя, а таксама разборлівыя.

Але ёсць і дрэннае. Беларусам не стае ініцыятыўнасці ды адказнасці. «Хата з краю» – не зусім літаральна апісвае сітуацыю, але блізка. Але ж, спадарства, хаты з краю рабуюць першымі…

Пра сябе? Пра сябе я даведаўся, напэўна, тое, што мне сёння цікавае літаральна ўсё. Я раней не думаў, што мне захочацца рабіць, рабіць, рабіць – няважна што, але каб гэта прыносіла карысць. Працагалізм? Не. Шкада губляць час… Я не ведаў, што магу і хачу так жыць.

## Воля Кузьміч

Да актыўнай грамадскай дзейнасці далучылася з першага курса. Не магу сказаць, што падлеткам я шмат пра сябе ведала, бо ў школьныя часы ідзе хутчэй пазнаванне/спрабаванне свету, пошукі сябе – навучанне, музыка, хобі, сябры. Раскрыццё і крышталізацыя набытых рысаў адбываецца крыху пазней. Таму асэнсаванае пазнаванне сябе ў мяне праходзіла якраз у часы грамадскай дзейнасці – у студэнцкія гады. Пра сябе даведалася шмат. Грамадская дзейнасць непадзельна звязаная з адказнасцю, рызыкай, неабходнасцю камунікаваць з людзьмі рознымі, пераконваць і матываваць, уменнем ставіць мэты і ісці да іх, прымаць рашэнні, пастаянна самаадукоўвацца, памятаць, што ты можаш быць прыкладам іншым. Такія ўмовы ў карацейшыя тэрміны «знаёмяць» з сабою.

## Ігар Лапеха

Навучыўся лепш разбірацца ў сабе і людзях. І думаю, што гэта галоўная якасць. Самая патрэбная.

## Ян Лялевіч

Прызнацца, цяжка сябе ацаніць. Але напэўна ведаю, што навучыўся наладжваць сувязь з людзьмі розных характараў, каштоўнасцяў і нават рэлігійных ды палітычных поглядаў. Пра людзей: зразумеў, што ў грамадскай актыўнасці задзейнічаны не толькі тыя, хто ў яе верыць, але таксама тыя, хто верацьу таго, хто верыць у гэтую дзейнасць, і таксама тыя, хто верыць у задавальненне сваіх патрэб праз грамадскую дзейнасць, а тут і фінансы, амбіцыі кіраваць, сяброўства і г.д.

## Юлія Міцкевіч

Што і я, і многія іншыя людзі здольныя зрабіць нашмат болей, чым гэта нам часам падаецца.

### Васіль Палякоў

Пра сябе – нічога новага. Але грамадская дзейнасць дазволіла лепш разабрацца ў сабе, вызначыць пэўныя прыярытэты і працаваць больш мэтанакіравана.

Калі казаць пра людзей, якія таксама займаюцца грамадскай дзейнасцю, то яны хутчэй уразілі мяне сваёй адданасцю справе, некаторыя – нават самаахвярнасцю. Не магу сказаць, што ўсе, бо ёсць розныя людзі з рознымі недахопамі, але ў большасці гэта дастойныя людзі.

Што тычыцца людзей далёкіх ад усяго гэтага, ад грамадскай дзейнасці, стаўленне да іх ніяк не змянілася, як, мне падаецца, і з іх боку да мяне. Некаторыя знаёмыя, праўда, вельмі мяне здзівілі сваім жаданнем дагадзіць уладам, калі пачалі рабіць нейкую кар'еру. Не зусім разумею людзей, гатовых прыніжаць іншых, каб узвысіцца самім, гатовых ілжэсведчыць і крывадушнічаць.

### Аляксандр Самец

Пра сябе даведаўся тое, што я ёсць белай варонай у чорнай зграі. Пра людзей – што яны ў асноўнай масе затурканыя, абыякавыя, «сляпыя нібы краты», палахлівыя, жывуць паводле прынцыпу «абы было добра». Мо яно і грэшна так гаварыць пра людзей, але я інакш не магу.

### Юра Сідун

Павялічыўся жыццёвы досвед, аднак не думаю, што гэта звязана менавіта з грамадскай дзейнасцю.

### Тарэса Собаль

Розныя рэчы даведалася. Асабліва шмат уражанняў было пасля 2005 года, калі раскалоўся СПБ. Мы тады падтрымалі Борыс адкрыта. І адразу ж адчулі змену

стаўлення да сябе. Тады я даведалася, якімі здраднікамі могуць быць людзі. Нават тыя, хто некалі побач з табой пачынаў адну супольную справу.

Вось гэта было новым, нягледзячы нават на тое, што я ў сталым узросце занялася справамі СПБ. Здавалася б, і жыццёвы вопыт быў, але неяк раней з такім не сутыкалася.

### Вольга Стужынская

Працуючы, я здабыла разуменне, што голас і ўчынкі кожнага грамадзяніна могуць стаць унёскам у перамены і развіццё. Галоўнае, чаго не хапае нашаму грамадству сёння, – гэта паверыць, што дзейнасць кожнага з нас дапаможа зрабіць жыццё ў Беларусі больш якасным ва ўсіх сферах.

Пра сябе зразумела, што з'яўляюся сапраўднай патрыёткай сваёй краіны, і дзе б ў свеце ні знаходзілася і чым бы ні займалася ў будучыні, частка маёй працы заўсёды будзе завязана з Беларуссю.

### Алена Талапіла

Я прыйшла ў сваю першую арганізацыю, Задзіночанне беларускіх студэнтаў, калі мне было 18 гадоў. Я сталею і даведваюся шмат новага, і цяжка сказаць, за які досвед мне трэба дзякаваць выключна грамадскай дзейнасці. Галоўны ўплыў, мяркую, у тым, што значна павялічылася кола знаёмых і сяброў, а дзякуючы ім, пэўна, змянілася і я.

### Паліна Уліна

Пра сябе – што я магу даводзіць справы да канца, але даведалася таксама, як гэта, калі цяжка псіхалагічна.

Пра іншых… Нельга сказаць, што нешта новае: і ў звычайным жыцці цябе могуць як расчароўваць, так і радаваць тыя, хто побач.

### Сяргей Чалы

Пра людзей я шмат ведаў і да гэтага. Раней я працаваў у фінансавай кампаніі, на фінансавым рынку, а гэты занятак вельмі дапамагае ў разуменні масавай псіхалогіі. Тады я зразумеў, што людзі ірацыянальныя і пры гэтым прадказальна ірацыянальныя. Я не чакаю шмат ад людзей, таму асабліва і не расчароўваюся ў іх.

Справа ў тым, што большасць людзей жыве не задумваючыся. А праблема ў тым, што такія паводзіны памылковыя. У пераломныя моманты варта змяніць алгарытмы паводзінаў. Менавіта ў гэтым заключаецца праца з грамадствам. Трэба прымусіць людзей сумнявацца ў правільнасці іх адносінаў. Гэта працуе. Нават чалавек з адным сваім блогам здольны шмат што зрабіць.

Чалавек – істота лянотная. Спачатку цяжка далучыць некага да сваёй дзейнасці, бо ніхто не верыць у паспяховасць праекта. А потым ужо ніхто не хоча далучацца, бо разлічваюць, быццам ты сам усё зробіш.

### Іван Шыла

Грамадская дзейнасць у маім выпадку пацягнула за сабой крымінальныя справы, затрыманні і выключэнні. У такіх сітуацыях выяўляюцца палярныя якасці людзей. Гэта і выпрабаванне сябе самога, тваіх ідэй і трываласці. Магчыма, гэта карысны досвед, хоць і часта непрыемны. У той жа момант, грамадская дзейнасць – гэта супольная праца, супольныя поспехі, праблемы, праца ў камандзе, новыя веды і знаёмствы. Гэта многае дае.

### Ігар Шынкарык

Пра людзей даведваешся шмат. Перыядычна, калі збіраемся кампаніяй, я згадваю прымаўку пра тое, што чым больш пазнаеш людзей, тым больш падабаюцца сабакі.

Грамадская дзейнасць у нашай краіне звязаная больш з турботамі, чым з прывілеямі. А калі ёсць турботы і рэпрэсіі, людзі раскрываюцца з розных бакоў. У залежнасці ад абставінаў. Да некага лепш пачынаеш ставіцца, некаму перастаеш руку падаваць.

### Генадзь Шэпелеў

Галоўная выснова – гэта тое, што людзі прыхільна ставяцца да нацыянальнай культуры і мовы. Толькі аднойчы ў мяне было так, каб чалавек паставіўся да мяне крытычна, сказаў, каб я спачатку навучыўся размаўляць, а потым ужо браўся. Мне ж складана было адразу з расейскай мовы перайсці на беларускую – шмат памылак рабіў.

Усе людзі да мяне і маёй культурніцкай дзейнасці ставяцца прыязна. Да культуры, да мовы. Гэта мая асноўная выснова за гэтыя гады.

### Аляксандра Якубоўская

За час грамадскай дзейнасці я, можна сказаць, не дазнавалася, а спазнавала людзей. Пачала лепш разбірацца ў людзях, сустрэлася з мноствам цікавых асоб. Але, з другога боку, не раз прыходзіла мне думка, што, каб разварушыць людзей на якую-небудзь актыўнасць, трэба пастарацца. Няпроста зацікавіць сярэднестатыстычнага беларуса…

### Уладзімір Яроменак

Шмат чаго. Напрыклад, ніколі б не ўявіў сябе на даху шматпавярховіка, які вывешвае нацыянальныя сцягі ў цэнтры Менска, ніколі не думаў, што маю столькі рашучасці, каб рухацца па жыцці супраць плыні. Я ўласнымі вачыма ўбачыў людзей, якія гатовыя ахвяраваць усім дзеля сваёй Радзімы, якія гатовыя пакласці галовы за свае перакананні.

### Галіна Яшчанка

Даведалася, што вакол ёсць шмат аднадумцаў, праца ў камандзе з якімі можа мець плённыя вынікі для грамадства і прыносіць асабістае задавальненне.

# 3. Назавіце людзей, кнігу і (ці) падзею, якія паўплывалі на Ваша кшталтаванне як асобы

### Настасся Александровіч

На мяне вельмі паўплывала мая бабуля (нарадзілася 25 сакавіка; упершыню з ёй трапіла на выбары 1994 года – ставіла птушачку за Пазняка), беларускамоўны садок, выкладчык беларускай мовы і літаратуры ў каледжы, які стварыў музей Караткевіча. Я заўжды ўдзельнічала ў мерапрыемствах да дня народзінаў Караткевіча (нарадзілася з ім у адзін дзень, дарэчы).

### Сяргей Андросенка

Вельмі паўплывала на мяне як на асобу мая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Налівайка Любоў Уладзіміраўна, якая вучыла мяне ў 5–8 класах у сярэдняй школе № 120 горада Мінска. Нават калі яна ў мяне ўжо не выкладала, мы маглі проста сустракацца для гутарак. Яна была чалавекам прынцыповым, заўсёды размаўляла па-беларуску і была адзінай такой на ўсю школу. На яе часта з гэтай нагоды рэагавалі як на дзівачку, называлі «бэнээфаўкай». Яна была вельмі аб’ектыўнай і строгай. Нават нягледзячы на тое, што я быў яе любімчыкам, яна ніколі не давала мне паблажкі і заўсёды ставіла мне тую адзнаку, якую я заслужыў.

Канчаткова я ідэнтыфікаваў сябе геем пасля таго, як прачытаў у 16 год брашуру тагачаснай Беларускай лігі за сексуальную роўнасць «Лямбда». Тады ж, будучы пазаштатным карэспандэнтам газеты для дзяцей і падлеткаў «Раніца»,

я ўпершыню звярнуўся да тэмы стаўлення да ЛГБТ, напісаўшы ў юнацкую газету артыкул «Гомасексуальнасць: хвароба ці асабістая справа кожнага». Артыкул апублікавалі ў нумары за 28 кастрычніка 2004 года. У газеты была вельмі прагрэсіўная рэдактарка на той час – Святлана Яскевіч.

З гэтага часу я, канчаткова зразумеўшы, хто я, пачаў дэталёва вывучаць гэтую тэму – гомасексуальнасць, правы ЛГБТ, жыццё ЛГБТ-асоб. Мне было важна ведаць пра сябе больш. У школе я ніколі не чуў інфармацыю пра гомасексуальнасць, аднаполыя стасункі, акрамя як у брудных абразлівых жартах ад аднакласнікаў.

Вывучаючы з'яву, я і зразумеў усю шырыню такіх паняткаў, як «гамафобія» і «дыскрымінацыя».

### Сяргей Антусевіч

Найперш бацькі, родныя. Калі я закончыў сярэднюю школу, скончыў жыццё Савецкі Саюз. 1991 год, вучоба ў Менску, самастойнасць, бурнае палітычнае жыццё ў новай незалежнай краіне – гэта моцна ўплывала.

Кніга, якая моцна паўплывала – «Крокі гісторыі» Аўгена Калубовіча.

Сястра ўзяла яе ў бібліятэцы для падрыхтоўкі да іспыту, я яе прачытаў за пару дзён. Яна невялікая, але там лёс краіны, хіба што ў самы складаны час, лёсы людзей, адданыя гэтай зямлі. Моцна ўразіла. Адрозным стылем, адрозным ад савецкага апісаннем падзей.

### Ігар Банцар

З сучасных беларускіх палітыкаў найбольш на мяне паўплываў Зянон Пазняк. Таксама люблю перачытваць трактаты старажытных філосафаў. Такіх, як Сакрат, Платон ці Арыстоцель. Таксама з цікавасцю перачытваю трактаты Макіявелі.

### Павал Батуеў

Быкаў. Мае антыкамуністычныя перакананні фармаваліся фактычна пад уплывам гэтага аўтара. Салжаніцын таксама моцна паўплываў.

## Яраслаў Бернiковiч

Я шмат чытаў у дзяцінстве, думаю, гэта і пакінула нейкі след у душы. Памятаю, як быў уражаны аповесцю Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Потым прачытаў «Каласы пад сярпом тваім» і пачаў разумець, што такое Беларусь – не рэспубліка ў СССР, а амаль што казачная краіна, дзе даўней жылі незвычайныя героі-людзі.

Памятаю, шокам для мяне было, калі ў войску, неўзабаве пасля прызыву, сяржант-літовец, які з намі размаўляў па-расейску зусім без акцэнту, загаварыў з сябром-земляком па-літоўску. Зніякавеўшы, падумаў: «Аказваецца, не ўсіх абкарналі пад агульны ўзор «савецкага чалавека». Яшчэ ўспамін з часу вайсковай службы: маёр у чарзе кажа: «Белорусский язык – это испорченный поляками русский язык». Гэта была для мяне знявага, і я сказаў тады першае, што прыйшло ў галаву: «Расейская мова – гэта сапсаваная татарамі беларуская». Але сам вучыўся размаўляць па-беларуску цяжка. Калі ў 1995 годзе паехаў да дзядзькі ў Польшчу, а ён, згадаўшы свае карані, прапанаваў размаўляць па-беларуску, мне было сорамна – ён гаварыў вольна, а я падбіраў словы і перакладаў з расейскай у галаве…

## Аляксей Валабуеў

Сярод асоб адзначыў бы маладафронтаўцаў Дзяніса Карнова і Івана Шылу. Сярод кніг найперш адзначыў бы «Сем гадоў Адраджэння, альбо Фрагменты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)» Сяргея Навумчыка. Гэта кніга была выдатным натхняльным прыкладам таго, як і невялікай колькасцю людзей можна шмат чаго змяніць. Безумоўна, і ў гістарычным плане кніга прыадкрыла пэўныя невядомыя мне, але ж важныя моманты з першых незалежных гадоў нашай краіны. У школах пра такое дакладна не распавядаюць.

## Вераніка Велігор

Тут я проста прывяду прыклад у выглядзе некалькіх радкоў (праўда, на расейскай):

*…Лишь именем одним я называюсь,*
*На самом деле все, что именуют мной,*
*Я не один. Нас много. Я живой…*

Не памятаю аўтара гэтых радкоў, але праз іх спрабую сказаць, што мяне ляпілі з розных матэрыялаў: і кнігі, і часопісы, і мітынгі, і бацькі, і родныя, і блізкія, і сябры – кожны ўнёс сваю лепту.

## Аляксей Дзермант

Найперш, гэта знаёмства з дзейнасцю цэнтра «Крыўя». Да яго і далучыўся я – да даследавання традыцыйнай этнічнай культуры, яе прапаганды, культывацыі. У гэтым сэнсе на мяне вялікі ўплыў зрабіў Тодар Кашкурэвіч, знакаміты дудар, даследчык рэлігіі, міфалогіі, а таксама філосаф Сяргей Санько, які паставіў для мяне пэўную планку мыслення. Гэтыя людзі прадвызначылі мой далейшы кірунак. Пасля знаёмства з імі я пачаў спрабаваць нешта рабіць, каб уплываць на іншых.

## Эдвард Дмухоўскі

Канец 90-х, калі адбываліся libературбацыі ў БНФ, зрабіў вялікі ўплыў. Тады стала зразумела, што трэ было ствараць уласную арганізацыю.

А ўвогуле мне заўсёды падабаліся лёгкія гістарычныя раманы Скота, Дзюма. Розныя прыгоды і гэтак далей. Ва ўсіх гэтых творах, як бы тое смешна ні гучала, захоўваўся нейкі рыцарскі дух, дух сяброўства, узаемадапамогі. А для большасці з нас гісторыя Беларусі была адкрыццём. Вось нешта з тых раманаў хацелася перанесці на нашу гісторыю, дзейнасць. Навявала, што ты павінен нешта зрабіць.

Выхаванне таксама было важным. У нас, у Заходняй Беларусі, гэта крыху іначай, чым у іншых месцах краіны. Прывязанасць да роднай старонкі абавязкова прысутнічае.

### Алесь Гелагаеў

Знаёмства з мастаком Барысам Цітовічам і яго сям'ёй у роднай вёсцы маёй бабулі – Заброддзі Вілейскага раёна. Ад іх я атрымаў першыя «антысавецкія» кнігі па гісторыі Беларусі. Потым – вясна 1996 года, пасля чаго я зразумеў, што я – беларускі нацыяналіст. Кнігі Г.К. Чэстэртана і Дж.Р.Р. Толкіна дазволілі мне прыйсці да хрысціянства. Падчас вандроўкі ў Лондан у 1998 годзе я стаў грэка-каталіком, дзякуючы а. Аляксандру Надсану і а. Сяргею Гаеку.

### Юрый Казак

Найперш я хрысціянін і веру ў Ісуса Хрыста, яго сілу і Біблію. А так падзей, людзей і кніг шмат было. Але галоўнай падзеяй у маім жыцці быў прыход у пратэстанцкую царкву «Новае пакаленне»і пакаянне там.

Біблія і ёсць той кнігай, якая паўплывала на мяне. У ёй ёсць адказ амаль на ўсе пытанні, як асабістыя, так і грамадскія.

### Ганна Канюс

А. і Б. Стругацкія «Цяжка быць богам».

### Віталь Каратыш

Кнігі зрабілі мяне такім, якім я ёсць. Не назаву адной пераломнай кнігі, я чытаў усё – ад дэтэктываў да фантастыкі.

## Юрый Карэтнікаў

Паўплываў мой родны дзядзька. Мае шавіністычныя, падлеткавыя ідэі аб славянскім адзінстве Расеі, Украіны, Беларусі ён падверг «жастачайшай» крытыцы. Распавёў пра ВКЛ-Беларусь, БНФ ды Пазняка. Далей ужо былі адкрытыя кнігі У. Арлова, К. Тарасава, Г. Сагановіча, касеты з запісамі А. Мельнікава і Данчыка.

Моцна на маё станаўленне як асобы, лідара, паўплывала «Менская вясна-1996», калі здавалася што наш нацыянальны рэванш непазбежны. На акцыі са школы на «Паўднёвым Захадзе» я, 14-гадовы, спакойна выводзіў 10–15 чалавек аднадумцаў. На той момант, прынамсі ў сталіцы, гэта быў сапраўдны ўздым, на мітынгах-96 я акрыляўся верай, адчуваў салідарнасць і сапраўднае нацыянальнае адзінства. Магчыма, мяне натхнялі надзея на хуткія змены і рамантыка змагання, якія скончыліся расчараваннем рэферэндуму і Восені-96. Далей мая актыўнасць нейкі час праяўлялася больш інерцыйна.

## Пятро Кузняцоў

З блізкіх, якія былі ў маім жыцці, гэта найперш спадар Сяргей Уладзіміравіч Несцяровіч, мой выкладчык беларускае мовы й літаратуры. Сапраўды, якім вялікім можа быць уплыў настаўніка…

Апасрэдна гэта таксама беларускія барды Зміцер Бартосік, Андрусь Мельнікаў, пісьменнікі ды гісторыкі Уладзімір Арлоў ды Генадзь Сагановіч – гэта людзі, якія з ініцыятывы таго ж сп. Сяргея Несцяровіча выступалі ў маёй школе, калі я быў навучэнцам. Мне падаецца, у тыя часы мне стала зразумела больш-менш, што ж такое Беларусь.

А найбольш рашучы ўплыў на маю грамадзянскую пазіцыю аказала, лічу, творчасць Уладзіміра Высоцкага. Тут нават без каментароў: я слухаю ды чытаю яго з дзяцінства. Ведаю сотні тэкстаў, магу пець і дэкламаваць.

### Воля Кузьміч

Бацькі навучылі трымацца свайго, любіць, паважаць сям'ю і блізкіх, верыць у сваю справу. Настаўнік беларускай мовы ў школе (цяпер я разумею, што малады настаўнік адпрацоўваў у незнаёмай вёсцы ў забруджаным радыяцыяй рэгіёне размеркаванне) навучыў знаходзіць пазітыў і не апускаць рук у складанай сітуацыі. Штогод я некалькі месяцаў праводзіла ў санаторыях, што навучыла хутка адаптоўвацца і знаходзіць супольную мову з рознымі людзьмі. Славацкі «гуру камунікацыі» Петэр Гунчык навучыў пазнаваць свет праз пазнаванне сябе і ісці да мэтаў вызначанымі крокамі. «10 сутак» на Акрэсціна ў 2006 годзе пацвердзілі, што не ўсё можа быць так і тады, калі хочаш. У цэлым з любой нетыповай сітуацыі, сэнсоўнай кнігі ці камунікацыі з цікавым чалавекам стараюся атрымаць для сябе карысны досвед ці зрабіць высновы.

### Ігар Лапеха

Такім чалавекам для мяне стала маці. З пісьменнікаў – Уладзімір Караткевіч. Таксама моцна паўплывала служба ў войску – у прынцыпе, усё гэта банальна. Думаю, шмат у каго таксама было.

### Ян Лялевіч

Перадусім бацька, які прышчапіў любоў да роднага. І хоць у дзяцінстве мне прышчаплялі польскую нацыянальную ідэнтыфікацыю, аднак неабходныя падмуркі пачуцця радзімы бацькам закладаліся ва мне з маленства праз паходы па ваколіцах Горадні.

Ніводны побыт у маёй падгарадзенскай вёсцы не абыходзіўся без наведвання старых маёнткаў, святыняў, могілкаў. Цікава нават, ці бацька, якому самому заўжды карцела дзе-небудзь павандраваць ці хоць пашвэндацца, падазрае, наколькі карэнна ён паўплываў на кшталтаванне маёй нутранай асобы...

## Юлія Міцкевіч

Па-першае, гэта мая бабуля Юзэфа Тэлісфораўна Ліцвінава, якой, на жаль, ужо няма на гэтым свеце. Мая асоба – мэтанакіраваная, свабодалюбівая і валявая – гэта ад яе. Нягледзячы на тое, што амаль усё жыццё бабуля пражыла ў, як кажуць, «глухой вёсцы», была яна жанчына вельмі адукаваная, з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, неаднойчы абіралася дэпутаткай раённага савета дэпутатаў. Яна навучыла мяне любіць родную мову і культуру, жыць інтэлектуальнай мэтай і не схіляцца перад жыццёвымі цяжкасцямі.

Па-другое, гэта два самыя блізкія на дадзены момант мае сябры, таварышы і аднадумцы – Жэня Фурсееў і Лена Бервольд. Людзі, якія заўсёды падтрымліваюць, дапамагаюць, натхняюць; людзі, якіх я бясконца і моцна кахаю, чыім меркаваннем і парадамі вельмі даражу, без уплыву якіх на мой светапогляд я б не стала тым, кім стала.

Што датычыць пісьменніка, то на працягу апошніх год дзесяці маім любімым аўтарам застаецца Мілан Кундэра. Усе яго творы магу назваць любімымі, але першая кніга з усіх яго, якую я прачытала і якая, як кажуць, «произвела неизгладимое впечатление», быў раман «Жарт». Падзеі, апісаныя ў кнізе, тычацца камуністычных часоў Чэхіі, дзесьці канца 70-х, але, калі чытаеш, што адбываецца з галоўнымі героямі, то ствараецца ўстойлівае ўражанне, што гэта пра цябе, пра тваіх знаёмых, блізкіх і сяброў, пра краіну, дзе ты жывеш менавіта зараз. Усё тое самае – усёдазволенасць і беспакаранасць чыноўнікаў, страх сказаць праўду таму, хто вышэйшы па пасадзе, каб не быць звольненым з працы ці адлічаным з універсітэта, арышты актывістаў і шмат чаго яшчэ. Гэта кніга навучыла мяне галоўнаму – трэба пазбавіцца ад рабскай псіхалогіі. Як бы цяжка гэта ні падавалася, толькі будучы ўнутрана свабодным, ты можаш быць самім сабою, а значыцца, быць вышэйшым за абставіны і самаму вызначаць свой шлях у жыцці.

### Васіль Палякоў

У першую чаргу магу назваць сваіх бацькоў. Простыя людзі з мноствам недахопаў, але шчырыя ў сваіх дзеяннях, словах, учынках, у жаданні нікому не нашкодзіць.

Якія кнігі паўплывалі? Са студэнцкіх гадоў захапляўся Дастаеўскім. «Браты Карамазавы», «Д'яблы» – гэта не толькі выдатныя літаратурныя творы, але і асобная філасофія, адлюстраванне розных бакоў жыцця, адлюстраванне чалавека, якім ён ёсць ці можа быць.

Значны ўплыў мелі творы Васіля Быкава. «Знак бяды», «Кар'ер» – гэта высокі ўзровень разумення чалавека, разумення псіхалогіі яго паводзінаў і ўчынкаў.

Увогуле ж, значны ўплыў на мяне зрабіў перыяд адноснай дэмакратызацыі канца 80-х – пачатку 90-х гадоў.

### Аляксандр Самец

У канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў пачыналася абуджэнне палітычнага і грамадскага жыцця краіны. З'яўляліся першыя незалежныя газеты – «Навіны БНФ», «Свабода», «Пагоня». Арганізоўваўся БНФ «Адраджэнне».

Мяне ўсё гэта вельмі зацікавіла. Аднойчы летам 1990 года я паехаў у Мінск на свята, якое ладзіў БНФ у скверы Янкі Купалы. Пасля яго вяртаўся ў Карэлічы са стосам газет, часопісаў, кніг, з бел-чырвона-белым сцяжком ды гербам «Пагоня». Тады ж стаў сталым чытачом незалежных беларускамоўных газет. Там знаходзіў патрэбныя мне адказы на шматлікія пытанні.

### Юра Сідун

Настаўніца пачатковых класаў, бацькі. «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча. Распад СССР і вывад савецкіх войскаў з Латвіі, пераезд нашай сям'і ў Беларусь. Вучоба цягам шасці месяцаў у цалкам беларускамоўнай вясковай школе (у сярэдзіне 5-га класа). Змена дзяржаўнай сімволікі на рэферэндуме 1995 года.

## Тарэса Собаль

Не ведаю, што тут адказаць… Сям'я найбольш паўплывала. Родныя. У нас у сям'і заўсёды, нават за савецкім часам, трымаліся традыцый, захоўвалі і шанавалі польскую культуру.

Дагэтуль памятаю, як мы на святы завешвалі вокны цёмнымі шторамі, каб з вуліцы не было бачна свечак на сталах і елкі. Там жа расхаджвалі супрацоўнікі райвыканкама і пільнавалі людзей, запісвалі, хто святкуе, а хто не.

Запомнілася таксама, як забаранялі па-польску размаўляць. Толькі па-расійску дазвалялася. Асабліва ў школе. Гэта ўсё адкладвалася ў памяці і неяк настройвала захаваць родную культуру нягледзячы ні на што.

## Вольга Стужынская

Маці, якая заўсёды імкнулася, каб жыццё яе было найлепшым для яе сям'і і для яе краіны. Бабуля, каторая выхоўвала нас, сваіх унукаў, з вялікай любоўю і пяшчотай. А таксама кнігі Уладзіміра Арлова. Дзякуючы ім падчас амаль 10 год жыцця за межамі Беларусі я заўсёды пачувалася ўтульна, таму што ведаю еўрапейскую гісторыю сваёй радзімы і нашу прыналежнасць да еўрапейскай цывілізацыі.

## Алена Талапіла

Мае бацькі падтрымліваюць, дапамагаюць і вераць у мяне. Думаю, найперш ім трэба дзякаваць за тое, які характар я маю.

Заўважны ўплыў на мяне (і маіх аднакласнікаў, незаслужана абыдзеных у першым пытанні) мела настаўніца гісторыі Святлана Мікалаеўна Канапацкая, дзякуючы якой я стала лепш разумець падзеі ў сучасным грамадска-палітычным жыцці Беларусі. Мне яна ўяўлялася надзвычай цэльнай асобай, і я хацела шмат у чым быць падобнаю да яе.

А пасля ў маім жыцці пачаўся перыяд ЗБС, і тут цяжка вылучыць кагосьці аднаго.

### Паліна Уліна

З кніг – гэта, напэўна, увесь Даўлатаў, Місіма, кнігі педагога Алены Макаравай, яшчэ Суад, «Спаленая жыўцом».

Людзі – банальна, Гандзі, яшчэ гадоў з трынаццаці ягоная асоба мяне захапляла.

Увогуле ўплываюць тыя, хто дасягаюць сваёй мэты.

### Сяргей Чалы

Шмат чаго было на самой справе. Фларэнскі, Набокаў, Фаўлз… Гэта што датычыць кніг. Я чытаў гэтыя кнігі, і даводзілася спыняцца, каб зразумець, пра што яны.

Ва ўніверсітэце таксама было сфармавана сваё кола, дзе мы абмяркоўвалі разнастайныя тэмы.

### Іван Шыла

Я думаю, што, перадусім, на мяне паўплывалі бацькі. Калі я далучыўся да дэмакратычнага руху, я, безумоўна, не быў сфармаванай асобай. Аднак за апошнія пяць год я не магу выдзеліць падзеі, кнігі ці асобы. Усё, чым я займаўся, чытаў, з кім бачыўся і размаўляў, у рознай ступені ўплывала на мяне.

### Ігар Шынкарык

Звычайна, калі ўкладаеш у сваю справу шмат сіл і сродкаў, бывае складана. У пачатку 2000-х мне трапіліся ў рукі кнігі Паала Каэльё. За адзін вечар прачытаў «Алхіміка», потым – «Пятую гару». Гэтыя два творы мяне ўразілі.

## Кастусь Шыталь

Кшталтаванне мяне як асобы працягваецца ўжо доўга і яшчэ, думаю, не скончылася. Складана будзе пералічыць усе фактары, якія на гэта паўплывалі. Таму паспрабую адказаць коратка.

Калі я яшчэ вучыўся ў сёмым класе, пачаў чытаць незалежную газету «Вольнае Глыбокае». Праз нейкі час пазнаёміўся з яе рэдактарам Уладзімірам Скрабатуном і іншымі прадстаўнікамі незалежнай грамадскасці Глыбокага – настаўнікам Юрыем Калбасічам, супрацоўніцай музея Алай Вярцінскай, рэдактарам мясцовага інтэрнэт-сайта Андрусём Храпавіцкім. Гэтыя людзі дапамаглі мне ўсвядоміць сябе як беларуса.

На час майго навучання ў школе прыходзіцца таксама пачатак станаўлення маёй хрысціянскай свядомасці. За гэта добрым словам магу ўспомніць манахаў каталіцкага ордэна капуцынаў, якія служылі ў Докшыцах – айцоў Марка Пасюту, Андрэя Жылевіча, Арыюша Малыску, Андрэя Букштана, а таксама сястру Нунэ Цітаян з ордэна сясцёр-місіянерак Святой Сям'і.

Моцна паўплывала на мяне знаёмства з Паўлам Севярынцам. Добра ведаю гэтага чалавека не толькі з яго кніг і публікацый у прэсе, але і асабіста. Ён для мяне з'яўляецца прыкладам не толькі здольнага палітыка, але і ўзорам сумленнасці і хрысціянскай веры. Таксама пэўны добры адбітак паклала на мяне знаёмства з такімі моладзевымі актывістамі, як Мікалай Дземідзенка, Андрусь Кім, Зміцер Хведарук, Барыс Гарэцкі.

## Генадзь Шэпелеў

Беларускія песні, музыка, трохі. Я ў захапленні ад гурту «N.R.M.». Але каб так грунтоўна паўплывала, то не… Хаця я чытаю і літаратуру. Апошняе, што прачытаў – кніга Дубаўца «Як?». Кніга «Гарт» на мяне ўражанне зрабіла, Сагановіч, Арлоў.

## Аляксандра Якубоўская

На маё фармаванне як асобы ў першую чаргу паўплывалі мае бацькі. Яны з самага дзяцінства навучылі мяне жыццёвым прынцыпам, якія далі мне фундамент для далейшага развіцця.

Падзея, якая вельмі паўплывала на маё станаўленне як асобы, – гэта, як ні банальна, выбары 2006 года. Складана было заставацца абыякавай у 16 год, калі душыцца любы свабодалюбівы парыў.

Кніга... Кожная добрая кніга пакідае адбітак на чалавеку. І ў выніку ён з іх бярэ менавіта тое, да чаго ў яго ляжыць душа. Магу вызначыць «Братоў Ільвінае Сэрца» – гэта такая чыстая казка пра двух хлопчыкаў-братоў, якія ў розных сітуацыях праяўлялі найлепшыя людскія якасці.

Асноўныя каштоўнасці ў людзей усё-такі закладаюцца ў дзяцінстве, а потым ужо развіваюцца.

## Уладзімір Яроменак

У першую чаргу, гэта мой дзядуля і буквар А. Клышкі. Дзядуля з маленства вучыў мяне па гэтай кніжцы (напэўна, таму я з дзяцінства закахаўся ў родную мову). Нават у тры гады я ўжо ведаў верш «Мой мілы таварыш, мой лётчык…» Янкі Купалы. Таксама менавіта дзядуля прывіў мне любоў да роднага краю, да хараства нашых рэчак, азёраў, лясоў, балот.

Пасля, у школе, шмат чаго новага для мяне адкрыў найвыдатнейшы настаўнік гісторыі Вітальд Антонавіч Ермалёнак. Менавіта пасля яго заняткаў мяне зацікавіла наша гісторыя і культура.

І канечне, вялікую ролю ў маім жыцці адыграла Плошча-2006. Менавіта даведаўшыся пра падзеі выбараў 2006 года, я канчаткова вырашыў далучыцца да нацыянальнага руху.

## Галіна Яшчанка

1. У 16 год – Уладзімір Караткевіч, ‘Каласы пад сярпом тваім’.

2. У 20 год – Ayn Rand, «Atlas Shrugged» (Айн Рэнд, «Атлант расправіў плечы»).

3. У 24 гады – Robin Sharma, «The Monk Who Sold His Ferrari» (Робін Шарма, «Манах, які прадаў сваю «Ферары»).

4. У 27 год – Mahatma Gandhi, «The Story of my Experiments with Truth» (Махатма Гандзі, «Гісторыя маіх эксперыментаў з праўдай»).

Падзеі:

1. Самастойная вучоба і праца ў ЗША ва ўзросце 19–20 год.

2. Праца ў McKinsey.

3. Нараджэнне сына Настася.

# 4. Ці быў у Вашым жыцці такі перыяд, які можна назваць пераацэнкай каштоўнасцяў?

### Настасся Александровіч

Цяжка вылучыць нешта адно. Часам нешта здараецца і падаецца, што гэта пераацэнка, але пазней усё вяртаецца на свае месцы.

### Сяргей Андросенка

Складанае пытанне. Напэўна, не. Змены метадаў, задач, мэтаў у акцыях і дзейнасці – было. Былі расчараванні ў асобных людзях і цэлых арганізацыях, часам было расчараванне ва ўсім. Але каштоўнасці, на якіх грунтуецца мая дзейнасць, – гуманізм, павага, любоў, цярплівасць, незалежнасць, – не думаю, што іх можна пераацаніць. Часам робіш злы ўчынак або зласлівіш, але гэта не значыць, што я пераацаніў каштоўнасці. Проста робіш злы ўчынак, і ўсё.

### Сяргей Антусевіч

Мне пашчасціла, бо для мяне ў асноўным гэта праходзіла ў апошніх класах школы, разам з усімі. Памятаю разгубленыя вочы настаўнікаў, бо жыццё імкліва змянялася, школьная праграма і падручнікі па гуманітарных дысцыплінах не адпавядалі жыццю.

### Ігар Банцар

Ад'езд Зянона Пазняка ў эміграцыю прывёў да даволі значнай карэкцыі маіх поглядаў. Гэта быў перыяд, калі з рамантычнага падлетка, што марыў пра незалежную Беларусь, я пачаў ператварацца ў больш прагматычнага чалавека, які большую ўвагу пачаў звяртаць на чыны людзей, а не на іх словы...

### Павал Батуеў

Думаю, гэты перыяд адбываецца ў маім жыцці цяпер. Цяпер выразна бачна, што адбываецца ў грамадскіх арганізацыях, куды яны рухаюцца, што там працуюць некампетэнтныя людзі. І ў мяне паўстае пытанне, ці варта далей займацца грамадскай дзейнасцю? Тым больш, што гэта не прыносіць матэрыяльнага дабрабыту. Паўстае пытанне, ці не варта сканцэнтравацца на прафесіі?

### Яраслаў Берніковіч

Наўрад ці быў такі перыяд. Гэта прыярытэты могуць у жыцці мяняцца, а каштоўнасці для мяне не мяняліся. Да прыкладу, я не быў «ідэйным» камуністам, хаця ў шэрагах КПСС пабываў. Цяпер смешна згадваць, але справа была такая: калі быў вайскоўцам, то нам даслалі нейкую разнарадку на прыём у партыю. Падпалкоўнік сказаў, што я мушу рыхтавацца – збіраць рэкамендацыі на ўступленне ў КПСС. Мне не дужа хацелася, і я марудзіў. Але войска ёсць войскам, і загад там абавязковы да выканання: давялося ісці па рэкамендацыю да нампаліта роты, дзе я служыў. Вось той быў ідэйны і сказаў наўпрост: «Мала быць добрым салдатам для таго, каб быць камуністам». Мабыць, разумеў, што для мяне гэта ўсё – чыстая фармальнасць, і рэкамендацыі не даў. У выніку рэкамендавалі мяне прызначаныя загадам нейкія маёры, якія першы і апошні раз мяне бачылі.

### Аляксей Валабуеў

Не думаю, што магу казаць пра гэта так пафасна. Хутчэй, адбылася змена зацікаўленасцяў і пераацэнка прыярытэтаў. Мабыць, я стаў больш прынцыповым у пэўных пытаннях. Натуральна, у шматлікіх пытаннях я стаў мець больш вызначаную і абгрунтаваную пазіцыю. Але ломкі ці пераацэнкі каштоўнасцяў не было. Калі я навучаўся ў школе, такіх прадметаў, як дзяржідэалогія, не існавала, а падручнікі па гісторыі Беларусі мелі бел-чырвона-белы колер.

### Вераніка Велігор

Цяпер такі перыяд. Мозг гвалцяць думкі аб сэнсе жыцця, пачынаеш задумвацца над кожным крокам ды рухам, каб рабіць хоць меней, але вельмі трапна… каб не губляць час на пустыя словы ды дзеянні.

### Аляксей Дзермант

У пэўным сэнсе, так. Гэта быў перыяд прыкладна з 17-ці да 19-ці гадоў. Гэты час прыпаў акурат на актыўныя грамадскія падзеі ў Беларусі. Гэта былі 1996–1998 гады. У той час я зразумеў, што тутэйшая зямля, аўтэнтычнасць, мова, гісторыя, культура – усё гэта мне сапраўды цікава, гэтым я сапраўды хачу займацца. Адпаведна, усё, што было раней, як бы пераарыентавалася менавіта на гэта. Тады ж адбыліся і знаёмствы са знакавымі людзьмі.

### Эдвард Дмухоўскі

Студэнцкія часы прыпалі на перыяд Адраджэння – 1991-1995 гады. Грамадская пазіцыя ў тыя часы была, па вялікаму рахунку, адназначнай. Усе перамены ўспрымаліся намі з задавальненнем. Гэта было цікава. Гэта быў вольны час. Тады можна было за дзень, з’ездзіўшы ў Польшчу, зарабіць 10 даляраў і балявацца з сябрамі цэлы вечар. Гэта была свабода – свабоду мы шанавалі.

Потым былі 1994-1995 гады. Кропка адліку своеасаблівая. Калі даведаліся вынікі рэферэндуму, былі ў шоку. Тады я пайшоў шукаць БНФ у горадзе. Якраз стваралася моладзевае крыло арганізацыі.

## Алесь Гелагаеў

Пераход ад перакананняў савецкага піянера 1980-х да беларускага нацыяналізму 1990-х, напэўна, не быў пераацэнкай каштоўнасцяў – проста з'явілася разуменне, што камунізм зусім не абараняе тых каштоўнасцяў дабра і праўды, пра якія гаворыць. Сапраўдным духоўным перараджэннем, пэўна, стала менавіта ўсведамленне сябе хрысціянінам – канец 1990-х – пачатак 2000-х.

## Юрый Казак

Такі перыяд здарыўся ў маім жыцці каля сямі год таму назад. Гэтай падзеяй стаў прыход у царкву, пакаянне і пазнанне сапраўднага характару Бога. Гэты час для мяне быў цяжкі, бо змяніць сябе і свае каштоўнасці цяжэй за ўсё.

Кожны чалавек, кожная асоба павінны пераацэньваць свае каштоўнасці, свае прынцыпы кожны дзень, каб правільна праводзіць грамадскую дзейнасць і не памыліцца ў сваіх дзеяннях і мэтах.

## Ганна Канюс

Хутчэй, гэта былі этапы, на якіх я разумела, што мае дзеянні правільныя і што інакш я проста не магу жыць. Гэта калі мяне выклікалі да загадчыцы аддзела адукацыі Маскоўскага раёна г. Брэста з нагоды таго, што я балатавалася ў кандыдаты ў дэпутаты мясцовых саветаў ад палітычнай партыі. Тады, нягледзячы на ўсе падзякі за працу, у школе са мной не працягнулі кантракта і звольнілі за актыўны ўдзел у палітычнай дзейнасці. Пасля – калі мяне затрымалі на 5 сутак нібыта за дробнае хуліганства. Проста я разумею, што інакш я жыць не ўмею.

### Віталь Каратыш

Перыяд пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года. Было вельмі цяжка, страціў працу, перспектывы, веру ў людзей і заўтрашні дзень.

### Юрый Карэтнікаў

Не, не было, мо з часам стаў менш крытычны да пэўных з'яў.

### Пятро Кузняцоў

Так. У мяне быў вельмі цяжкі перыяд, калі я літаральна знаходзіўся ў крызісе: я не мог разабрацца, кім я хачу быць і дзеля чаго. Некалькі год я проста не займаўся нічым. Не, хлушу: я пісаў вершы. Але нічога не рабіў, дый вершаў тых я не вельмі люблю.

У тыя часы я, у выніку, зразумеў: мне патрэбны жонка, дзеткі і адчуванне сваёй краіны – як дома для маёй сям'і. І тады ўсё пачалося…

### Воля Кузьміч

Выбар прыярытэтаў быў, пераацэнка каштоўнасцяў – не.

### Ігар Лапеха

Як ужо казаў – служба ў войску. Мне тады было 19 год, новы досвед моцна на мяне паўплываў. Да гэтага жыццё было зусім іншым.

### Ян Лялевіч

Усё стала на свае месцы, калі ў рукі трапіліся матэрыялы перапісу насельніцтва 1897 г. па Сувалкаўскай губерні, адкуль даведаўся, што мае продкі па бацьку, будучы хоць і каталікамі, у канцы XIX ст. размаўлялі па-беларуску і былі

названыя беларусамі. Руіны і без таго хісткага картачнага доміка польскай самасвядомасці ўкшталтавалі грунт ліцвінскай самасвядомасці. Шчыра кажучы, факты нацыянальнай прыналежнасці продкаў надалі большай смеласці й майму бацьку ўсё часцей ужываць гарадзенскую гаворку.

### Юлія Міцкевіч

Такіх перыядаў было некалькі, што, як мне здаецца, здараецца з амаль кожным чалавекам, які здольны думаць, аналізаваць і рэфлексаваць. Але, бадай, самым моцным быў перыяд, калі я пачала навучацца ў гендарнай магістратуры Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Вільні. ЕГУ ў той год якраз пераехаў з Беларусі ў Літву. І тут як быццам розныя фрагменты склаліся ў адзіную мазаіку: жыццё ў еўрапейскай краіне, якая, з аднаго боку, знаходзіцца зусім побач, а з другога – ужо такая далёкая; знаёмства і зносіны з цудоўнымі жанчынамі і настаўніцамі Аленай Гапавай і Альміраай Усманавай і як следства – маё станаўленне як феміністкі; напісанне дысертацыі на тэму «Гомасексуальнасць як палітычная а/пазіцыя ў Беларусі» і ЛГБТ-дзейнасць.

### Васіль Палякоў

Такія перыяды ёсць у жыцці кожнага чалавека. Апошні быў у сакавіку-красавіку 2006 года. Прайшла прэзідэнцкая кампанія, у мяне на руках паведамленне аб тым, што не будзе працягнуты на працы кантракт, наперадзе невядомасць і нявызначанасць…

### Аляксандр Самец

Напэўна, гэта і было для мяне момантам пераацэнкі каштоўнасцяў (купля незалежных выданняў на беларускай мове ў 1990. – *Рэд.*). Тады я канчаткова зразумеў, куды трэба кіравацца і што для мяне важнае, а што не. Пабачыў, што насамрэч не я адзін выбраў такі шлях.

### Юра Сідун

Пасля пераезду ў Беларусь раптоўна прыйшло ўсведамленне, што азначэнне «рускі» да мяне не мае ніякага дачынення. Бацька ўкраінец, маці беларуска, аднак у Латвіі ўсе жыхары вайсковых гарадкоў былі «рускімі».

### Тарэса Собаль

Не ведаю. Напэўна, не было. Хіба што зноў можна назваць 2005 год і падзел СПБ. Тады шмат новага зразумела. Але яшчэ больш пераканалася, што варта дзейнічаць у абраным кірунку. Таму не скажу, што гэта была пераацэнка.

### Вольга Стужынская

Мне падаецца, пераацэнка каштоўнасцяў у той ці іншай ступені адбываецца пастаянна з прычыны новых кантактаў, ведаў, адкрыцця для сябе іншых культур і традыцый. Іншае бачанне рэчаў таксама прыходзіць з гадамі і набытым досведам.

### Алена Талапіла

Я думаю, што кожны чалавек мае такія перыяды. І мне складана меркаваць, наколькі гэта звязана менавіта з маёй грамадскаю дзейнасцю. Пераацэньванне і рэфлексія – заўсёдныя мае спадарожнікі, і думаю, такімі і застануцца.

### Паліна Уліна

Нельга сказаць, што я ў адзін момант зразумела, што ўсё, што было да гэтага моманту, – усё няправільна. Усё адбываецца неяк паступова. Штосьці сыходзіць з жыцця, на яго месца заўжды прыходзіць новае. І далёка не заўсёды горшае.

### Сяргей Чалы

Канец 80-х – пачатак 90-х. Гэта быў цікавы час. Тады выдавалася мноства разнастайнай літаратуры, якую цяпер нідзе немагчыма дастаць. Шмат тэкстаў самых разнастайных на мяне звалілася. І тады, прыкладна ў 21 год, я адчуў, што сістэма склалася. Што самае цікавае, мая сістэма каштоўнасцяў з таго часу амаль не змянілася.

### Іван Шыла

Натуральна, і не адзін. Калі ты сутыкаешся з няўдачамі і не дасягаеш вынікаў, безумоўна, пачынаеш спрабаваць пераасэнсоўваць каштоўнасці, падыходы і вынікі. Найбольш працяглы – вайсковая служба, дзе абставіны спрыяюць роздумам, чытанню і аналізу.

### Ігар Шынкарык

Перыядычна неяк пачынаеш ацэньваць усё, што рабіў і робіш. На жаль, часцяком гэта было звязана з асабістымі перажываннямі і драмамі. На жаль, у мяне не засталося ні маці, ні бацькі, ні роднага брата. Калі яны сыходзілі, пачынаў ацэньваць, як я жыву, ці правільныя мае ўчынкі. Так гэта было ў мяне.

### Кастусь Шыталь

Мая «шкала каштоўнасцяў» знаходзіцца яшчэ ў стадыі фармавання. Даволі часта даводзіцца мяняць сваё стаўленне да тых ці іншых рэчаў. Аднак найбольш важны выбар у гэтым рэчышчы мне давялося зрабіць чатыры гады таму, калі я вырашыў жыць паводле хрысціянскай веры. І ніводнага разу пра гэта не пашкадаваў.

### Генадзь Шэпелеў

Я б не сказаў, што такі час у маім жыцці быў. Напэўна, не. Я з самага дзяцінства стараўся падтрымліваць слабейшае. Калі гулялі ў вайну, я заўсёды быў на баку немцаў – мне іх было шкада. Я заўсёды быў немцам.

Потым не ўступаў у камсамол… Але каб нешта радыкальна на мяне паўплывала, змяніла мае погляды – такога не было.

### Аляксандра Якубоўская

Перыяд пераломнай пераацэнкі каштоўнасцяў – гэта мае 16 год. Пачаўся пошук сябе. Пачала задумвацца над некаторымі пытаннямі зусім на іншым узроўні. Прыкладна ў гэты ж перыяд прыйшло нейкае ўсведамленне, што не хачу мірыцца з пэўнымі праблемамі ў нашай краіне, што трэба нешта рабіць, нешта змяняць.

### Уладзімір Яроменак

Не, пакуль такіх перыядаў не было. Былі нейкія думкі кшталту «на што мне гэта ўсё трэба», «трэба нешта змяняць у жыцці», але гэта ўсё засталося на стадыі думак.

### Галіна Яшчанка

Быў, канечне. З грамадскай дзейнасцю ён ніяк не звязаны, а звязаны з працай. На той момант я збольшага адышла ад грамадскай дзейнасці і актыўна займалася кар’ерай. Калі я нарэшце патрапіла на працу ў кампанію маёй мары, адбылося расчараванне і перагляд сваіх каштоўнасцяў і бачання свету.

# 5. Што было самым вялікім расчараваннем і самай вялікай радасцю падчас Вашай дзейнасці?

## Настасся Александровіч

Радасцю было знаёмства з прыемнымі і цікавымі людзьмі. Адкрыццё ў сабе журналісцкіх здольнасцяў, а разам з тым атрымала задавальненне ад стварэння сайта.

А расчараванне… Гэта Мілінкевіч; нежаданне аб'ядначацца, бо ўсім патрэбныя грошы.

## Сяргей Андросенка

Памятаю, як яшчэ ў падлеткавым узросце глыбока засела расчараванне ў людзях, якія казалі шмат лозунгаў пра свабоду і перамены, вызваленне ад аўтарытарнага кіраўніцтва краіны. Якраз набліжаўся 2006 год. Я часта ў падлеткавым узросце наведваў сядзібу БНФ, мерапрыемствы розныя, моладзевы дыскусійны клуб, нават у «Моладзь БНФ» збіраўся ўступаць. Неяк на адным мерапрыемстве абмяркоўвалі свабоду сходаў, а пасля эксперт ад партыі – сп. Янукевіч, які тады яшчэ не быў старшынём БНФ, – сказаў, што свабода сходаў не азначае правядзення гей-парада, маўляў, правы гамасекаў да правоў чалавека не маюць ніякага дачынення. Пасля гэтага я ніколі больш не з'яўляўся на мерапрыемствах БНФ.

Цяпер разумею, што словы Янукевіча часткова можна апраўдаць – ён кансерватар ва ўсходнееўрапейскім разуменні. Але тады я не звяртаў на гэта ўвагі. Я чуў ад іх лозунгі пра свабоду – мне хацелася гэтай свабоды, але без кампрамісаў. Калі я ўбачыў, што іх свабода, як і існая, таксама абмежаваная, я расчараваўся ў палітыках увогуле. Таму што свабода ў маім разуменні – гэта свабода не толькі для тых, хто падабаецца. Яны шмат гаварылі пра свабоду ад аўтарытарызму, але яны разумелі адно, я чуў іншае. Я адчуў сябе абхлушаным. Мяне тройчы затрымлівалі ў 2004–2006 гадах за іх свабоду…

Самай вялікай радасцю за час дзейнасці, бадай, стала ўрачыстае адкрыццё Славянскага гей-прайду-2010 у Мінску ўвечары 14 траўня 2010-га. Пачатак быў запланаваны на 20:00 у гасцініцы «Краўн Плаза». Без пятнаццаці хвілін да дваццатай, якраз у той час, калі да гатэля ішло больш за ўсё гасцей, агрэсіўна настроеная моладзь блакавала ўваход, крычала: «Нет гей-прайду!». Я, як галоўны арганізатар прайду, быў напалоханы – мог адбыцца гвалт над людзьмі, нам маглі адмовіць у памяшканні і папрасіць не пачынаць мерапрыемства, урэшце, я баяўся, што спыненню мерапрыемства паспрыяюць органы, якія прыехалі разбірацца з несанкцыянаванай публічнай акцыяй гамафобаў. Але, хаця і са спазненнем на гадзіну, адкрыццё прайду адбылося – нас чакалі прамовы арганізатараў і стужка «Beyond Gay: The Politics of Pride», якая супрацьпастаўляе прайды-карнавалы, якія праходзяць у развітых краінах, і прайды, што арганізуюцца ў складаных гамафобных умовах. Яны заклікалі гомасексуалаў задумацца над тым, што барацьба за правы ЛГБТ не скончана і што міжнародны рух гей-прайду не павінны забывацца пра неабходнасць працягу барацьбы за правы геяў, лесбіянак, бісэксуалаў і трансгендарных людзей у свеце.

Я глядзеў фільм, побач са мной сядзела мая малодшая сястра, пад гатэлем стаялі гамафобы, якія нас ненавідзелі, ад натхняльнага фільма на вочы навярталіся слёзы, і я думаў: «фак ю, гоманенавіснікі, фак ю». Мы адчынялі гей-прайд у Мінску, амаль упэўненыя ў заўтрашнім разгоне нашага мірнага шэсця, але гэта было другасным – было ўжо зроблена дастаткова шмат. Я быў вельмі шчаслівы ў гэты момант: у Беларусі – гей-прайд, да арганізацыі якога мы ішлі два гады, побач былі мае сябры, калегі, паплечнікі і аднадумцы. Гэта была вялікая радасць для мяне.

### Сяргей Антусевіч

Стараюся не пераацэньваць эмацыйную складовую ў грамадскай дзейнасці… Таму расчароўвае, калі не можаш дапамагчы чалавеку ў ягонай праблеме, радуешся, калі нешта ўдаецца. Я замала зрабіў, каб гаварыць пра самае-самае.

### Ігар Банцар

Найвялікшай радасцю, якая ператварылася ў расчараванне, былі выбары прэзідэнта РБ 2006 года. Памятаю тыя дзясяткі тысяч людзей на Кастрычніцкай плошчы ў Менску, сцюдзёнае надвор'е, завею, эйфарыю ад таго, што мы пераадолелі страх і сабраліся разам тут і цяпер! А потым Мілінкевіч, ягоны выступ і... нічога! Гэта было так нечакана, прынамсі, для мяне. Тады, на Плошчы, мне падавалася, што разам мы зможам зрабіць нешта такое, што істотна зменіць бег найноўшай гісторыі нашай краіны. На жаль, гэтага не адбылося.

### Павал Батуеў

Вялікім расчараваннем для мяне была камерцыялізацыя грамадскай дзейнасці. Грамадская праца ператвараецца ў бізнес. Людзям плацяць за тое, што павінны рабіць валанцёры. Гэта разбуральна. Людзі, якія праз такое праходзяць, пазней не маюць ідэалаў, робяць нешта толькі дзеля грошай.

### Яраслаў Берніковіч

Было пэўнае расчараванне ў людзях – за іхны невыводны страх перад уладай. Здаецца, збольшага панавокал людзі нармальныя – і шчырыя, і разумныя, але вось страх не дазваляе ім ні выказацца, ні тым больш у адкрытую займацца нейкай палітычнай ці нават грамадскай дзейнасцю. Хаця здольнасці патрэбныя, ізноў паўтараю, шмат у каго з нашых людзей ёсць. Але я за гэта нікога не асуджаю. Бо страх ёсць у кожнага. Кагосьці страх заціскае, а нехта яго перамагае.

А радасцю заўжды быў плён нейкай зробленай працы. Сабраліся мясцовыя аднадумцы, стварылі адну з самых актыўных грамадскіх арганізацый «Барміца». Самым карысным лічу тое, што мы выдалі зборнікі вершаў выдатнага паэта Алеся Касценя, які гадамі б стаяў «на чарзе» ў нейкім дзяржаўным выдавецтве. Выдалі кнігу тутэйшага краязнаўца Рыгора Шарыпкіна, рыхтуем да выдання зборнік Марыі Баравік. Адным словам, дапамагаем праявіць сябе людзям, якім не спрыяюць дзяржаўныя структуры.

### Аляксей Валабуеў

У мяне не было расчараванняў ні ў дзейнасці, ні падчас дзейнасці. Мне ніхто нічога не абяцаў, каб у кімсьці ці ў чымсьці расчароўвацца. І спадзяваўся я толькі на сваіх сяброў і паплечнікаў, якія мяне практычна ніколі не падводзілі. Негатыўныя моманты былі звязаныя з канфліктамі і непаразуменнямі ў межах Маладога Фронту. Як прыклад, сітуацыя вакол сыходу Фінькевіча. Ці пытанні, звязаныя са стаўленнем да правоў сексменшасцяў. Але ж гэта хутчэй працоўныя моманты. Радасныя ж моманты заўсёды звязаны з нейкімі перамогамі. Асабліва быў усцешаны, калі пачуў у мабільным тэлефоне адказ пра недасяжнасць абанента МТС па-беларуску. Гэта азначала, што кампанія па беларусізацыі мабільнага аператара была плённай. Мне як яе непасрэднаму ініцыятару гэта прынесла асабістае задавальненне.

### Вераніка Велігор

Самая вялікая радасць – калі рады папаўняюцца новымі актывістамі, калі з акцыі вяртаешся ў свой пакой, а не застаешся ночыць у Цэнтральным РАУСе, калі твае сябры выходзяць з сутак, калі разам збіраецца кола аднадумцаў для абмеркавання новых дзеянняў, калі разам вырашаеце асабістыя праблемы… Самая вялікая радасць – быць сапраўды і ўсведамляць, што ты не адзін.

Самае вялікае расчараванне – гэта калі адзін з тваіх сяброў-паплечнікаў, якому давяралі, прадаецца за «добрае ўладкаванне» ў жыцці.

## Аляксей Дзермант

Самай вялікай радасцю было свята. Мы разам з неабыякавымі да традыцыйнай культуры людзьмі святкавалі Купалле на адной з выспаў паўночнай Беларусі. Калі ты адчуваеш, што амаль сотня людзей каля гэтага вогнішча, усе разам, перажываюць тыя ж эмоцыі – гэта ўзрушвае. Гэта перажыванне свята ў канкрэтным месцы і ў канкрэтны час.

Вялікім расчараваннем было ўсведамленне таго, што беларусы – нацыя ў вялікай ступені раз’яднаная. Адсутнасць салідарнасці, зайздрасць, помслівасць, абразы – з гэтым таксама сустракаешся. Калі трошкі падымаешся над сярэднім узроўнем, твая дзейнасць адразу выклікае хвалю крытыкі. Безумоўна, так павінна быць, але часам крытыка ператвараецца ў плявузганне. Асноўнае расчараванне – у немагчымасці дыялогу.

## Эдвард Дмухоўскі

Самае вялікае задавальненне – гэта калі табе ўдаецца да канца якое-кольвек мерапрыемства альбо кампанія. Тое, што ты задумаў. Гэта вельмі прыемна.

Непрыемна, калі не ўдаецца зрабіць так, як хочаш. Тады застаецца асадак, крыўда на сваіх людзей нават. Пытаеш сябе, навошта ты ўсё гэта робіш?

Расчараванне таксама ў тым, што мы вяртаемся зараз туды, з чаго пачыналі.

## Алесь Гелагаеў

Расчараванняў не было. Сапраўдная інфармацыя, няхай і сумная, – гэта добра. А самая вялікая радасць – новыя сябры, адчуванне еднасці і супольнай працы. І, вядома, вельмі радасна, калі бачыш, што твая праца прыносіць вынік.

## Юрый Казак

Найбольшым расчараваннем стала і ёсць да сённяшняга часу тое, што мой родны бацька не прызнае майго выбару, маёй дзейнасці і майго асабістага шляху,

які я выбраў дзеля будучыні сваёй краіны. Ніякіх іншых вялікіх расчараванняў пакуль не было. Але я ведаю, што яны будуць, і шматлікія. Толькі калі ў цябе вялікая мара, то ніякае расчараванне не зможа спыніць і падкасіць.

Радасці я не памятаю, і няма чаму пакуль радавацца, бо вайна (як гэта і называецца) яшчэ не скончылася. Вайна складаецца з мноства бітваў. Маёй самай вялікай радасцю будзе перамога ў вайне за нашу краіну.

### Ганна Канюс

Расчараванне, самае вялікае расчараванне – гэта калі ў чарговы раз забіраюць перамогу на выбарах.

Радасць – ёсць сябры, якія могуць падставіць плячо, і ёсць людзі, якім наша дзейнасць важная і патрэбная.

### Віталь Каратыш

Параза на парламенцкіх выбарах, выбарах у мясцовыя саветы. Разумею, што перамагчы ў такіх умовах нерэальна, але кожны раз зноў з'яўляецца надзея і так хочацца верыць, што ўсё ўдасца…

А наконт радасці – калі мяне падтрымліваюць незнаёмыя людзі, пазнаюць на вуліцы і просяць парады як прафесіянала.

### Юрый Карэтнікаў

Расчараванне, што з тымі людзьмі ў беларускім грамадскім і ў палітычным сектары мы не хутка нешта зменім. Мае ўражанні ад большасці з іх як ад людзей слабавольных, адарваных ад астатняга грамадства, якія верагодна і жадаюць нейкіх зменаў у краіне, але настолькі прызвычаіліся жыць у сваім «гета», што часта сваю баязлівасць папросту хаваюць за шырмай НДА ці пустых слоў. Большасць з іх ужо ў прынцыпе не здольная нешта мяняць, нават сябе. Часам яны нагадваюць няўдахаў, што займаюцца міжсабоем ды не адчуваюць патрэбаў сучаснага грамадства.

Радуе тое, што ў Беларусі існуе паралельнае, альтэрнатыўнае дзяржаве і апазіцыі грамадства, што яно сталее і самастойна, нават ва ўмовах аўтарытарызму, без нейкіх замежных схем і падпітак, развіваецца і робіцца запатрабаваным. Я бачу гэта, і яно мяне натхняе. Рады, што дзякуючы і маёй працы такіх груп, людзей ужо тысячы ва ўсёй краіне, і з кожным годам іх большае.

Таксама трэба зазначыць станоўчы ўплыў на развіццё незалежнага грамадства інтэрнэту, сацыяльных сетак.

## Пятро Кузняцоў

Цяжка вызначыцца. З самага апошняга: вялікай радасцю было пачуць у выкананні Змітра Бартосіка песні Высоцкага, перакладзеныя на беларускую мову Рыгорам Барадуліным. Я проста быў у нейкім трансе…

Вялікай радасцю сталася таксама, калі я атрымаў першы водгук ад простых грамадзян: мне прыйшла смс-ка з навагоднім віншаваннем з невядомага нумара. Я спытаўся, хто гэта, а мне адказалі: жыхар такога й такога раёна. А мы ў той час рэалізоўвалі там праграму, распаўсюджвалі там матэрыялы, дзе былі мае кантакты. Вось гэта быў такі, першы водгук, іх шмат потым яшчэ было, але гэта было вельмі радасна.

Расчараванне?.. Шчыра, іх не было. Заўсёды, калі здараецца нешта, што магло б сапсаваць мне настрой, я кажу сам сабе: а што ты хацеў? Увогуле, ты займаешся тым, што называецца «вырашаць праблемы грамадства». Калі гэта праблема – вырашай. Не было расчараванняў, былі задачы.

## Воля Кузьміч

Безумоўна, было ў дзейнасці шмат радасцяў – у многім звязаных з людзьмі і паплечнікамі, былі і расчараванні. Самых-самых вызначыць пакуль не магу.

### Ігар Лапеха

Самым вялікім расчараваннем было і з'яўляецца невыкананне законаў чыноўнікамі, а радасцю – тое, што ад тваіх дзеянняў захавалася каштоўнасць, якая магла знікнуць назаўсёды.

### Ян Лялевіч

Глыбокім расчараваннем было назіраць узнёслую радасць грамадскіх назіральнікаў на прэзідэнцкіх выбарах 2001-га ад атрыманых Ганчарыкам колькінаццаці працэнтаў галасоў. Тады нарадзілася закаранелае пачуццё, што апазіцыю задавальняе яе месца патураных апанентаў рэжыму.

Найвялікшай радасцю з'яўляецца працяглае пачуццё, што, нягледзячы ні на што, шмат маіх дарагіх сяброў і таварышаў працягваюць плячо ў плячо дзейнічаць і верыць у справу.

### Юлія Міцкевіч

Самым вялікім расчараваннем было, калі мой калега па ЛГБТ-дзейнасці (не буду называць імя) у адказ на мой крытычны артыкул аб першым Славянскім гей-прайдзе, які адбыўся ў Маскве ў мінулым годзе, на сваім вэб-сайце пачаў размяшчаць брыдкія па змесце матэрыялы асабіста пра мяне. Гэта было, мякка кажучы, непрыемна. Прыйшлося давесці гэтую справу да суда. Але нават пасля гэтага ён не палічыў сваім абавязкам прынесці прабачэнні за паводзіны, не вартыя мужчыны.

Самай вялікай радасцю і нават гонарам быў і на дадзены момант для мяне, як для старшыні арганізацыі, застаецца праведзены ў ліпені летні лагер, прысвечаны 15-годдзю МСД-МГ. Нашая арганізацыя, як і большасць НДА ў Беларусі, не мае афіцыйнай рэгістрацыі. Нам тры разы было ў ёй адмоўлена. Таму доўгі час праз дадзеныя абставіны мы не мелі магчымасці правесці летнікі менавіта на тэрыторыі Беларусі, прыходзілася ладзіць іх у суседняй Украіне. Толькі летась мы паспрабавалі зрабіць гэта тут. Але сам летні лагер тады дзеля

невялікай колькасці ўдзельнікаў і складзенай пэўным чынам праграмы быў не зусім удалым.

Акрамя мяне, не так шмат людзей верылі ў поспех гэтай безнадзейнай справы – правядзення паспяховага летніка. Але цяпер, чытаючы водгукі ўдзельнікаў лагера не толькі з нашай арганізацыі, але і партнёрскіх, разумею, што ўсё адбылося, мабыць, лепей, чым мы планавалі. Нават мясцовая міліцыя гэтага раёна, якая прыходзіла то з пашпартным кантролем, то каб зняць наш сцяг, то з мэтай усіх нас забраць і адвезці на прадмет «высвятлення асобаў», не зашкодзіла агульнаму святочнаму настрою. У гэтым месцы трэба сказаць вялікі дзякуй майму сябру і таварышу Лёшу Сігаеву, без падтрымкі якога ўсё б не адбылося так добра.

### Васіль Палякоў

Самае вялікае расчараванне ў тым, што большая частка працы незаўважная і яе нельга неяк паказаць іншым. Працуеш бесперапынна шмат тыдняў, але вынікі гэтай працы немагчыма палічыць і ацаніць. Шмат часу ідзе на вырашэнне арганізацыйных пытанняў.

А радасць ёсць тады, калі атрымліваецца менавіта той вынік, на які разлічваў.

### Аляксандр Самец

Самым вялікім расчараваннем быў падзел Фронту. На фоне пастаянных паразаў БНФ, а таксама дробнай валтузні паміж групоўкамі Хадыкі-Вячоркі і Пазняка арганізацыя раздзялілася.

Пасля гэтага я ні да адной групоўкі не далучыўся.

А радасцю было для мяне прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце і незалежнасці краіны, узвядзенне ў ранг дзяржаўных бела-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня».

### Юра Сідун

Былі расчараванні ў людзях, якім залішне давяраў. Найбольшай радасцю, аднак, было замацаванне ўпэўненасці ў сябрах.

### Тарэса Собаль

Пра расчараванне я ўжо казала. Гэта людская здрада і подласць. Хлусня. А радасці шмат было і ёсць. Яшчэ да СПБ, калі я працавала настаўніцай, мы з дзецьмі актыўна падарожнічалі па ваколіцах Івянца і па Беларусі. Хадзілі ў паходы, даведваліся шмат новага. Гэта для мяне была не проста праца настаўніцы, а значна больш. У гэтых паходах дзеці вельмі моцна раскрываліся, асабліва тыя, хто ў школе лічыўся дрэнным вучнем. Мне было цікава і радасна заўсёды з дзецьмі.

І цяпер, калі ездзім у Польшчу з імі альбо займаемся ў нашых гуртках. Гэта прыносіць вялікае задавальненне.

### Вольга Стужынская

Беларусь, на жаль, да гэтага часу застаецца ізаляванай і шмат у чым знаходзіцца па-за агульнаеўрапейскімі працэсамі. Найвялікшым расчараваннем было і застаецца разуменне згубленых магчымасцяў для краіны і для нацыі! Найвялікшая радасць – прыходзіць на працу кожную раніцу і займацца справай, якае дае адчуванне задавальнення.

### Алена Талапіла

Я радуюся, калі чую пра новыя ініцыятывы або пра поспехі старых. І сумую, калі чую, што з нейкай прычыны грамадскія дзеячы страцілі давер сваіх паплечнікаў. Але пакуль не было падзеі, якая б перавярнула мой свет, таму і не буду казаць пра «вялікае».

### Паліна Уліна

Самыя вялікія расчараванні бываюць звычайна ў людзях. Вось калі адна зарэгістраваная ў Чэхіі моладзевая арганізацыя жорстка падставіла нас з арганізацыяй мерапрыемства ў інтэрнаце, было жудасна крыўдна. Гэтаму папярэднічалі іншыя непрыемныя інцыдэнты. Было расчараванне ў гэтых людзях. У іх здольнасці нешта талковае рабіць.

Найвялікшай радасцю, напэўна, можна лічыць фотавыставу ў кінатэатры «Перамога», на адкрыцці ледзь стрымлівала слёзы радасці. Яшчэ радуе, калі пішаш лісты з віншаваннямі дзецям, да якіх ездзіў у прытулак, а яны табе адказваюць, пішуць з новых сем'яў, запрашаюць на гарбату. Прыемных момантаў усё ж такі больш, чым негатыўных.

### Сяргей Чалы

Адчуванне таго, што ёсць вынік, што ўсё ўдалося. Што маленькімі нязначнымі дзеяннямі можна паўплываць на гісторыю. Такіх момантаў было няшмат. Адзін з іх – 1994 год, калі я ўдзельнічаў у штабе Лукашэнкі. Мяне тады запрашалі працаваць за грошы да Шушкевіча і бясплатна – да Лукашэнкі. Я пайшоў да апошняга, бо быў зацікаўлены ў выніку.

Адчуванне таго, што спрычыніўся да важных падзей, прыносіць вялікае задавальненне.

### Іван Шыла

Адчуванне расчаравання пакінулі падзеі Вясны-2006, бо я тады ўскладаў надта вялікія надзеі і, хутчэй, эмацыйна ўспрымаў сітуацыю. Вялікая радасць – здача экзамену ў войску дзякуючы намаганням маіх паплечнікаў. Безумоўна, варта адзначыць і вызваленне паплечнікаў з турмаў.

### Iгар Шынкарык

Я прывяду крышку адстаронены прыклад. Калі я ў 2003 годзе ўзяў удзел у мясцовых выбарах, я згубіў нават шэраг блізкіх сяброў. Я не ведаю, што стала з імі. Яны нават перасталі тэлефанаваць.

З іншага боку, я пазнаёміўся з іншымі людзьмі – Зінаідай Бандарэнкай, Міхаілам Чыгіром, Андрэем Клімавым. Таму я лічу, што нават больш набыў, чым згубіў.

### Генадзь Шэпелеў

Не было расчараванняў вялікіх. А пра радасць я ўжо казаў – гэта пазітыўнае ўспрыманне беларускай мовы і культуры ў нашым грамадстве.

### Аляксандра Якубоўская

Радасцяў было шмат.

Самым вялікім расчараваннем жа было асэнсаванне аднабаковасці дзеяння большай часткі палітычных апазіцыйных сіл. Неяк сумна стала ад таго, што людзі не жадаюць працаваць іншымі метадамі, а ўжываюць стандартную схему.

### Уладзімір Яроменак

Вялікім расчараваннем было бачыць абыякавасць, пасіўнасць, баязлівасць людзей. Людзі не вераць у нейкія перамены, баяцца выйсці і адкрыта выказаць сваю пазіцыю, бо ведаюць, што ў Беларусі яны за гэта могуць быць пакараныя.

А самая вялікая радасць – гэта прачынацца кожны дзень з верай у тое, што ты можаш зрабіць нешта добрае, карыснае, што ты адзін з тых, хто можа перамяніць гэты свет. Радасна, што ёсць людзі, якія кожны раз дапамогуць, падтрымаюць, параяць нешта добрае.

## Галіна Яшчанка

Самае вялікае расчараванне, адназначна, – бяздзейнасць апазіцыйных лідараў 19 сакавіка 2006 года на Кастрычніцкай плошчы. А наконт самай вялікай радасці... Цяжка сказаць, шмат іх было… Хай будзе радасць ад добра праведзеных беларускіх дыскатэк для студэнцтва.

## 6. Ці змяніліся за час Вашай грамадскай дзейнасці Ваша стаўленне, у лепшы ці горшы бок,
- да людзей увогуле,
- да сяброў і знаёмых,
- да сваёй краіны?

### Настасся Александровіч

Да людзей змянілася. Я стала больш цярпімай да меркавання, адрознага ад майго. З сябрамі і знаёмымі складаней. Не кожны, хто называе сябе сябрам, ёсць ім. А да сваёй краіны – не змянілася.

### Сяргей Андросенка

Чым даўжэй ты займаешся грамадскай дзейнасцю, тым больш змен адбываецца ў тваім жыцці. Думаю, стаўленне да пэўных рэчаў змянілася б у мяне незалежна ад таго, займаўся б я грамадскай дзейнасцю ці не. Але і яна нанесла свой адбітак.

Грамадская дзейнасць прымусіла развітацца, напрыклад, з найлепшай сяброўкай дзяцінства, якая ніколі не была асаблівай гамафобкай. Але калі я пачаў актыўна паднімаць гэтае пытанне, то мы пасварыліся менавіта ад таго, што яна выказвала ў мой бок гамафобныя прэтэнзіі. «Все твои законы, декларации – туфта. Геев как ненавидели, так и будут ненавидеть. Потому что это противоестественно. Потому что среди геев больше блядства, чем чего, потому что они не способны рожать, потому что не хотят быть мужиками», – аднойчы заявіла яна мне. Спіс найлепшых сяброў у мяне змяніўся за час актывізму – некага адштурхнула сама гомасексуальнасць, некага такі актыўны лад жыцця.

Вандроўкі па свеце – у Швейцарыі, Люксембургу, Францыі і іншых краінах – безумоўную любоў да радзімы ператварылі ў нешта падобнае да слоў Уладзіміра Някляева: «Быць беларусам бяда, але гонар не дазваляе кімсьці іншым стаць».

Чым сталееш, чым глыбей завязваешся ў грамадскім актывізме, тым падазронейшым ты становішся, тым менш бяспечна адчуваеш сябе на радзіме.

Хіба што стаўленне да людзей агулам не змянілася. Я кіруюся прынцыпамі гуманізму і правоў чалавека – кожны чалавек мае права на ўсё, што не пазбаўляе гэтага права іншых. Імкнуся абыходзіцца з людзьмі так, як хацеў бы, каб абыходзіліся са мной.

### Сяргей Антусевіч

Натуральна, што змянілася. Жыццё – гэта дынаміка, да людзей увогуле стаў ставіцца больш насцярожана, да сяброў і знаёмых – лепш, бо гэта першыя людзі, якія кажуць праўду пра цябе, тваю працу, даюць магчымасць паразважаць, асэнсаваць, змяніцца…

Да сваёй краіны ставіўся і стаўлюся з вялікай пашанай. Гэта зямля, на якой пакаленні маіх продкаў жылі, вучыліся, нараджалі дзяцей, будавалі, кахалі, маліліся, паміралі… Можна было б крыўдзіцца за тое, што часам наша краіна не адпавядае нашым марам, але ці шмат мы самі зрабілі, каб было інакш?

### Ігар Банцар

Безумоўна, маё стаўленне да наваколля змянілася, бо атрыманы досвед прымушае рабіць адпаведныя высновы. Што тычыцца людзей агулам, напэўна, я стаў больш крытычны ў сваім стаўленні да людзей, нават мізантрапічныя моманты часам праскокваюць. Да сваіх сяброў і знаёмых я цяпер стаўлюся з большай дыстанцыяй, стараюся не змешваць прыватных і працоўных момантаў. Што тычыцца Беларусі, дык я надалей застаюся гарачым патрыётам сваёй краіны, тут анічога не змянілася.

## Павал Батуеў

Пра стаўленне да людзей я ўжо казаў. Яно толькі палепшала. А што датычыць сяброў, то яны застаюцца імі і надалей. Іх не асабліва турбуе, чым я займаюся, а мяне не турбуе, як яны ставяцца да таго ці іншага.

Дарэчы, дзякуючы грамадскай дзейнасці колькасць маіх сяброў значна вырасла.

Да краіны… Не ведаю, ці змянілася. Калі і змянілася, то толькі ў лепшы бок. Я лепш спазнаў краіну за гэты час.

## Яраслаў Берніковіч

Па вялікім рахунку, не змянілася. Але з часам я ўсё больш пераконваюся, што многім людзям, знаёмым і незнаёмым, і, можна сказаць, краіне ўвогуле ўсё больш патрэбная мая праца. Я хачу, каб у Глыбокім з'явілася яшчэ адна грамадска-палітычная газета, каб традыцыйным стаў бардаўскі фэст, праведзены летась упершыню… Калі ўсё задуманае ажыццявіцца, будзе больш падстаў паважаць і тых, хто вакол цябе, і сябе самога.

## Аляксей Валабуеў

Змянілася толькі ў лепшы бок. Я сустрэў шмат новых людзей і сяброў. І пераважная большасць з іх – пазітыўныя і цікавыя асобы. Старыя ж сябры і знаёмыя, у прынцыпе, так і засталіся добрымі сябрамі і знаёмымі. Калі і былі нейкія непаразуменні, дык да грамадскай дзейнасці яны не мелі дачынення. А сваю краіну я адназначна стаў любіць больш. Дастаткова сказаць, што яшчэ ў студэнцкія гады, як і безліч іншых беларускіх маладзёнаў, я марыў з'ехаць жыць ці хоць бы працаваць кудысьці на Захад. Цяпер жа я пагадзіўся б на такі расклад толькі ў выключным выпадку.

## Вераніка Велігор

Людзі – сярэднявечны статак. Чаму? Вы можаце на мяне пакрыўдзіцца, але я працую ў сферы гандлю, дзе маю непасрэдны кантакт з «людзьмі». Паверце, большасць – гэта статак! Маючы прэтэнзіі да жыцця, яны не шукаюць прычын, яны зрываюцца на блізкіх, а выйсце шукаюць у шклянцы, на дне «фаўста» (4380 бел.руб) ды ў серыяле «Варенька», «Машенька» і г.д. Так, людзі пачалі больш выпіваць, нягледзячы на тое, што цэны растуць.

Спіс маіх «сяброў» значна зменшыўся пасля першых допытаў. А каму ахвота мець сябра-іншапланетніка? Ні на каго не ў крыўдзе, кожнаму сваё.

Да краіны – у 2006 годзе, на пачатку дзейнасці, я марыла скончыць каледж і хутчэй збегчы з краіны. Цяперака не… Лёгка збегчы ад праблем, не спрабуючы іх вырашыць. Я хачу стварыць лепшую Беларусь.

## Эдвард Дмухоўскі

Гэта, па вялікім рахунку, залежыць ад настрою нават. Калі не ўдаецца праца, то крыўдуеш на сябе, на людзей, на краіну. Звальваеш на кагосьці.

Да блізкіх стаўленне таксама змяняецца з часам. З некаторымі разыходзішся, бо яны ад спраў адыходзяць, з некаторымі нават становішся па розныя бакі барыкад. З астатнімі размаўляеш і працуеш штодзённа – гэта таксама не заўсёды спрыяе добрым адносінам. У нас вельмі ж захавалася шляхецкае права ліберум вета – кожны сам сабе гетман, кожны мае шаблю, ведае, што рабіць.

## Алесь Гелагаеў

Шчыра кажучы, чым болей размаўляеш з людзьмі ці чытаеш пра іхныя лёсы, тым болей разумееш іх і ў выніку – ставішся да іх лепей. Значна горшым стала стаўленне толькі да тых (незалежна ад палітычна-грамадскай арыентацыі), хто вельмі любіць дзяліць людзей на гатункі – «чэсныя/нячэсныя», «эліта/быдла». Беларусь і беларускую нацыю як любіў, так і люблю. Хіба што раней любіў яе як ідэал, як закаханы жаніх нявесту, а цяпер – як муж жонку пасля

трох-чатырох год шлюбу: больш рэалістычна. Бачыш, што ёсць недахопы, але кахаеш, нягледзячы ні на што.

### Юрый Казак

Да людзей стаўленне неаднназначнае. Калі гаварыць пра тое, што наш народ можа мяняцца, стаўленне змянілася ў лепшы бок. Калі гаварыць, што наш народ цяжкі на пад'ём, стаўленне змянілася ў горшы бок.

Сябры займаюцца грамадскай дзейнасцю разам са мною і дапамагаюць мне, таму можна казаць, што стаўленне да іх змянілася ў лепшы бок. Я і мае сябры – адна каманда, і магу сказаць, што сілай нашай з'яўляецца адзіная мэта, адзіная справа, адзіная мара і вера ў адзінага Ісуса Хрыста. Большасць знаёмых падтрымліваюць мяне, і адказ, вядома, адназначны – у лепшы бок.

Краіна – гэта святое, гэта тая зямля, дзе я нарадзіўся і жыву. І пытанне аб тым, змянілася стаўленне да сваёй краіны ў лепшы ці горшы бок, не зусім правільнае. Калі б яно станавілася горшым, то я б не займаўся гэтай справай і з'ехаў бы за мяжу, альбо ціха, спакойна пражываў бы сваё жыццё. Мэта маёй дзейнасці – хрысціянская, свабодная, дэмакратычная краіна.

### Ганна Канюс

Калі існуе праблема, што чапляе чалавека асабіста, ён робіць усё, каб яе вырашыць. Але як толькі праблема вырашаецца, то забываюцца ўсе абяцанні і, здавалася б, актыўныя людзі робяцца аморфнымі.

Стаўленне да сяброў засталося ранейшым – у мяне іх мала, і сябрамі станавіліся толькі людзі, якія блізкія мне па духу. А знаёмыя, як я цяпер разумею, гэта людзі, ад якіх можна чакаць усяго: і падтрымкі, і здрады.

Краіна – гэта тое, што застаецца назаўжды. Наша Беларусь – гэта прыгожая і разнастайная краіна. Мая дзейнасць звязаная з паездкамі па ўсёй краіне, дык заўважаеш многае, што потым назаўсёды застаецца ў сэрцы.

## Віталь Каратыш

Стаў большым рэалістам і зразумеў, што многім людзям патрэбны моцны лідар, а не свабода.

Стаў цаніць сапраўднае сяброўства.

Стала шкада краіну.

## Юрый Карэтнікаў

Не змянілася.

## Пятро Кузняцоў

Да людзей стаўленне якасна не змянілася. Я заўсёды ведаў, што ў людзях ёсць і добрае, і дрэннае. Цягам грамадскае дзейнасці я проста даведаўся аб новых для сябе і добрых, і дрэнных рысах.

Да сяброў і знаёмых? Будзе не вельмі добры адказ, напэўна. Так, змянілася. Я зразумеў, што сябры і знаёмыя – гэта вельмі ўмоўныя катэгорыі. Бывае чалавек, з якім працуеш, размаўляеш і адчуваеш: вось гэты чалавек мог бы быць членам маёй сям'і, ён родны мне па думках і пачуццях. А бывае, што з чалавекам, якога лічыў сябром, размаўляеш, а ён цябе не разумее…

Недзе на планеце ходзяць людзі, якія думаюць таксама, таксама любяць, кахаюць, спачуваюць і нават плачуць. А сяброўства, знаёмства – гэта катэгорыі настолькі ўмоўныя, наколькі й сацыяльныя.

…Да сваёй краіны? Да краіны стаўленне не можа мяняцца. І, дарэчы, Беларусь – гэта такая краіна, якую можна ўсё жыццё асэнсоўваць. Я гэтым цяпер таксама займаюся.

## Воля Кузьміч

Прасцей сказаць, што праз грамадскую дзейнасць стаўленне як такое з'явілася, бо камунікацыі з людзьмі рознымі сталі штодзённымі. За час сваёй

грамадскай дзейнасці заўважыла слушнасць сцверджання сацыёлагаў: дарослыя людзі, ці электарат у сваёй масе, маюць такое ж успрыманне свету, як 10–13 гадовыя дзеці. Людзі ў такім узросце схільныя шукаць лідараў, хутка захапляцца, але й расчароўвацца, для іх характэрныя таксама пэўная падлеткавая зайздрасць і страх. Гаворка не пра кожнага канкрэтнага чалавека, што патрабуе асабістага падыходу, а пра людзей у цэлым. У данясенні сваіх ідэй, размове з грамадствам стараюся кіравацца гэтым разуменнем і не патрабаваць ад людзей агулам занадта шмат.

Пра сяброў і знаёмых казаць цяжка. Мы ў такім узросце, калі незалежна ад грамадскай дзейнасці ў людзей з’яўляюцца новыя працы, ствараюцца сем’і, вымалёўваюцца прыярытэты, таму адныя аддаляюцца, іншыя, наадварот, збліжаюцца.

Стаўленне да краіны не памянялася. Хутчэй, ад агульнага «люблю Беларусь» яно перайшло ў больш канкрэтныя і выражаныя «ганаруся …», «люблю …», «паважаю …», «шкадую …» ды іншае.

### Ігар Лапеха

Не магу сказаць, што змянілася кардынальна. Трэба проста верыць у людзей, у сяброў, у краіну, вера не дае мяняцца стаўленню. Гэта галоўнае.

### Ян Лялевіч

Зразумеў, што трэба шанаваць кожную асобу, а значыць, патрэбная мудрасць, каб знайсці кропкі спалучэння дзеля стваральнай супрацы.

…Да сяброў і знаёмых? Пачаў яшчэ больш даражыць гэтымі людзьмі, з якімі столькі давялося перажыць.

…Да сваёй краіны? Веру, што Божы провід абярне тыя цяжкасці, якія пераносіць наш край, на нечакана пазітыўныя перамены. Упэўнены, што ў Беларусі прыхаваны неверагодна багаты патэнцыял, перадусім у людзях, якія тут жывуць. Рысамі ментальнасці беларусы падобныя нечым да скандынаваў, і гэта, канечне, прывядзе да духоўнай і матэрыяльнай паўнаты.

### Юлія Міцкевіч

Маё стаўленне і да людзей, і да краіны, і да сяброў, калі і змяняецца, то толькі ў лепшы бок. Вядома, бывае featureрознае: і расчараванне, і дрэнны настрой, і стомленасць, і шмат чаго яшчэ не вельмі добрага, але такі я, па сутнасці сваёй, аптымістычная перфекцыяністка, якая верыць у лепшае і ў людзей.

### Васіль Палякоў

Хутчэй засталося такім жа, як і раней. Праўда, спачатку мяне вельмі здзіўляла, што так шмат людзей не падзяляюць дэмакратычныя каштоўнасці, лічаць іх другаснымі ці ўвогуле шкоднымі для Беларусі.

…Да сяброў і знаёмых? Амаль не змянілася. Спачатку спрабаваў іх таксама неяк уцягнуць у грамадскую дзейнасць, але потым зразумеў, што ў кожнага павінна быць унутраная патрэба, у іншым выпадку ўсё гэта будзе штучным і кароткатэрміновым.

…Да сваёй краіны? Мяняецца ўспрыманне ў цэлым, але стаўленне застаецца ранейшае.

### Аляксандр Самец

Цяжка сказаць. Напэўна – не. Людзі, сябры, знаёмыя… Насамрэч мала змянілася за гэтыя гады. Людзі мала змяняюцца з часам.

### Юра Сідун

Так, змянілася да ўсяго пералічанага. Стала меней рамантычным і ідэалістычным, аднак гэта было чакана і звязана хутчэй толькі з узростам.

## Тарэса Собаль

Не тое каб моцна змянілася, але думаю, што за апошнія гады я добра зразумела, у які мы час жывём. А дзякуючы грамадскай актыўнасці мне цяпер ясна, хто ёсць хто ў жыцці. Чорнае стала чорным, а белае – белым. Не толькі дрэнныя людзі навокал. Ёсць і вельмі добрыя. Падчас усіх допытаў, затрыманняў, судоў я пастаянна сутыкаюся з тымі, хто падтрымлівае мяне моцна. І не толькі з нашай арганізацыі. Нават калі чалавек адмаўляе ў дапамозе, то я бачу, што ён не па ўласнай волі гэта робіць, што хацеў бы зрабіць інакш.

Таму я цяпер толькі ўпэўнілася ў правільнасці ўсяго таго, чым мы займаемся. Трэба быць моцным і стаяць на сваім. Іначай немагчыма.

## Вольга Стужынская

Змянілася стаўленне да тых палітычных і грамадскіх актывістаў, якія з розных прычын сыходзяць з партый і грамадскіх арганізацый і вяртаюцца да больш «пасіўнага» ладу жыцця. Калі раней мне гэта падавалася ледзьве не здрадай, дык з цягам часу я пачала разумець, што жыццё адно і што ў кожнага розныя сямейныя абставіны і стан здароўя. Таксама інтарэсы і прыярытэты чалавека могуць змяняцца пад уплывам розных чыннікаў. Кожны з нас мае права на свой выбар, які трэба паважаць.

Магчыма, з’явілася больш лаяльнасці да людзей навокал і разуменне, што мы ўсе вельмі розныя з прычыны культуры, выхавання, традыцый, рэлігіі. Жыццё ў Бруселі і праца ў міжнародным асяроддзі дапамаглі зразумець важнасць дыпламатыі і міжкультурнага дыялогу.

## Алена Талапіла

Мая грамадская актыўнасць пачалася, калі мне было 18 гадоў. Таму натуральна, што маё стаўленне да шэрагу асоб і пытанняў за апошнія 7 гадоў змяніліся. Але ж наколькі гэта залежыць ад грамадскай дзейнасці?

### Паліна Уліна

Нельга сказаць, што кардынальна змянілася стаўленне да людзей. Як было некалькі чалавек, якім я магу давяраць, так і засталося. Ад іншых можна чакаць як добрага, так і не. Гэта жыццё. У гэтым жыцці, на жаль, усе маюць права на памылку, ідэальных не бывае. Я таксама не ідэальная.

Наконт краіны. Я любіла, люблю і, спадзяюся, буду любіць сваю краіну. Як бы гэта пафасна ні гучала.

### Іван Шыла

Так, стаўленне змянілася ў лепшы бок. Я цяпер па-іншаму, менш катэгарычна ўспрымаю многія рэчы, чым тады, калі далучыўся да моладзевага руху. Перастаў быць максімалістам і пачаў пазітыўней глядзець на рэчы.

### Ігар Шынкарык

Стаўленне да краіны не змянілася. Я як любіў яе так і люблю дагэтуль. Так выйшла, што я служыў у памежных войсках на афганскай мяжы ў Таджыкістане. Бачыў, як жывуць там людзі. Таму лічыў і лічу, што лепшай за Беларусь краіны няма.

### Кастусь Шыталь

Так, большасць людзей жывуць, не задумваючыся, паводле стэрэатыпаў, навязаных старэйшым пакаленнем і атачэннем. Гэта датычыць як грамадскага, так і асабістага боку іх жыцця. Не магу іх асуджаць за гэта, але ўсё роўна не магу зразумець людзей, якія прывыклі жыць «па схеме».

### Генадзь Шэпелеў

Былі сябры, з якімі мы разышліся. Нават не ў поглядах – проста супольныя інтарэсы зніклі.

Калі людзі расчароўваюцца ў краіне, беларускім руху, я заўсёды ім кажу, што ўсё трэба ўспрымаць такім, як яно ёсць. Можна пачуць час ад часу, што калі нешта не падабаецца ў партыі альбо людзях нейкіх, значыць, усё на Беларусі такое ж дрэннае. А трэба проста любіць Беларусь як свой край, не кпіць з гэтага. Якая яна ёсць – такая ёсць.

Я не ведаю ўсёй Беларусі. Мы штогод з сям’ёй вандруем па краіне. Яна цудоўная. Шкада, што з нашай мовай такое адбываецца, але трэба працаваць над адраджэннем.

## Аляксандра Якубоўская

Да людзей увогуле не, не змянілася.

Да сяброў і знаёмых змянілася, бо праз занятасць бачу сяброў нашмат радзей і зразумела, наколькі важныя для мяне гэтыя людзі.

Да сваёй краіны не змянілася. Як любіла, так і люблю сваю краіну.

## Уладзімір Яроменак

Як і раней, я люблю сваю Беларусь, люблю беларусаў, люблю сваіх сяброў, хай беларусы пасіўны народ, памяркоўны. Пасля некалькіх стагоддзяў панавання Расеі на нашых землях гэтая пасіўнасць натуральная. Але ж ніхто не зможа адарваць мяне ад каранёў гісторыі, ніхто не забярэ ў мяне маёй Беларусі, ніхто не зможа знішчыць ва мне любоў да ўсяго гэтага.

## Галіна Яшчанка

Не, ні да людзей увогуле, ні да сяброў і знаёмых, ні да сваёй краіны маё стаўленне за час грамадскай дзейнасці кардынальна не змянілася. Быў пэўны момант, калі я пачала лічыць беларускамоўных «вышэйшымі» ад іншых беларусаў, але гэтае памылковае стаўленне з часам прайшло.

# 7. Ці з'яўляецца грамадская дзейнасць Вашым асноўным відам заняткаў ці гэта хутчэй хобі?

**Настасся Александровіч**

Цяпер стала ўжо асноўным відам заняткаў.

**Сяргей Андросенка**

Час ад часу яна робіцца маім асноўным заняткам. За месяц да правядзення 26 верасня 2009-га 5-й беларускай міжнароднай ЛГБТ-канферэнцыі я займаўся толькі яе падрыхтоўкай, за тры месяцы да правядзення прайду ў Мінску я жыў толькі прайдам.

Агулам, калі ты з'яўляешся кіраўніком буйной ЛГБТ-ініцыятывы, то гэта ўжо не можа быць зусім хобі. На мне ляжыць адказнасць за акцыі, людзей і, у нейкай ступені, за нашу супольную мэту. Нават калі я працую на нейкай працы, праваабарончы ЛГБТ-актывізм застаецца маёй асноўнай дзейнасцю.

**Сяргей Антусевіч**

На сёння грамадская дзейнасць – гэта мой асноўны занятак.

### Ігар Банцар

Спачатку грамадская дзейнасць была для мяне хобі, ад пэўнага часу яна стала адным з маіх асноўных заняткаў. Аднак, як толькі Беларусь стане вольнай і незалежнай, я напэўна буду займацца тымі рэчамі, да якіх у мяне больш ляжыць сэрца, а грамадская дзейнасць ізноў стане хобі.

### Павал Батуеў

З улікам таго, што ніякага прыбытку яна не прыносіць, то гэта хутчэй хобі.

### Яраслаў Берніковіч

На дадзены  момант гэта найхутчэй хобі, але да майго асноўнага занятку максімальна набліжанае. Грамадская дзейнасць і праца не супярэчаць адна адной. Я займаюся рэкламным выданнем – значыць, кантактую з самымі living рознымі людзьмі, бізнесоўцамі і беспрацоўнымі, спажыўцамі і вытворцамі тавараў ды паслуг. Зносіны карысныя тым, што даюць мажлівасць адчуваць настрой грамадства. А яшчэ праз рэкламную газету можна дапамагчы тым, хто страціў працу па палітычных прычынах, быў звольнены начальствам за непакорнасць, за смеласць. Так што ў маім выпадку ўсё выдатна і цалкам гарманічна спалучаецца.

### Аляксей Валабуеў

Увогуле я працую інжынерам у будаўнічай арганізацыі, таму, хутчэй, апошняе.

### Вераніка Велігор

Цяпер, хутчэй за ўсё, асноўны від заняткаў.

### Аляксей Дзермант

Я сказаў бы, што гэта своеасаблівы лад жыцця. Безумоўна, існуе падзел на прыватнае жыццё і прафесійнае, але калі ўсё гэта спалучаецца ў адзін суцэльны блок дзеянняў і ўяўленняў, то ўдаецца існаваць гарманічна. Гэта не як хобі і не як абавязковая праца, а як тое, што ідзе з глыбіні душы.

### Эдвард Дмухоўскі

Гэта не хобі. Для мяне, напэўна, грамадская дзейнасць стала прафесійным заняткам. Я гэтым займаюся большасць свайго часу, і ўдзень, і ўночы, і так далей.

### Алесь Гелагаеў

Грамадская дзейнасць можа быць асноўным відам занткаў толькі тады, калі прыносіць грошы дастатковыя, каб карміць сям’ю. Гэта не мой варыянт.

### Ганна Канюс

Актыўная грамадзянская пазіцыя не дала мне выбару – мне прыходзіцца займацца толькі грамадска-палітычнай дзейнасцю, бо працаваць па спецыяльнасці мне проста не даюць магчымасці. Я кажу пра гэта са шкадаваннем, бо вельмі хачу працаваць па сваёй спецыяльнасці (настаўнік геаграфіі і біялогіі). Але маё ўяўленне пра работу ў школе – гэта творчасць, фантазія, свабода, а не пастаянныя ўказанні «зверху», што і як я павінна рабіць.

### Віталь Каратыш

Гэта хутчэй пакліканне. Грамадская дзейнасць для мяне не з’яўляецца прыбытковай, таму працаваць даводзіцца ў іншых галінах.

### Юрый Карэтнікаў

Хацелася, каб гэта было хобі, але даводзіцца займацца прафесійна. Ёсць кірункі, дзе толькі ты, маючы досвед і аўтарытэт, можаш зрабіць гэта.

### Юрый Казак

Калі грамадская дзейнасць будзе хобі, то ў чалавека не будзе адказнасці і адданасці той справе, якую ён робіць. А калі гэта справа будзе мэтай жыцця, то адказнасць і адданасць справе будзе на самым вышэйшым узроўні. І перамога будзе, я думаю, неўзабаве. Адказ на пытанне адзіны – гэта мой асноўны від заняткаў.

### Пятро Кузняцоў

Так, гэта мой асноўны занятак. Апроч таго я займаюся журналістыкай і бізнесам, але цяпер я лічу, што асноўны мой занятак – гэта грамадская дзейнасьць. Ежа патрэбна, каб жыць, а не наадварот, таму адпачатку я жыву і толькі дзеля гэтага займаюся яшчэ нечым.

### Воля Кузьміч

Хобі. Аднак грамадскія справы наўпрост адбіваюцца і на прафесійнай дзейнасці, і ў пераважнай большасці станоўча. Бо грамадская дзейнасць – плацдарм для пазнавання сябе, сваіх здольнасцяў, ажыццяўлення некамерцыйных валанцёрскіх праектаў, якія маюць грамадскі сэнс, аднак дазваляюць расці як асобе, набірацца досведу і скарыстоўваць гэта ў працы.

### Ігар Лапеха

На грамадскай дзейнасці я грошай не зарабляю. Хутчэй хобі.

### Ян Лялевіч

На дадзены момант хутчэй хобі. Дапамагаю сябрам, якія актыўна задзейнічаны ў грамадскім руху. Ангажуюся ў акцыі і мерапрыемствы, якія патрабуюць акумуляцыі чалавечых рэсурсаў.

### Юлія Міцкевіч

Калісьці гэта было хутчэй хобі, а цяпер, безумоўна, грамадзянская дзейнасць – гэта і ёсць мае жыццё?

### Васіль Палякоў

Спачатку гэта было хобі, якое перарасло ў асноўны занятак недзе з 2006 года.

### Аляксандр Самец

Хацеў бы стала займацца грамадскай дзейнасцю, але яна пакуль што не корміць мяне і маёй сям'і, таму гэта для мяне толькі хобі.

### Юра Сідун

Хобі, якое ў розныя перыяды жыцця адымае розную колькасць часу.

### Тарэса Собаль

Раней было хобі. Калі я працавала ў школе і займалася з дзецьмі, хадзіла ў паходы…

А цяпер, напэўна, асноўны. Цяпер СПБ – мая асноўная дзейнасць.

### Вольга Стужынская

Праца ў офісе з'яўляецца асноўнай прафесійнай дзейнасцю.

### Іван Шыла

Гэта хутчэй хобі. І на дадзеным этапе мне б не хацелася аддаваць грамадскай дзейнасці ўвесь вольны час. Бо ва ўмовах адарванасці ад іншых людзей дэмакратычныя актывісты часта ствараюць уласны свет, у якім камфортна сябе пачуваюць. Гэта ёсць вынікам бесперапыннага змагання. Мне хочацца мець іншыя інтарэсы і шырэйшае кола знаёмых.

### Ігар Шынкарык

Не ведаю, добра гэта ці дрэнна, але сёння, за апошнія некалькі гадоў, гэта ператварылася ў сталую працу. Гэтая праца патрабуе і часу, і сіл, і нерваў.

### Генадзь Шэпелеў

Гэта для мяне далёка не асноўны занятак. Проста мне тое цікава. Я нават не скажу, што шмат раблю.

### Алена Талапіла

Я схіляюся да меркавання, што грамадская актыўнасць – гэта лад жыцця.

### Паліна Уліна

Напэўна, маім асноўным заняткам на дадзены момант павінна з'яўляцца атрыманне вышэйшай адукацыі. Але пры гэтым я не магу сказаць, што мая дзейнасць – хобі. Мяркую, што ў бліжэйшым часе яна стане самым што ні на ёсць асноўным заняткам.

### Аляксандра Якубоўская

Для хобі ў грамадскай дзейнасці занадта вялікая адказнасць, таму яўна гэта не хобі. Гэта не толькі асноўны від заняткаў, гэта, напэўна, у нейкім сэнсе, лад жыцця.

### Уладзімір Яроменак

Я не магу аднесці сваю дзейнасць ні туды, ні туды. Асноўны мой занятак – гэта вучоба. Да хобі я магу аднесці гітару. Грамадская ж дзейнасць займае амаль увесь мой вольны час.

### Галіна Яшчанка

Калі я займалася грамадскай дзейнасцю, гэта было ўсё жыццё, на якое сыходзіў увесь вольны час па-за вучобай ва ўніверсітэце. Я бегла ў родную арганізацыю ў любую вольную хвіліну. Універсітэцкія заданні рабіліся ў бібліятэцы адразу пасля заняткаў, а потым – у любую арганізацыю да ночы. Натуральна, усе выходныя і вакацыі – з сябрамі ў арганізацыі.

## 8. Якія абмежаванні на грамадскую дзейнасць накладаюць Вашы паўсядзённыя заняткі (праца, клопат пра родных, здароўе, вучоба, выезд за мяжу)?

### Настасся Александровіч

Грамадская дзейнасць дрэнна ўплывае на маё здароўе – вельмі шмат працы часам, грамадскай дзейнасці то бок. А на вучобу таксама негатыўна ўплывае – цяжка спалучаць завочнае (дыстанцыйнае) навучанне і штодзённую працу.

### Сяргей Андросенка

Самае непасрэднае, як і ва ўсіх. Чым менш у цябе часу, тым менш у цябе магчымасці цалкам аддацца акцыям, мерапрыемствам, праектам. З іншага боку, ты маеш магчымасць трансляваць свае погляды і ідэі на тых, хто цябе атачае на вучобе і на працы. Шмат у чым ёсць і свой пазітыў, і свой негатыў. Але сапраўднага актывіста, я перакананы, нішто не спыніць.

### Сяргей Антусевіч

Адкажу так. Збольшага грамадская дзейнасць і ёсць маім жыццём, што б я ні рабіў. А клопат пра родных ці здароўе адбываюцца па-за грамадскай дзейнасцю, і, можа быць, гэтым пытанням на цяперашні час я, на жаль, надаю замала ўвагі. За апошнія гады мне цяжка прыгадаць тыя выезды за мяжу, якія не былі б звязаныя

з грамадскай актыўнасцю, кантактамі з аднадумцамі. Нават адпачынак стараюся спалучаць з вырашэннем пэўных пытанняў грамадскай дзейнасці.

### Ігар Банцар

Для мяне як для прыхільніка максімальнай свабоды найгоршым з'яўляюцца захады з боку дзяржавы, каб узяць пад татальны кантроль максімальна мажлівую колькасць сфер грамадскага жыцця ў краіне. Міліцыя, пракуратура, суды, КДБ і іншыя спецслужбы – гэта тыя структуры, якія моцна перашкаджаюць жыць і займацца грамадскай дзейнасцю.

### Павал Батуеў

Збольшага я ні пра што не шкадую. Няма сэнсу шкадаваць. А наконт абмежаванняў… Грамадская актыўнасць часта звязаная з магчымасцю розных затрыманняў, праблем з уладамі. Потым усё гэта можа выліцца ў праблемы з працаўладкаваннем.

Салігорск – не такі вялікі горад. Стараюся пазбягаць такіх момантаў.

### Яраслаў Берніковіч

Адзінае, што абмяжоўвае, – гэта кароткія суткі. Усё астатняе толькі спрыяе. Цяпер я набываю вышэйшую адукацыю, бо спадзяюся ў будучыні прыкласці набытыя веды да справы. Магу прызнацца шчыра: раней мне здавалася, што вучыцца ўжо пазнавата. Але неяк пачуў такую фразу пра амерыканскія рэаліі: «Гэта малады палітык, яму толькі 55 гадоў». І цяпер не бянтэжуся, што ў свае гады яшчэ студэнт. А што да родных і блізкіх, то менавіта клопат пра іх, пра іхнюю будучыню і ёсць асноўным стымулам да таго, каб не спыняцца.

### Аляксей Валабуеў

Адзінае абмежаванне – гэта час. Каб быў беспрацоўным, дык мабыць, толькі грамадскай дзейнасцю і займаўся б.

### Вераніка Велігор

Праца – амаль ніякіх, бо на працы агітацыі я не вяду, а працаўніца я старанная. А чым я займаюся на сваіх законных выходных, начальству ўсё роўна. Толькі напружвае дзядзечка ў цывільным, які заходзіць час ад часу паглядзець на тое, як я працую, ды абрывае тэлефон кіраўніцтва, каб ні ў якім разе не давалі адгулаў у часе акцый.

Больш клопату мне за лёс родных… Каму хочацца, каб за іх «памылкі» цярпелі бліжэйшыя табе людзі. Дый за вучобу троху перажываю (асабліва пасля словаў самі ведаеце каго: »А представьте, как будет обидно, если вы вылетите на последнем курсе?..»).

### Аляксей Дзермант

Тут, хутчэй, справа ў працы і звязаным з гэтым фінансавым чыннікам. Каб паўнавартасна займацца грамадскай дзейнасцю, культуралагічнай, трэба мець дастаткова сродкаў, каб іх на гэта выдаткоўваць. Мы выдаём часопісы, займаемся музыкай, навуковымі доследамі. Гэта патрабуе выдаткаў. Абмежаванне, хутчэй, у гэтым. Па часе можна спалучаць, а вось у іншым – не.

### Эдвард Дмухоўскі

Перашкаджае найперш неразуменне. Перашкаджае асабістая лянота. Адміністрацыйны рэсурс, бар’ер. Хаця акурат яго пры вялікім жаданні можна лёгка пераадолець. Самае асноўнае, напэўна, нашае беларускае раздзяўбайства. Менавіта гэта перашкаджае найбольш, я лічу.

### Алесь Гелагаеў

Абмяжоўвае толькі праца. Але яна і дае магчымасць займацца грамадскай дзейнасцю.

### Ганна Канюс

Паколькі грамадская дзейнасць – асноўная, то я проста выбіраю, што менавіта мне трэба ў дадзены момант. Ёсць шкала прыярытэтаў і ёсць мая ўласная свабода выбару, чым займацца.

### Віталь Каратыш

Ніякіх. Хутчэй, наадварот, – паўсядзённае жыццё зводзіць з цікавымі людзьмі, дае новую інфармацыю, што заўсёды важна ў грамадскай дзейнасці. Важна не страціць сувязі з грамадствам, жыць з людзьмі на адным узроўні, разумець іх.

### Юрый Карэтнікаў

Ніякіх. Сучасныя сродкі камунікацыі дазваляюць зрабіць такія абмежаванні мінімальнымі.

### Юрый Казак

Першае абмежаванне – гэта час. Хацелася зрабіць болей, але часу не хапае. Я працую індывідуальным прадпрымальнікам, працу і час можна рэгуляваць, але адрачыся працы нельга, бо трэба за нешта карміць сям'ю. Другое абмежаванне – гэта фінансавыя абставіны. Адрачэшся працы – не будзе чым карміць сям'ю.

### Пятро Кузняцоў

Грамадская дзейнасць – не вайна і не бізнес. Гэта стан душы. Твайго сэрца. Гэта тваё стаўленне да краіны, да людзей, да сяброў і да суседзяў. Ніякіх абмежаванняў нішто не накладае. Гэта дакладна. Калі ты робіш добрую справу, твае блізкія імкнуцца табе дапамагаць, пры ўмове, што яны бачаць плён ад гэтых высілкаў. Дзякуй Богу, у мяне найлепшая сям'я на свеце, мужныя ды разумныя людзі. Мне проста прыемна жыць ды працаваць у такім атачэнні.

### Воля Кузьміч

У Беларусі няшмат магчымасцяў займацца толькі грамадскай дзейнасцю. Стараюся размяркоўваць час паміж роднымі, адукацыяй, працай і грамадскімі справамі.

### Ігар Лапеха

Натуральна, існуюць абмежаванні. Жыццё на грамадскую дзейнасць пакідае мала часу, а грамадская дзейнасць забірае шмат часу ад жыцця. Перадусім бракуе часу, а праз гэта – ужо і ўсяго астатняга.

### Ян Лялевіч

Натуральным чынам праца (чытай – зарабляннe на жыццё) забірае істотна час, які хіба ў значнай ступені можна было перанакіраваць на грамадскую дзейнасць.

### Юлія Міцкевіч

Напэўна, толькі клопат пра родных з'яўляецца абмежаваннем маёй дзейнасці. Але не ў тым сэнсе, што гэты клопат неяк перашкаджае мне асабіста нечым займацца, а хутчэй ён не дае магчымасці быць да канца шчырай і адкры-

тай з маімі бацькамі. Яны, на жаль, і сёння не ведаюць пра тое, што я з’яўляюся старшынёй арганізацыі і нават што я ўвогуле займаюся нейкай грамадскай дзейнасцю. Гэта звязана з тым, што мой клопат аб іх здароўі, аб іх спакоі не дае мне магчымасці ўсё расказаць, як ёсць. Хоць, скажу шчыра, вельмі хочацца. Таму што зносіны ў нас па-сяброўску даверныя.

Але я ведаю, што калі б такая размова паміж намі адбылася, то пасля яе маці б кожны дзень хвалявалася і турбавалася, а ці не арыштавалі мяне, ці не пасадзілі за краты, ці не звольнілі з працы альбо збілі дзесьці на вуліцы. Маці чытае незалежную прэсу і інтэрнэт і добра ведае, што адбываецца з грамадзянскімі актывістамі, з тымі, хто выступае супраць несвабод і ўсёдазволу ўлад. І сапраўды, артыкул 193.2 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць незарэгістраванай арганізацыі) яшчэ ніхто не адмяняў.

### Васіль Палякоў

Грамадская дзейнасць чым добрая, што не трэба заўсёды быць на пэўным месцы – у аўдыторыі, каб праводзіць заняткі, за станком ці за сталом у кабінеце. Таму абмежаванні бываюць толькі ад недахопу часу ці праз перашкоды, якія ствараюцца ўладамі.

### Аляксандр Самец

Праца абмяжоўвае.

### Юра Сідун

Грамадская дзейнасць паспела занадта адбіцца на вучобе і працы, апошнім часам ідзе адваротны працэс.

### Тарэса Собаль

У маім выпадку грамадская дзейнасць накладвае абмежаванні на паўсядзённыя заняткі. Шмат часу і энергіі траціцца на суды, паходы па інстанцыях і іншае. Вось нядаўна на мяжы знялі з цягніка, сказалі, што зноў узбуджаная крымінальная справа. Я зараз не магу нікуды паехаць, а справа тая ўжо два разы закрывалася…

Яшчэ мы зараз хочам дом ля Івянца арандаваць, каб там рэпетыцыі ладзіць, заняткі для дзяцей. Стары вялікі Дом Польскі адабралі. То ніхто нам не хоча даць памяшканне. Спачатку даюць, а потым просяць назад ключы, бо КДБ загадаў забраць. Вось і паспрабуй тут нешта зрабі.

### Вольга Стужынская

Хутчэй, наадварот, катастрафічна не хапае часу на паўсядзённыя справы і самаадукацыю. Напрыклад, мне вельмі сорамна, што я дагэтуль слаба размаўляю па-французску… Таксама амаль няма часу на літаратуру, што не звязана з працай.

### Алена Талапіла

Паўсядзённыя заняткі займаюць мой час. Гэта асноўны іх уплыў.

### Паліна Уліна

Вядома, часам адна справа накладваецца на іншую. Гэта непрыемна, асабліва калі нельга перанесці гэтыя справы. У прынцыпе, нядобра, калі надоўга выпадаеш з дзейнасці, бо губляецца давер у людзей да цябе, губляеш кантакты, якія наладжваюцца часам доўга. Але агулам сумяшчаць звычайнае жыццё і грамадскую дзейнасць магчыма.

### Іван Шыла

На сёння – ніякіх. У бліжэйшай будучыні праз вучобу я вымушаны буду зрабіць вялікі перапынак.

### Ігар Шынкарык

На жаль, абмежаванняў даволі шмат. На маю думку, шмат людзей, з якімі я некалі сябраваў, праз грамадскую маю актыўнасць больш са мной не кантактуюць. Не сказаў бы, што гэта вельмі абмяжоўвае, але прыкра, што людзі больш не кантактуюць. Калі і размаўляе, то неахвотна, баіцца нешта ўзгадаць, прыгадаць. Людзі думаюць, што я толькі аб палітыцы буду гаварыць.

Бываюць такія напружанні, абмежаванні. Я стараюся спакойна да такога ставіцца.

### Генадзь Шэпелеў

Калі сур'ёзна заняцца дзейнасцю грамадскай, то ўзнікнуць праблемы на працы.

Нават у драбязе ўзнікаюць складанасці. У журнале на працы я сваё прозвішча пішу па-беларуску. Мне адзін чалавек зрабіў заўвагу. Маўляў, пішы па-расійску.

### Аляксандра Якубоўская

Галоўнае – гэта вучоба, дзе абмежаванні звязаны з часам, а таксама з неабходнасцю пастаянна праяўляць асцярожнасць, каб усё ж такі давучыцца.

### Уладзімір Яроменак

Канечне, больш за ўсё на свеце я клапачуся пра сваіх родных, таму я не магу займацца грамадскай дзейнасцю ў поўным памеры. Вучоба таксама шмат у чым абмяжоўвае мае магчымасці.

### Галіна Яшчанка

Натуральна, калі займаешся грамадскай дзейнасцю, якая па азначэнні не прыносіць даходу, ты павінен спалучаць яе з дзейнасцю, якая прыносіць даход ці рыхтуе цябе да таго, каб здабываць даход. Я ў той час была студэнткай і была збольшага на ўтрыманні бацькоў, таму пра грошы галава не балела. Займалася грамадскай дзейнасцю і вучылася. Менавіта ў такой паслядоўнасці. Магла і заняткі прапусціць, калі трэба. Бо заняткі не натхнялі, а былі абавязкам, а вось грамадская праца была поклічам сэрца.

# 9. Ці адчуваеце Вы падтрымку з боку родных, суседзяў, простых людзей?

### Настасся Александровіч

З боку родных – так, вядома. З суседзямі не камунікую, а з простымі людзьмі па-рознаму бывае – 50/50.

### Сяргей Андросенка

Мая сям'я – гэта вялікая падтрымка і натхненне для мяне. Мая маці Алена Андросенка з'яўляецца ўдзельніцай праваабарончага праекта «ГейБеларусь», а малодшая 12-гадовая сястра Хрысціна была на Адкрыцці Славянскага гей-прайду-2010 у Мінску, сама ж маці не даехала толькі таму, што не змагла абуць чаравік, бо яшчэ не прайшла апухласць раней зламанай нагі.

У сеціве і СМІ з'яўляецца шмат гамафобных каментароў і публікацый, але таксама з'яўляецца шмат і пазітыўных, і натхняльных. Я адчуваю падтрымку не толькі ЛГБТ-супольнасці, але і праваабаронцаў, і проста свабодных людзей, якія разглядаюць ЛГБТ-рух як рух, які супрацьстаіць цемрашальству і прыгнёту асобы.

### Сяргей Антусевіч

Натуральна, адчуваю. Калі б не гэта, то даўно б «перагарэў» і працаваў бы ў іншай сферы.

### Ігар Банцар

Вернасць сваім ідэалам, вытрымка і не адзін год актыўнай маніфестацыі сваіх поглядаў, нягледзячы на непрыхільныя ўмовы, дазволілі мне заслужыць пэўную рэпутацыю сярод сваякоў і проста знаёмых. Яны напэўна ведаюць, што я чалавек, які мае ўласныя перакананні і не баіцца пра іх гаварыць адкрыта. Не ўсе мяне падтрымліваюць на сто працэнтаў, але такіх людзей, хто б катэгарычна са мной не пагаджаўся, у маім наваколлі таксама няма.

### Павал Батуеў

Спачатку было неразуменне. Мяне не разумелі, бо тое, чым займаўся, не было звязана непасрэдна з кар'ерным ростам альбо працай. А ўжо ў 2006 годзе адчувалася не тое каб падтрымка, але непаразуменняў і пытанняў больш не было.

### Яраслаў Бернікові̌ч

Адчуваю заўжды. Калі нехта звяртаецца па параду – значыць, спадзяецца на дапамогу, значыць, да мяне ёсць давер. Нават загадчык ідэалагічнага аддзела райвыканкама Міхаіл Чарапкоўскі запытаў нядаўна, ці не дапамагу я знайсці сродкі для рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу ў памяць пра загінуўшых у 1921 годзе польскіх салдат.

## Аляксей Валабуеў

Розныя людзі, align рознае стаўленне да дзейнасці. Але ж большасць гэта, увогуле, мала цікавіць. Падтрымка калі і ёсць, дык хіба толькі маральная. Практычна ж нямногія нешта рабілі. Тым не менш, дастатковая колькасць людзей не проста падтрымлівала, але ж і канкрэтна дапамагала і дапамагае. За што ім вялікі дзякуй.

## Вераніка Велігор

Падтрымка адчуваецца з боку родных. Хоць яны за «пасіўны лад жыцця», але, калі прыцісне, не пакінуць і будуць адстойваць маю асобу.

## Аляксей Дзермант

Тут таксама адбываюцца станоўчыя зрухі. Калі гадоў 5–7 таму гэта ўсё выглядала хутчэй як дзівацтва, то цяпер шмат людзей, зусім не заангажаваных ні ў якую дзейнасць, з вялікай цікавасцю ставяцца да ўсяго, што мы робім. Любыя тэмы, што здаваліся раней экзатычнымі, сёння выклікаюць цікавасць.

Не скажу, што гэта маштаб агульнанацыянальны, але на лакальным узроўні цікавасць да людзей, якія нешта робяць, існуе. І гэта радуе.

## Эдвард Дмухоўскі

Мая бабуля казала: нікуды не лезь. Сваякі, родныя, калі нешта і распытвалі, то заўсёды думалі нешта сваё – там складана некага пераканаць.

На мяне збольшага глядзелі як на нейкага дзівака. Хаця не скажу, што неяк гэта негатыўна праяўлялася. Але і падтрымкі асаблівай не было.

### Алесь Гелагаеў

Канечне. Больш за тое, першым чалавекам, які фактычна падштурхнуў мяне да грамадскай дзейнасці, стала мая бабуля, якая пачула па радыё вясной 1996 года пра мітынг супраць аб'яднання з Расеяй і сказала мне, куды і калі ісці.

### Ганна Канюс

Блізкія сваякі (бацька і маці) мяне падтрымліваюць. Далёкія лічаць, што я не маю рацыі. Што да астатніх, дык частка людзей мяркуе, што мая дзейнасць вельмі патрэбная, і толькі шкадуюць, што пакуль яна не прыносіць адчувальных вынікаў. Ёсць і людзі, якія мне проста спачуваюць.

### Віталь Каратыш

Так. Спачатку маю дзейнасць успрынялі ў штыхі, а цяпер у мяне вераць і дапамагаюць, хто чым можа. Я цаню гэта.

### Юрый Карэтнікаў

Так, безумоўна падтрымка блізкіх неабходна, але самае важнае – гэта нават не ацэнка паплечнікаў, мне важная ацэнка незаангажаваных, простых людзей. Гэта тое, дзеля чаго я займаюся гэтым.

### Юрый Казак

Самая першая падтрымка і найлепшая зыходзіць ад маёй жонкі Алены, якая займаецца той жа справай, што і я, і падтрымлівае мяне ў ёй у поўнай меры. Калі штосьці не тое, калі важнае пытанне, рашэнне прымаецца разам. Другім чалавекам, ад якога зыходзіць падтрымка, з'яўляецца мая маці, якая па магчымасці ўдзельнічае ў маёй дзейнасці.

Ад некаторых суседзяў і простых людзей падтрымка таксама адчуваецца. Яна болей выражаецца ў размовах. Але калі справа даходзіць да дзеяння, адмаўляюцца штосьці рабіць, чакаюць, што за іх хтосьці зробіць.

### Пятро Кузняцоў

У мяне суседзі – алкаголікі. Я з імі знаходжуся ў стане перманентнага непаразумення. Але своеасаблівую падтрымку я атрымліваю і ад іх. Пасля кожнай нашай сустрэчы я вельмі добра разумею: немагчыма быць шчаслівым у соцыуме, дзе ёсць нешчаслівыя суседзі. Бо ўсё роўна нешта тваё шчасце тады сапсуе. Таму, калі ты хочаш жыць добра, каб твае дзеткі былі задаволены жыццём у той краіне, якую ім пакідаюць бацькі, трэба рабіць усё, каб тут добра жылося ўсім, а не табе аднаму.

А з боку простых людзей мы адчуваем у сваёй працы падтрымку кожны дзень. І формы бываюць самымі рознымі: ад смс-кі да прапановаў грашовае падтрымкі.

### Воля Кузьміч

На ўласным досведзе бачу: да пазітыву і поспеху цягнуцца. Падтрымка адчуваецца, і гэта матывуе. Стараюся быць пазітыўнай і паспяховай, кожную грамадскую справу рабіць з матывацыяй і адчуваць задавальненне ад дасягнутага.

### Ігар Лапеха

Не. (На гэтае пытанне балюча адказваць разгорнута.) Пачытайце лепш Новіка-Пеюна «Пракажоны». Гэта будзе найлепшым адказам на пытанне.

### Ян Лялевіч

Бацькі спачатку насцярожана ставіліся да актыўнасці іх сына-юнака. Але з цягам часу, заўважыўшы цвёрдую перакананасць поглядаў і намераў, супакоіліся, папросту сталі давяраць цвярозасці рашэнняў. Сябры з падворка напачатку хутчэй пасмейваліся, але цяпер паважаюць, заўжды запрашаюць падзяліцца поглядамі, асабліва напярэдадні важных палітычных зменаў.

### Юлія Міцкевіч

Заўсёды. Увогуле падтрымка розных людзей, часта незнаёмых, надае аптымізм і надзею верыць у будучыню. Напрыклад, да нас у арганізацыю часта прыходзяць маладыя людзі, якім цікавыя і блізкія ідэі сацыял-дэмакратыі, але, на жаль, праз страх быць адлічанымі з ВНУ яны не могуць дазволіць сабе стаць сябрамі арганізацыі. І нельга іх за гэта асуджаць ці крытыкаваць. Галоўнае – гэта жаданне быць карысным і нешта рабіць. Таму што пасіўнасць і абыякавасць для грамадства – найгоршыя дарадчыкі.

Што датычыцца мяне асабіста, то з боку родных мой брат Саша – той блізкі чалавек, сябар і аднадумец, з якім я магу ў любы час падзяліцца тым, што адбываецца ў маім жыцці, тым, што завязана непасрэдна з грамадскай дзейнасцю, які падтрымлівае і дапамагае.

### Васіль Палякоў

Па-рознаму. Родныя мяне падтрымліваюць, а той, хто не падтрымлівае, не перашкаджае. Так сталася, што я заўсёды самастойна вызначаўся ў сваёй дзейнасці, паважаў меркаванне іншых, але не дазваляў перашкаджаць мне рабіць тое, у неабходнасці чаго я перакананы. А ў цэлым я заўсёды выступаў за добрыя стасункі з суседзямі, іншымі людзьмі. Праўда, не прымаю людзей, якія наўмысна, дзеля асабістай выгады, шкодзяць мне ці каму-небудзь яшчэ.

### Аляксандр Самец

Аднойчы маю суседку звольнілі з працы па скарачэнні штату. Тады з яе боку адчувалася падтрымка. Аднак калі яна ўладкавалася на працу ў райвыканкам, то адразу ўсё змянілася.

З астатнімі, хутчэй, не адчуваю. Пакуль людзі маюць кавалак хлеба і лебяды яшчэ не варылі, справа Адраджэння ім да лямпачкі.

Адна з маіх сясцёр ужо даўно стала жыве ў Грэцыі. Прыехаўшы на радзіму, пачала мяне ўшчуваць за палітыку. Казала, што ў Беларусі проста рай, а не жыццё. А калі даведалася, што яе могуць не выпусціць з гэтага раю назад, дык ледзь валасы на сабе не рвала.

З раднёй напалову неяк. Хтосьці падтрымлівае, а хтосьці – не.

### Юра Сідун

Так, мае погляды паступова сталі падзяляць родныя, падтрымку ад выпадковых людзей таксама заўважаю. Гэта матывуе.

### Тарэса Собаль

Вядома. Асабліва з боку паплечнікаў па нашай арганізацыі. Каб не яны, то я не ведаю, што б было са мной. Вельмі моцна падтрымліваюць.

І не толькі яны. Цяпер часам нават незнаёмыя людзі са мной вітаюцца на вуліцах. Пазнаюць. Такую вялікую вядомасць я займела пасля ўсяго таго, што адбывалася ў Івянцы.

Бывае і злосць, і зайздрасць. Але і падтрымка моцная ёсць. Яе дастаткова для таго, каб зразумець, што ты не адзін змагаешся. Гэта галоўнае.

### Вольга Стужынская

Адчуваю вялізную падтрымку, якая дапамагае працягваць справу ў моманты сумневу. Найлепшым стымулам для мяне з'яўляецца жаданне суайчыннікаў быць

больш актыўнымі, развівацца, павышаць свой прафесійны ўзровень, шукаць міжнародных кантактаў і прэзентаваць сваю дзейнасць.

### Алена Талапіла

Мае бацькі, сёстры ды іншыя блізкія людзі падтрымліваюць мяне. Сябры, вядома, таксама. А «простыя» людзі бываюць настолькі розныя, што я за іх не скажу.

### Паліна Уліна

З боку родных падтрымка ёсць. Нават тыя, хто, здаецца, ставіцца нейтральна, у складаныя часы заўсёды гатовы дапамагчы. Простыя людзі збольшага ставяцца станоўча, але трапляюцца і тыя, хто кажа, што дзейнасць нікому не патрэбна. Такія, праўда, даволі рэдкія. Ці, можа, мне проста шанцуе.

### Іван Шыла

Ніколі не меў праблем праз грамадскую дзейнасьць з роднымі. Што тычыцца падтрымкі незнаёмых людзей, то, найчасцей, сутыкаўся са станоўчым успрыняццем. Што праўда, была і вельмі негатыўная рэакцыя.

### Ігар Шынкарык

Вядома. Думаю, што без падтрымкі сваіх родных я б не змог займацца палітыкай. Жонка і дачка мяне падтрымліваюць ва ўсім. Калі я ўдзельнічаю ў выбарах, у нечым іншым, я ведаю, што ў мяне дома добры тыл, што мяне там чакаюць.

### Кастусь Шыталь

Не адчуваю. Родныя падтрымліваюць матэрыяльна, аднак не падтрымліваюць маральна. Найчасцей мне даводзіцца як звяртацца па дапамогу, так і дапамагаць

менавіта сваім аднадумцам. Заўважаю, што пакрысе станаўлюся адарваным ад большай часткі беларускага грамадства – праз адрозненне ў каштоўнасцях і светапоглядзе мне складана знайсці з людзьмі супольную мову.

### Генадзь Шэпелеў

Бывае. У мяне цешча – расійка. Яна не разумее мяне часта. Хоць і стараецца беларускія словы ўстаўляць.

Сям'я нармалёва ставіцца. Дачка мяне называе татулькам. Для яе сказаць «папа» – гэта штучна. Хоць яна і размаўляе па-расейску.

### Аляксандра Якубоўская

Не сказала б, што мае родныя ў вялікім захапленні ад таго, чым я займаюся, бо, зразумелая справа, яны хвалююцца. А ад незнаёмых людзей – так, адчуваю. Вельмі падымае дух, калі незнаёмыя людзі падыходзяць і дзякуюць за тое, што мы робім.

### Уладзімір Яроменак

Так, вядома, адчуваю. Інакш і быць не можа, бо без падтрымкі не было б, напэўна, такой упэўненасці, што я раблю добрую справу, не было б столькі моцы, каб ахвяраваць дзейнасці ўвесь свой вольны час, не было б той веры, якая дапамагае жыць.

### Галіна Яшчанка

Родныя – не, яны не вельмі радаваліся, што дачка «лезе на ражон». Асабліва хваляваліся бабуля з дзядулем – як-ніяк пакаленне, што перажыло дзяржаўны тэрор.

Суседзі? Не, яны не ведалі нават, дзе я вучуся, не тое што чым займаюся ў вольны час.

Падтрымка з боку простых людзей? Падчас акцый – так, падыходзілі, дзякавалі, падтрымлівалі, машыны сігналілі. Але я кажу пра 1999–2000 гады.

## 10. Што Вас з імі родніць? Што Вас робіць іншымі? Чаго паміж Вамі больш – супольнага з Вашымі роднымі, суседзямі, суайчыннікамі ці адрознага?

### Настасся Александровіч

Родніць тое, што ўсе мы людзі з пачуццямі, думкамі, жаданнямі. Аднымі і тымі ж, як правіла. А робіць іншай тое, што маем розныя мэты, рознае разуменне паняцця «дзяржавы», «свабоды» і сябе ў дзяржаве.

### Сяргей Андросенка

Збольшага я маю стасункі з людзьмі, якія мяне ці падтрымліваюць, ці разумеюць. Безумоўна, з такімі людзьмі, незалежна ад іх сексуальнай арыентацыі ці гендарнай ідэнтычнасці, у мяне больш супольнага. Кожны з нас хоча быць шчаслівым, абароненым і свабодным.

### Сяргей Антусевіч

Родніць тое, што жывём мы на адной зямлі, думаем пра тое, каб жыць лепш. Адрознівае хіба тое, што я маю свой досвед і па-іншаму падыходжу да праблем і іх вырашаю. Супольнага больш. Калі б было інакш, то жыў бы хіба ці ў рэзервацыі, ці ў іншай краіне.

## Ігар Банцар

На вялікі жаль, я бачу, што з кожным годам я ўсё далейшы ад сваіх суайчыннікаў. Працяглы прэсінг з боку ўладаў, ілжывая прапаганда, атмасфера страху не спрыяюць паляпшэнню адносінаў паміж грамадзянамі. Як чалавек, свабодны ад страху, я з вялікім жалем назіраю, як мае суайчыннікі, пакорліва ўгінаючы галовы, ператвараюцца ў шэрую масу. Я ніколі не пагаджуся быць простай шрубкай у таталітарнай сістэме, і гэта, безумоўна, адрознівае мяне ад большасці маіх суайчыннікаў.

## Павал Батуеў

Складанае пытанне. Не ведаю, як на яго адказаць. Часам падаецца, што шмат супольнага, а часам – што шмат рознага.

Я наведаў не так шмат краін – Польшча, Літва, але калі звычайным людзям пра гэта расказваеш, то яны робяць вялікія вочы і глядзяць на мяне як на цуд. Для іх гэта іншы свет. У гэтым сэнсе паміж намі вялікая розніца. З другога боку, супольнага таксама шмат. Нас цікавяць аднолькавыя праблемы – заробкі, падаткі. Адназначна на гэтае пытанне нельга адказаць.

## Яраслаў Берніковіч

Супольнага, канечне, болей. Бо ўсе людзі заўсёды імкнуцца да лепшага. Але адны хочуць лепшага толькі для сябе, а іншыя – калі не для ўсіх, дык хаця б для многіх.

## Аляксей Валабуеў

Родніць мяне з імі роўна столькі, колькі і адрознівае. Не думаю, што я нейкі іншапланетнік. Я хаджу на працу, у кіно, люблю вандраваць. Ну, хіба толькі тэлевізар я практычна не гляджу. Гэта, бадай, найвялікшае адрозненне.

## Вераніка Велігор

Родніць тое, што мы родныя. Мы сям'я і павінны падтрымліваць адзін аднаго. У мяне патрыятычная польская сям'я. Так, мае бацькі лічаць сябе палякамі, і ў пасведчанні аб нараджэнні маім напісана, што я полька. Я з дзяцінства вучыла польскія вершы ды гімны, але ў канчатковым выпадку «стала беларускай». І мае бацькі паважаюць мой выбар, бо гэта не проста словы.

У чым мы разыходзімся? Усе згодны, што дзейнасць мусіць быць, але родным не хочацца там бачыць сваё дзіцё.

## Алесь Гелагаеў

Супольнага, канечне, больш – мы ўсе людзі, стварэнні Божыя, большасць падзяляе калі не хрысціянскія перакананні, дык дэкларуе этыку, якая базуецца на хрысціянскай. Падзяляе негатоўнасць некаторых людзей да дыялогу. Калі дыялог магчымы, калі чалавек гатовы слухаць аргументы і карэктна контраргументаваць, заўсёды можна знайсці новага сябра.

## Аляксей Дзермант

Больш супольнага. Супольнае паходжанне, супольная зямля, супольная дзяржава. Усведамленне таго, што мы хочам жыць у годнай краіне, краіне цікавай.

Адрознівае бачанне стратэгіі і зместу. Для адных квітнеючая краіна – гэта адно. А для другіх – зусім іншае. Кожны з нас намагаецца давесці, што яго вобраз больш дакладны і абгрунтаваны.

## Юрый Казак

Родніць з імі мяне тое, што мы жывём, працуем у адной краіне, у Беларусі. І яшчэ адзін факт – мы разам беларусы і, у пэўнай меры, усе хрысціяне. Гэта тое, што яднае мяне з суседзямі і простымі людзьмі. З роднымі і сябрамі – у нас адзіная

мэта, мара і справа. Дзейнічаем мы як адзіная каманда. Гэтыя якасці адрозніваюць мяне, маіх родных і сяброў ад простых людзей і суседзяў.

Калі параўноўваць, то паміж роднымі, сябрамі, суседзямі і суайчыннікамі, вядома, больш супольнага, і гэтая супольнасць складаецца, як я і казаў вышэй, з таго, што ў нас адзіная краіна, адзіная гісторыя, адзіная нацыянальнасць і адзіная будучыня, якую мы будуем самі.

### Ганна Канюс

Я з той катэгорыі людзей, якія гатовыя паставіць на карту ўсё сваё жыццё дзеля прынцыпаў, якіх я прытрымліваюся. Я гатовая страціць усё, і я разумею і прымаю тое, што людзям ёсць, што губляць, і ёсць, за што ці каго баяцца.

### Віталь Каратыш

Мы землякі і адна сям'я. Нас усё аб'ядноўвае. Хіба што, як казаў раней, мэты і каштоўнасці ў кожнага свае.

### Юрый Карэтнікаў

Супольнае: менталітэт, натуральны кансерватызм, карані, выгляд, традыцыі.
Розніць: успрыманне свету, мая большая актыўнасць і інфармаванасць.

### Пятро Кузняцоў

Родняць нас, часцей за ўсё, адныя і тыя ж праблемы, а таксама разуменне, што ўсе мы жывём тут, на гэтай зямлі, якую немагчыма скласці ў заплечнік ды пераехаць разам са сваёй радзімай у іншае месца. Таму толькі нам тут жыць і толькі нам вырашаць нашыя сумесныя праблемы.

А робіць мяне іншым… Скажу так: вышэйшая ступень прагматызму. Я казаў – я разумею, і разумею выдатна, што быць шчаслівым і заможным можна толькі ў шчаслівым і заможным соцыуме. Я гэта разумею і шчыра, дзеля

свайго шчасця й шчасця родных імкнуся зрабіць добра дзеля ўсіх. Большасць, на жаль, гэтага не разумее. Адсюль «Мая хата з краю…».

### Воля Кузьміч

З роднымі болей супольнага – каштоўнасці, сям'я, зямля. Адрозныя вонкавыя ўмовы выхавання, адукацыі, магчымасці самарэалізацыі. Мы ўсе з розных пакаленняў. Бацькі сталелі за савецкім часам, браты, сястра атрымалі адукацыю яшчэ савецкую. На маё дзяцінства і юнацтва прыпаў распад СССР, аднаўленне незалежнасці Беларусі, імклівае развіццё тэхналогій, глабалізацыя. З роднымі болей супольнага, аднак адрознае – магчымасці часу.

З суайчыннікамі шмат і падобнага, і адрознага. Мы з адной краіны – жывём у падобных умовах і кантэксце, аднак featurezнае бачанне магчымасцяў уплыву на развіццё сітуацыі ў краіне, часам – розныя каштоўнасці і прыярытэты.

### Ігар Лапеха

Родняць радасці, запатрабаванні, праблемы, каштоўнасці. Адрозніваюць спосабы дасягнення, адстойвання, аналізавання.

### Ян Лялевіч

Больш, напэўна, падобнага, бо я такі самы сын гэтае зямлі, а гэтым шмат што сказана. Ну, а адрознівае, вядома, сфера праявы актыўнасці, што хіба абумоўлена ступенню разумення адказнасці за месца і за людзей, сярод якіх жывеш.

### Юлія Міцкевіч

Думаю, што ўсіх нас, хто жыве ў Беларусі, яднае жаданне зменаў, жаданне іншай будучыні для сябе і для тых, хто побач. Усе мы за апошнія 16 год стаміліся ад мачызму дзяржаўнай улады, непрыкрытай хлусні і здзеклівага стаўлення да сябе. Але хтосьці гэта выказвае публічна, калі ходзіць на недазволеныя мітынгі

з плакатамі «Далоў Луку!», а хтосьці – маўчыць і разважае пра сябе. У кожнага з нас свае метады супраціву.

Праблема ў тым, што ў большасці беларусаў няма магчымасці выязджаць за мяжу – праз колькасць дакументаў, якія мусова сабраць, і 60 еўра за адну паездку (даволі вялікая сума). Тут, мне здаецца, праяўляецца палітыка двайных стандартаў ЕС, але зараз не аб гэтым.

Усё, як правіла, спазнаецца ў параўнанні. Калі ты прыязджаеш у Еўропу і пачынаеш бачыць іншае па якасці жыццё, пачынаеш аналізаваць і параўноўваць, то толькі тады становіцца відавочным, як дрэнна на самой справе ты жывеш. Бо нельга гэтага зразумець, седзячы на канапе і гледзячы беларускае тэлебачанне, якое распавядае табе, што на мітынгі з нейкімі там патрабаваннямі ходзяць толькі «адмарозкі». А ты раптам едзеш, напрыклад, у Францыю, бачыш там забастоўкі рабочых і пачынаеш разумець, што адстойванне сваіх правоў і напамін аб іх дзяржаўным чыноўнікам, калі тыя часам забыліся, – гэта такая ж нармальная справа, як і хадзіць кожны дзень на працу.

### Васіль Палякоў

Я б не стаў шукаць нейкую розніцу паміж сабой і роднымі, суседзямі і суайчыннікамі. У кожнага свой лёс, кожнаму нешта наканавана ў гэтым жыцці. Пагэтаму больш, безумоўна, супольнага, толькі кожны знайшоў сябе ці шукае ў нечым іншым.

### Аляксандр Самец

На бытавым узроўні адносіны ў мяне з людзьмі добрыя. Шануюць нават – пабудаваў сабе дом, будую сыну. Меў некалі будаўнічы кааператыў… Адно не разумеюць маёй цікавасці да палітыкі. Глядзяць коса, калі справа да гэтага даходзіць, калі пачынаю нешта распавядаць.

### Юра Сідун

З роднымі роднiць супольнае паходжанне, аднак больш супольнага на дадзены момант у мяне з сябрамі. З цягам часу сітуацыя, думаю, будзе змяняцца, і болей супольнага будзе з роднымі, чым з сябрамі. З суайчыннікамі і суседзямі ў нас супольны кантэкст, і толькі.

### Тарэса Собаль

Не ведаю нават. Хутчэй, супольнага больш. Мы ж усе людзі, усе жадаем таго самага – здароўя, шчасця, радасці. Думаю, што супольнага паміж намі больш. А што часам такая варожасць прысутнічае, то гэта з часам зменіцца. Проста трэба перачакаць.

### Вольга Стужынская

У Беларусі з суайчыннікамі роднiць, зразумела, адзiная гісторыя і культура, мова, таксама дзіцячыя і юнацкія гады, успаміны пра ліцэй і першыя крокі да грамадскай актыўнасці, што пачалася ў 1990-х. Адрознівае тое, што маё амаль усё дарослае жыццё праходзіць па-за межамі Беларусі. Праз гэта шмат якія рэчы інтэрпрэтуюцца па-іншаму, і часам бачанне, успрыманне некаторых рэчаў адрознае…

### Іван Шыла

Мы розныя людзі, і мне не хацелася б усе адрозныя моманты разглядаць праз прызму майго ўдзелу ў «Маладым Фронце». І без яго я быў бы іншым чалавекам. І з ім альбо без яго я меў бы супольнае з роднымі ці суседзямі.

### Ігар Шынкарык

Супольнага больш. Мы ўсе – людзі, усе жывём аднолькава. Тое, што нехта нечым займаецца па-за працай, не так і значна ўплывае на чалавека.

### Кастусь Шыталь

Думаю, што больш адрознага. Большасць людзей клапоціцца толькі пра памнажэнне матэрыяльных каштоўнасцяў. Для мяне ж гэтыя каштоўнасці ёсць другараднымі – дастаткова мне, каб быць не галодным ды каб быў нейкі дах над галавой.

### Генадзь Шэпелеў

Супольнага больш, вядома. Мы ж усе беларусы, толькі па-рознаму ставімся да мовы і культуры. Не лічу сябе нейкім асаблівым і лепшым за іншых. Адно адрозненне ў тым, што я стараюся нешта рабіць для Беларусі, важнае. Але кожны робіць тое па-свойму.

### Алена Талапіла

Усе мы і розныя, і падобныя. І беларусы не больш за іншых. Лучыць мяне з роднымі, суседзямі і суайчыннікамі тое, што я лічу, што нас нешта лучыць. І я радуюся, калі гэтае нешта выліваецца ў супольныя справы.

### Паліна Уліна

Родныя – яны на тое і родныя, каб у нас з імі было шмат супольнага. Тое, што яны не займаюцца нейкай дзейнасцю, акром працы ці вучобы, абсалютна не значыць, што мы – розныя людзі. Я ведаю, што, калі трэба, яны мяне падтрымаюць. На дадзеным этапе гэтага дастаткова. Я нарадзілася ў Беларусі, я тут жыву, верагодна, што я маю шмат супольнага з суайчыннікамі. Гэта лагічна.

Вядома, з алкашом Васем супольнага не так і шмат, але вось з суседкай Ленай – наадварот. У сярэднім жа выйдзе, што паміж намі траімі супольнага будзе дастаткова.

### Аляксандра Якубоўская

Мы ж не рознапланетнікі. Жывём у адной краіне, дыхаем адным паветрам.

### Уладзімір Яроменак

З роднымі, вядома, мяне родняць супольныя карані, супольная спадчына. З астатнімі мяне родніць наша супольная нацыя – беларуская, і гэта, я лічу, галоўнае. У астатнім, я мяркую, мы розныя, бо кожны чалавек ёсць асобным, своеасаблівым індывідам. Ніколі не знойдзеш абсалютна аднолькавых людзей, нават сярод сваякоў.

### Галіна Яшчанка

Я б аддзяліла – родныя ў адну групу, суседзі/суайчыннікі – у другую.

З роднымі, вядома, больш супольнага. Гэта мая сям'я, самыя блізкія мне людзі. Маё жыццё мяне з імі родніць.

З суседзямі/суайчыннікамі павінна быць больш усё ж такі супольнага. Беларусы па азначэнні павінны любіць сваю Беларусь – у гэтым, як мінімум, супольнае. Беларусы па азначэнні павінны жадаць сваёй краіне дабра. Што добра для краіны, а што не – розным беларусам можа бачыцца па-рознаму. У гэтым могуць быць адрозненні. Разуменне, што добра, а што не, што чорнае, а што белае, залежыць ад адукацыі, выхавання, ад умення думаць і разважаць. Спадзяюся, што ў нас у краіне разумных людзей больш.

# 11. Што для Вас складае сэнс жыцця?

### Настасся Александровіч

Адчуваць, што тое, што я раблю, прыносіць плён і бачны вынік.

### Сяргей Андросенка

Не буду пісаць агульных пафасных слоў. Мой сэнс зараз – быць шчаслівым і абароненым у сталасці, нічога незвычайнага. З часам можа з'явіцца яшчэ нешта, напрыклад, «паставіць на ногі» і выхаваць дзіця ці нешта яшчэ. Пакуль жа я бачу сэнс у стварэнні бяспечных і камфортных умоў для жыцця гомасексуальных сем'яў у Беларусі.

Я не хачу зрабіць камусьці нешта дрэннае, кагосьці збіць, забіць ці пазбавіць правоў, што часам могуць хацець зрабіць з гомасексуаламі або трансгендарамі, я проста хачу бяспекі і камфорту для сябе.

### Сяргей Антусевіч

Гэта надзвычай складанае пытанне. Людзі шукаюць адказ на яго ўсё жыццё. Сёння для мяне гэта, найперш, каханне і, па-другое, дапамагаць людзям.

### Ігар Банцар

На вялікі жаль, я дасюль не знайшоў для сябе адказу на гэтае пытанне. Я ўвесь час у пошуку.

### Павал Батуеў

З аднаго боку, хочацца пафасна адказаць, што я жыву для таго, каб нешта змяніць у нашай краіне. А з іншага – пачынаць заўсёды варта з сябе, змяняць сваё ўласнае. Так што пакуль мяне цікавіць прафесійны рост. Гэта не значыць, што я не буду ўдзельнічаць у грамадскіх працэсах, але на дадзены момант для мяне важны найперш прафесійны рост.

### Яраслаў Берніковіч

Жыццё для мяне набывае сэнс, калі няма часу на адпачынак. Тады я згадваю словы Чэ Гевары: «Стаміўся – адпачні. Але пасля гэтага ты ўжо ніколі не будзеш байцом рэвалюцыі». Можа, гэта гучыць трохі напышліва, але мне дапамагае забыцца на стому і не шкадаваць сябе за тое, што калісьці не выспаўся ці не хапіла часу пад’есці.

Сэнс жыцця для мяне, пэўна, у тым, каб ніколі не спыняцца ў сваім развіцці, у сваёй дзейнасці.

### Аляксей Валабуеў

Сэнс майго жыцця – у Жыцці. Менавіта Жыцці. З вялікай літары. Для мяне Жыццё – гэта найперш рух. Мне сумна, калі чалавек губляе свой час на ляжанне на канапе перад тэлевізарам. Я люблю хадзіць у сапраўдныя паходы, люблю наведваць іншыя краіны, люблю катацца на сноўбордзе, а таксама мне вельмі падабаецца займацца грамадскай дзейнасцю. Вось што ў маім разуменні Жыццё, і вось у чым я бачу яго сэнс. Пры адказах на гэткія пытанні я заўсёды ўзгадваю верш Максіма Танка:

*Спакойнага шчасця*
*не зычу нікому:*
*Навошта грымотам*
*маланка без грому,*
*Навошта ручай*
*без пякучае смагі,*
*Халодная ўвага,*
*не вартая ўвагі,*
*Жаданні, што прагныя*
*крылы згарнулі,*
*Зязюля без лесу*
*і лес без зязюлі?*

### Вераніка Велігор

Сэнс жыцця – знайсці сэнс жыцця, прычым не стаць шэрым прусаком.

### Алесь Гелагаеў

Быць добрым каталіком.

### Аляксей Дзермант

Як сказаў бы – быць адпаведным сваёй зямлі. Пад ёй я разумею пэўнае быццё, гістарычны лёс, нават пазачасавы лёс, у якім злучаецца ўсё. Для мяне сэнс жыцця ў тым, каб шукаць праўду зямлі, раскрываць яе і даводзіць іншым.

### Юрый Казак

Усталяваць хрысціянскую ўладу, якая грунтуецца на хрысціянскіх прынцыпах. Пад гэтым я разумею прысутнасць ва ўладзе праведных людзей, якія вераць у адзінага Ісуса Хрыста, служаць яму і праводзяць маральную палітыку, заснаваную на слове Божым і хрысціянскіх прынцыпах. Пабудаваць краіну, дзе будзе дэмакратыя, свабода, раўнапраўе. Пакінуць нашчадкам краіну, за якую не сорамна, а падымаецца гонар перад Богам, нашчадкамі і суседнімі краінамі.

### Ганна Канюс

Пытанне аб сэнсе жыцця – гэта самае складанае пытанне. Мне дарагое пачуццё свабоды, пачуццё адказнасці, пачуццё салідарнасці і спачування. Адстойванне гэтых каштоўнасцяў стала для мяне сэнсам жыцця. Як, у прынцыпе, і само жыццё – гэта самая значная каштоўнасць.

### Віталь Каратыш

Складанае пытанне. Хачу дапамагаць людзям.

### Юрый Карэтнікаў

Дамагчыся сваёй бела-чырвонай Беларусі, дзе можна быць шчаслівым, вольным, забяспечаным грамадзянінам. Краіны, дзе жывое, актыўнае грамадства кантралюе большасць сфер, дзе няма страху і калгаснага чырвона-зялёнага «саўка».

### Пятро Кузняцоў

У мяне некалькі рэчаў, якія я лічу сэнсам жыцця. Па-першае, гэта мае дзеткі. І дачка Злата, якая ўжо расце, і тыя, якія, упэўнены, яшчэ народзяцца.

Па-другое, скажу словамі паэта Амара Хаяма, якія, даруйце, ведаю на расейскай мове:

*Стоит жить, чтоб в землю врезать*
*След поглубже, позаметней,*
*Чтоб твое осталось дело –*
*Словно дуб тысячелетний.*

### Воля Кузьміч

Жыць так, каб даведацца і спазнаць як мага болей цікавага і пакінуць пасля сябе нешта карыснае.

### Ігар Лапеха

За такія пытанні Бог з раю выганяе. Проста рабі, што павінен, і будзе, што будзе.

### Ян Лялевіч

Найбольш аддана і поўна ажыццявіць прызначэнне, да якога паклікаў мой Створца. Усведамляючы, што да гэтага пакліканы кожны, пастараюся падзяліцца з іншымі людзьмі радасцю служэння Гасподняй Волі.

### Юлія Міцкевіч

Быць у гармоніі з сабой і навакольным асяроддзем, атрымліваць асалоду ад усяго, што я раблю і што адбываецца вакол – незалежна, гэта звязана з грамадзянскай дзейнасцю ці з асабістым жыццём, альбо з тым, як спяваюць птушкі.

### Васіль Палякоў

Гэта філасофскае пытанне, і на яго нельга проста адказаць. Любыя словы будуць словамі, і не больш за тое. Але мне падаецца, што сэнс у тым, каб дзякуючы чалавеку, яго дзейнасці адбылося паляпшэнне ў жыцці іншых людзей, нашчадкаў, грамадства ў цэлым.

### Аляксандр Самец

Удасканальвацца ва ўсім самому і дапамагчы гэта зрабіць іншым.

### Юра Сідун

Сэнс жыцця – у цікавым.

### Тарэса Собаль

Ой, не ведаю. Проста хочацца жыць так, каб не сорамна было. Каб можна было людзям у вочы глядзець спакойна. Напэўна, так.

### Вольга Стужынская

Знайсці гармонію і правільны баланс паміж працай, асабістым жыццём, часам, што выдаткоўваецца на родных і блізкіх і на асабістае развіццё. Увогуле, імкнуся да гармоніі ва ўсім, таксама да стану ўнутранага спакою. Калі чалавек жыве ў ладзе з сабою, то будзе ў стане дапамагаць ствараць такі ж асяродак і для іншых.

### Алена Талапіла

Давайце вернемся да гэтага пытання, калі я буду паміраць.

### Іван Шыла

Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне, пазбягаючы пафасных і тыповых выразаў. Коратка, як я адказваў на пытанне ў вайсковай анкеце, – быць грамадзянінам.

### Ігар Шынкарык

Здароўе родных і блізкіх. У першую чаргу, іх усмешкі. Я думаю, што больш сэнс маюць добрыя адносіны са сваякамі, чым нешта іншае. У гэтым сэнс майго асабістага жыцця.

Я не буду казаць, што сэнс майго жыцця – зрабіць у краіне рэвалюцыю. Я стаўлюся да жыцця прасцей. Цаню звычайныя чалавечыя радасці.

### Кастусь Шыталь

Я хрысціянін. Я веру, што зямное жыццё ёсць падрыхтоўкай да жыцця вечнага ў Божым Валадарстве. Таму я імкнуся жыць паводле свайго сумлення, служачы Богу і людзям, усведамляючы, што за ўсё, што зрабіў за жыццё, павінен буду даць адказ на Апошнім Судзе.

### Генадзь Шэпелеў

Сям'я найперш. Беларусь… Складана гэта акрэсліць. Я хачу жыць у нармальнай краіне – беларускай.

### Аляксандра Якубоўская

Дарыць любоў людзям.

### Уладзімір Яроменак

На дадзены момант, напэўна, гэта вольная Беларусь, не далучаная ні да Еўрасаюза, ні да Расеі. А ўвогуле, гэта пытанне больш для філосафаў, а я не філосаф.

### Галіна Яшчанка

Зрэалізаваць сваё наканаванне.

## 12. Распавядзіце, як Вы пачалі займацца грамадскай працай. Якім чынам Вы адчулі ўнутраную патрэбу ў гэтым? Як Вы даведаліся пра існаванне арганізацыі, з якой Вы пачыналі? Як прыйшла ідэя яе заснаваць?

### Настасся Александровіч

Напярэдадні выбараў 2006 года адчула, што неабходна не проста прагаласаваць у дзень выбараў, але і спрычыніцца да прасоўвання ідэй незалежнасці і свабоды ў грамадстве. Зрабіць штосьці карыснае дзеля краіны, людзей, абудзіць у людзях пачуццё годнасці.

Проста вучыцца ці хадзіць на працу, дыскатэку ці «тусавацца» ў цэнтры – гэта ніколі не падабалася мне. Мне хацелася самарэалізацыі і адчуваць, што вынік тваёй працы, тваіх намаганняў мусіць быць. Да таго ж пачуццё максімалізму і рамантызму ў палітычнай і грамадскай дзейнасці зрабілі сваю справу. Пра арганізацыю БНФ ведала з дзяцінства, яшчэ бабуля ды маці хадзілі на мітынгі.

### Сяргей Андросенка

У розных СМІ я сустракаў артыкулы пра ЛГБТ-рух у свеце, пра прайды ў іншых краінах. Я захацеў удзельнічаць у такім у Беларусі. Вопыт супрацоўніцтва з недзяржаўнымі арганізацыямі да таго часу ў мяне ўжо сякі-такі быў. У грамадскім жыцці я з 14 гадоў – удзельнічаў у руху, звязаным з правамі дзяцей і моладзі. Калі ж я саспеў да ЛГБТ-дзейнасці, аказалася, што яе ў краіне няма. Беларускі ЛГБТ-сайт Apagay.com вельмі працяглы час не абнаўляўся, беларуская ліга «Лямбда» ўжо бяздзейнічала, а актывісты заняліся іншымі справамі і заняткамі. Я сачыў за тым,

як прыкладна паўгода нічога не адбывалася, знаёміўся з хлопцамі, уліваўся ў гей-супольнасць – я ж быў вельмі юны. А потым вырашыў, што змагу сам пачаць рух, якога няма. Тады і з'явіўся сайт GayBelarus.By (.Org), першапачаткова на бясплатным хостынгу, і Беларуская ініцыятыва маладых геяў. Мне было 17 гадоў! У той момант гэта было жаданне самарэалізавацца, было аголенае пачуццё несправядлівасці, пры гэтым мне заўсёды былі цікавыя грамадская праца і грамадскае жыццё. Зараз прычыны і мэты крыху змяніліся, сталі больш дасканалымі, за 4 гады я ўсё ж такі пасталеў, але жаданне пераменаў засталося такое ж, што і тады.

### Сяргей Антусевіч

Усё было даволі проста. Пасля рэферэндуму 1995 года я моцна «пакрыўдзіўся» на ягоныя вынікі і вырашыў, што пасля ўніверсітэта ў 1996 годзе пайду ў БНФ. Так і зрабіў. Пасля быў «Малады Фронт» . І толькі ў 1999 годзе я прыйшоў у Беларускі незалежны прафсаюз.

### Ігар Банцар

На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя дэмакратычны рух у Беларусі быў у росквіце, таму для мяне як для чалавека, які любіць свабоду, пытанне пра тое, што і як я мушу рабіць, нават не стаяла. Я быў надта малады, каб браць удзел у пераломных падзеях 80–90 гадоў, і таму я хацеў максімальна рэалізаваць сябе тады, калі ўжо стаў здольны прымаць самастойныя рашэнні. Я хацеў зрабіць нешта для сваёй краіны. Напэўна, у гэтым было шмат рамантычнай наіўнасці, падлеткавага максімалізму, але ж, лічу, гэта быў не найгоршы выбар для падлетка 14-15 год. У сярэдзіне 90-х «Малады Фронт» быў вельмі актыўны ў Гродне, таму знайсці кантакты і стаць сябром гэтай арганізацыі не склала ніякіх праблем. Тады ў Гродне яшчэ была незалежная прэса, праходзілі масавыя мітынгі апазіцыі. Усё гэта так уражвала, напаўняла аптымізмам, хацелася нешта рабіць на карысць сваёй дзяржавы разам з аднадумцамі. Гэта былі вельмі добрыя часы для ўсяго незалежніцкага руху ў Беларусі.

## Павал Батуеў

Пачаў я займацца грамадскімі справамі напрыканцы школы. Гэта быў 1999–2000 год. Я пачуў па тэлебачанні «Песню пра каханне» «NRM» і задумаўся, што вось тут людзі песні па-беларуску спяваюць, а я двух слоў звязаць не магу. Пачалося захапленне беларускай мовай, і неяк гэта вылілася ў далучэнне да арганізацыі «Край». Там адбывалася маё выхаванне як беларуса. Пасля быў БНФ. З гэтага ўсё пачыналася.

## Яраслаў Берніковіч

Было так: спачатку запрасілі на нейкі семінар, потым я быў назіральнікам на выбарах. Добра памятаю, што было дужа цікава, бо раней такім не займаўся. Грамадскую дзейнасць я пачынаў у Фондзе Льва Сапегі, якім у Віцебску кіраваў Хрыстафор Жаляпаў. Мне прапанавалі стварыць падобную структуру на тэрыторыі раёна. Спачатку аб'ядналіся знаёмыя, потым далучылі іншых. Пасля закрыцця аддзяленняў Фонду Льва Сапегі было прынята рашэнне стварыць мясцовыя арганізацыі, якія б канцэнтравалі высілкі па грамадскіх справах у рэгіёнах. Тады і з'явілася «Барміца» – наша арганізацыя.

## Аляксей Валабуеў

Думаю, тут я не буду арыгінальны. Аднойчы сябар запрасіў мяне на мітынг апазіцыі. Потым быў яшчэ досыць цікавы семінар па паліталогіі. А з набліжэннем прэзідэнцкіх выбараў стала зразумела, што магу сам паўплываць на змены ў нашай краіне. Пра арганізацыю даведаўся ад таго ж самага сябра.

## Вераніка Велігор

Да 2006 года дзейнічала я без далучэння да якіх там арганізацый. Так, дурэла. Была маленькая кампанія школьнікаў, якая любіла ставіць горад на вушы. Я вырасла ў асяроддзі, дзе такая з'ява, як «лукашызм», выклікала абу-

рэнне ды гнеў, я чула гісторыі ахвяр рэжыму, я бачыла слёзы… Усё збіралася усярэдзіне, накіпала… На выбарах 2006 года гучна пра сябе заявіў «Малады Фронт». Я пачала наладжваць сувязі, прыглядацца (ох, і прывабіў мяне іх статут!), ссябравалася з Яраславам Грышчэнем, які мяне запрасіў на суд над Змітром Дашкевічам 15 снежня 2006 года. Фактычна, з гэтай даты і пачалася мая дзейнасць ад арганізацыі «Малады Фронт».

### Алесь Гелагаеў

Часткова адказаў вышэй. У 1996 годзе з'явілася магчымасць страты Беларуссю незалежнасці ў выніку «інтэграцыі» з Расеяй. Пайшоў на мітынг, арганізаваны каля беларускай амбасады ў Маскве Таварыствам беларускай культуры імя Францішка Скарыны. Так усё і пачалося.

### Аляксей Дзермант

Калі я пазнаёміўся з дзейнасцю цэнтра «Крыўя», у мяне з'явілася жаданне далучыцца да гэтай дзейнасці. Яны займаліся тады, з аднаго боку, навуковай дзейнасцю, а з іншага – прапагандай і культываваннем сваіх ідэй. Я паступова ўцягваўся. Нешта дапамагаў рабіць. Мяне найбольш цікавіў навуковы план, філасофскі. Я падумаў, што трэба выдаваць часопіс, стварыць сайт. Паступова ставіў нейкія мэты, а потым дасягаў іх. Мая практычная дзейнасць заключалася ў падрыхтоўцы і стварэнні нейкіх выданняў.

### Эдвард Дмухоўскі

У 1997 годзе мы зарэгістравалі першую моладзевую арганізацыю «Альянс Вітаўта Вялікага». Тады ў Гродне быў сапраўдны бум моладзевых арганізацый. Зарэгістравана іх было шмат. Існавала «Рада-23» – рада 23-х арганізацый, праводзіліся разнастайныя кірмашы, форумы, фестывалі. Канкурэнцыя існавала паміж арганізацыямі.

Працаваць не было складана. Мы хадзілі па горадзе, шукаючы юрыдычны адрас. Зайшлі ў Беларускі фонд культуры, там сядзеў прафесар Габрусевіч, над якім вісела «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг – гэта ў 1997 годзе. Ён нам без усякіх праблем даў юрыдычны адрас, у Мінюсце нам выправілі памылкі ў Статуце, падказалі, што зрабіць. Зарэгістравалі.

Так і працавалі. Легальна і паўлегальна. Тады зрабілі стаўку на грамадскую працу, а не на палітыку. Палітычная дзейнасць выціскае чалавека, нічога не дае.

### Юрый Казак

Усё пачыналася вельмі проста. Як я казаў раней, задумвацца пра незалежнасць, свабоду, справядлівасць, дэмакратыю ў Беларусі я пачаў яшчэ ў школьныя гады. Пасля ўсё гэта пачало турбаваць мацней. Асабліва, калі я вучыўся ў каледжы і прыйшоў у пратэстанцкую царкву «Новае пакаленне». І ўжо ў царкве ўсвядоміў у поўнай меры, што трэба рухацца наперад, здзяйсняць сваё пакліканне і мару. Перакананні, мары і мэты я са сваімі сябрамі пачаў распаўсюджваць праз інтэрнэт-прастору і знаёмых. Мы рабілі сваю працу і шукалі тых людзей ці арганізацыю, праз якіх маглі рэалізавацца і якія маюць такія ж мэты, мары і менталітэт. Спачатку не маглі знайсці.

І адзін чалавек параіў, каб мы займаліся далей сваёй справай, а Бог дасць момант і магчымасць – людзі прыйдуць самі. Так і здарылася. Прыехаў знаёмы чалавек і прапанаваў уступіць у Беларускую хрысціянскую дэмакратыю. Расказаў, што гэта такое, яе прынцыпы і мэты. Потым мы сустрэліся з Паўлам Севярынцам, які падрабязна расказаў пра БХД.

Ідэя заснавання БХД прыйшла як адкрыццё ад Бога, як альтэрнатыва, якая можа аб’яднаць хрысціян пад адзінай мэтай. Бо сілай, якая можа нас з’яднаць дзеля адной мэты і справы, з’яўляецца адзіны Бог Ісус Хрыстос, Яго словы і прынцыпы.

## Ганна Канюс

На другім курсе ўніверсітэта мяне запрасілі на сход студэнцкай экалагічнай ініцыятывы «Росток». Мяне цікавяць пытанні аховы прыроды, экалогіі і работы з дзецьмі ў гэтым кірунку. Потым мы спрабавалі зарэгістраваць арганізацыю, але беспаспяхова. І тады прыйшла неяк сама думка пра тое, што праблема рэгістрацыі і нашых юрыдычна аформленых дзеянняў – гэта праблема палітычная. І вырашаць яе трэба спачатку палітычным шляхам.

## Віталь Каратыш

Першы раз я сутыкнуўся з дзейнасцю НДА, калі мой брат паказаў малатыражную газету, якую выдавала Аршанская суполка ЗБС яшчэ ў 1999 годзе. Мяне зацікавіла студэнцкая арганізацыя, а паколькі ў маёй навучальнай установе суполкі не было, давялося стварыць новую. Яна стала адной з найбуйнейшых у Беларусі на той час. Нам удалося сабраць цікавых людзей разам. Што праўда, неўзабаве ЗБС «зачынілі», але гэта зусім іншая гісторыя.

## Юрый Карэтнікаў

Першая структура, куды я прыйшоў дзевяцікласнікам восенню 1995-га – моладзевая фракцыя БНФ. І амаль адразу – расчараванне. На той момант уся фракцыя найбуйнейшай партыі складалася з дзесяці–пятнаццаці чалавек і нагадвала сабой суполку студэнтаў-беларусафілаў.

Далей – гарачая Менская Вясна з усёй яе рамантыкай і антуражам, і я далучыўся да стварэння «Маладога Фронту», але праз час таксама пабачыў хібы, таму са сваёй групай трымаліся асобна, кантактуючы з «Белым легіёнам», «Краем», Партыяй свабоды.

Пазней далучыўся да Партыі свабоды, узгадваю тыя часы з асаблівым піетэтам, на той момант у арганізацыі было шмат добрай моладзі, сярод маіх паплечнікаў быў сапраўдны дух таварыскасці і пабрацімства. На той час мы вялі пераможнае змаганне за вуліцы сталіцы з расейскім фашызмам РНЕ. Далей

адбылася фактычная дыскрэдытацыя ідэй БПС яе кіраўніцтвам. Таму ў снежні 2000 года партыя змяніла кіраўніка і стала кіравацца Радай, куды былі абраныя Славамір Адамовіч, выдавец газеты «За Волю!» Яўген Сідорык, я, – усяго 6 чалавек. Пасля пэўнай паўзы 2002–2003-га вясной 2004-га паўстае новая грамадская структура «Правы альянс», якая эфектыўна працуе і сёння.

### Пятро Кузняцоў

Унутраную патрэбу, калі шчыра, я адчуваў яшчэ ў школе. Але гэта было неяк цяжка – вось узяць і распачаць. Ужо пасля ўніверсітэта я выпадкова пазнаёміўся ў Магілёве з прадстаўнікамі моладзевае арганізацыі «Грамадзянскі форум», якая на той час шукала прадстаўнікоў у Гомелі. Амаль без роздумаў пагадзіўся. Крыху пазней я адтуль сышоў, бо, на маю думку, зусім не ўсе цяперашнія рэспубліканскія арганізацыі здольныя развівацца дынамічна, і «Грамадзянскі форум» – даволі яскравы прыклад гэтага. Мы з сябрамі заснавалі абласную арганізацыю «Гомельскі дэмакратычны форум», якая літаральна за пару год працы здолела зрабіць шмат.

### Воля Кузьміч

Адчуванне прыйшло яшчэ ў школе, аднак свядомае разуменне з’явілася на першым курсе ў Менску. У пошуках аднадумцаў ва ўніверсітэце даведалася пра некалькі моладзевых грамадскіх арганізацый. Найбліжэйшай стала студэнцкая – «Задзіночанне беларускіх студэнтаў». Пачала са стварэння суполкі на факультэце, потым – удзел і арганізацыя акцый па абароне правоў студэнтаў, адукацыйныя і культурніцкія праекты, выпуск студэнцкай газеты. Пазней трапіла ў кіраўніцтва, а потым ачоліла аб’яднанне, дзейнасць у якім працягвала да сканчэння ўніверсітэта.

### Ігар Лапеха

Пачатак быў так даўно, у такіх адрозных умовах, што варты толькі аналізу гісторыкаў.

### Ян Лялевіч

Юнаком адчуў патрэбу знайсці сяброў, з якімі супольна змагу рэалізаваць свае задумы. Было неабходнае задзіночанне, дзе будуць аднадумцы, дзе змагу свабодна паслугоўвацца роднай мовай. Заўважыўшы ўсё гэта ва мне, адзін мой старэйшы таварыш запрасіў на паседжанне «Маладога Фронту», дзе неўзабаве я ўзначаліў краязнаўчы кірунак.

### Юлія Міцкевіч

Мая грамадская дзейнасць, як я ўжо казала раней, пачалася з вучобы ў гендарнай магістратуры. Я пачала пісаць пра палітычныя аспекты гомасексуальнасці ў Беларусі, і такім чынам апынулася ў ЛГБТ-руху і між іншым стала займацца гендарнымі даследаваннямі. А вось мая дзейнасць як сябра сацыял-дэмакратычнай арганізацыі звязана з рамантычнай гісторыяй.

Некалькі год таму я брала ўдзел ва адукацыйным семінары ў Германіі ад ЛГБТ-арганізацыі. Пазнаёмілася там з хлапчуком з Беларусі, які на семінары быў трэнерам. Не магу сказаць, што гэта было каханне, але дакладна сімпатыя з першага позірку. Увесь тыдзень падчас семінара мы з ім часта размаўлялі, дыскутавалі, і высветлілася, што ў нас шмат супольнага, нам было вельмі цікава адзін з адным. Памятаю, як ён сказаў: «Вось слухаю цябе і не магу зразумець, чаму ты з тваімі левымі поглядамі дагэтуль не сяброўка нашай арганізацыі?» Я адказала: «Не ведаю, але з задавальненнем далучуся». Пасля вяртання ў Беларусь я бадай адразу запоўніла заяву і стала сяброўкай МСД-МГ. А яшчэ праз год з невялікім, у лістападзе 2009 года, на чарговым з’ездзе, мяне абралі старшынёй маладых беларускіх сацыял-дэмакратаў.

## Васіль Палякоў

У 1996 годзе, напярэдадні сумнавядомага рэферэндуму, я ўступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю, якую знайшоў праз сяброў. Тады я палічыў непрымальным для сябе бяздзейнічаць, калі пастаўлена пад пагрозу далейшае развіццё краіны ў дэмакратычным кірунку. Пазней стаў сябром некалькіх грамадскіх арганізацый, якія былі блізкія да АГП. Гэта і гомельскія «Грамадзянскія ініцыятывы», і аддзяленне Фонду імя Льва Сапегі і г.д. Магчымасці дзейнасці ў грамадскіх аб'яднаннях на той час былі значна большыя, чым у палітычных партый, пагэтаму многія сябры партый пачалі займацца адначасова і грамадскай дзейнасцю.

## Аляксандр Самец

Вясной 1992 года я ўдзельнічаў у зборы подпісаў для правядзення рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета. Паступова наспявала жаданне дапамагчы БНФ у яго змаганні за незалежнасць.

З гэтай мэтай я наладзіў кантакт з дэпутатам ВС ад Наваградскага раёна Галінай Сямдзянавай, якая ўваходзіла ў апазіцыю БНФ. Арганізаваў яе сустрэчу з выбаршчыкамі Карэліцкага раёна. Праз яе дамовіўся аб сустрэчы з Пазняком. Потым зладзіў прыезд Пазняка ў Карэлічы разам з іншымі прадстаўнікамі БНФ.

Праз некаторы час была створаная раённая арганізацыя БНФ, яе кіраўніком выбралі мяне. Існавала некалькі суполак унутры арганізацыі – Карэліцкая, Мірская і Жухавіцкая. Існавала яна да 1999 года, пакуль не раздзяліўся БНФ.

За гэты час мы праводзілі агітацыю, удзельнічалі ў мітынгах, шэсцях. Распаўсюджвалі незалежную прэсу і інш.

## Юра Сідун

У 1996 годзе я вучыўся ў 8-м класе і на той момант ужо меў выразную пазіцыю адносна таго, што адбываецца ў краіне. Аднак не меў, на жаль, паразумення на той час з роднымі ў сваіх поглядах. У маленькім вайсковым гарадку

пад Баранавічамі знайсці сяброў, якія б падзялялі мае погляды, таксама было складана. У выніку большасць свайго вольнага часу я сядзеў у баранавіцкай бібліятэцы, чытаючы падшыўкі газет. Жаданне знайсці аднадумцаў толькі павялічвалася. У 1997 годзе праз сястру, якая вучылася ў Менску, я знайшоў кантакты Баранавіцкай суполкі БНФ. Моладзі, аднак, у той суполцы на той момант практычна не было. Я прыцягнуў туды некалькі сваіх сяброў і аднакласнікаў. З гэтага пачаўся баранавіцкі «Малады Фронт». Пазней мы стварылі для культурніцкіх ініцыятыў асобную арганізацыю «Паркан».

## Тарэса Собаль

Я ўжо распавядала, што і ў савецкі час актыўна займалася з дзецьмі пазакласнай працай. Гэта быў такі пачатак маёй дзейнасці, калі можна так сказаць.

А ў СПБ я амаль выпадкова трапіла. Арганізацыі пачалі па ўсёй краіне паўставаць на пачатку 90-х, але я нават не ведала, што ў Івянцы нехта нешта такое стварыў. Толькі ў 1992 годзе выпадкова даведалася ад жанчыны з суседняй вёскі. У той жа час вернікам вярнулі касцёлы – гэта было вялікай радасцю. Усе мы актыўна пачалі адраджаць рэлігійнае жыццё, і тое неяк перарасло ў стварэнне ансамбля польскай песні.

Затым прапанавалі стаць кіраўнічкай СПБ у Івянцы. Я, каб тады ведала, праз якую валакіту папяровую прыйдзецца прайсці, то не пагадзілася б. Але потым прыйшлося займацца гэтым, раз людзі мне даверылі.

Пра нас даведаліся ў Польшчы, пачалі туды запрашаць. Гэта ўсё было вялікай радасцю – праз столькі гадоў забаронаў мы маглі адкрыта адраджаць нашу родную культуру, рэлігію.

## Вольга Стужынская

Наш офіс быў створаны 4 гады таму. Некалькі гадоў, падчас маёй працы ў Парламенцкай асамблеі НАТА, а да гэтага ў Еўрапарламенце, назапашваліся неабходныя веды і кантакты, і, нарэшце, з’явіліся сілы стварыць уласную

арганізацыю, якая б займалася рэпрэзентацыяй інтарэсаў нашай краіны ў Бруселі на сталай аснове.

### Алена Талапіла

Я паступіла ва ўніверсітэт, але пачувалася самотнаю і разгубленаю. А таксама мела жаданне прыкласці да нечага свае сілы. І тады мае аднакласнікі (з якімі даследнікі так несправядліва абышліся ў першым пытанні) распавялі мне, што выпадкова даведаліся пра існаванне Задзіночання беларускіх студэнтаў. А патрэбу грамадскага ўдзелу я адчула яшчэ ў школе, шмат у чым дзякуючы настаўніцы гісторыі. Але ў Лідзе я на грамадскія арганізацыі не натрапляла, хоць, як я пасля даведалася ў Менску, іх у маім родным горадзе хапала.

### Паліна Уліна

Пасля першага курса было шмат вольнага часу, надта не хацелася ісці, напрыклад, у аўташколу. Але было вялікае жаданне рабіць штосьці карыснае. Сябры ездзілі ў дзіцячы дом і ў Бараўляны. Адзін раз з'ездзіла, неяк адчула, што я гатовая паехаць яшчэ раз. Потым яшчэ. Потым з дзвюма дзяўчынамі пачалі ладзіць свае паездкі, прыдумляць нейкія праекты, дзейнічаць. І так незаўважна праляцела два гады, за гэты час назапасіўся вопыт, засталося шмат ідэй. Прыйшло разуменне таго, што гэтая дзейнасць – маё і што спыняцца не варта.

Мне 22, я не магу сказаць, што я зрэалізавалася як асоба. Да поўнай рэалізацыі яшчэ расці і расці. Вядома, мая дзейнасць мае свой адбітак у марах, планах. Таму яна спрыяе іх здзяйсненню. Але над гэтым яшчэ працаваць і працаваць.

### Іван Шыла

З дзяцінства мне хацелася займацца чымсьці, што магло прыносіць карысць і яднаць мяне з людзьмі розных поглядаў. Наклаўся і сямейны адбітак – негатыўнае стаўленне да палітычнага рэжыму. У сукупнасці гэтыя два фактары прывялі мяне ў 2001 годзе ў «Зубр», а ў 2004 годзе – і ў «Малады Фронт».

## Ігар Шынкарык

Калі быў студэнтам, мы бралі ўдзел у першых Дзядах. Потым я ўжо сам браў удзел у Чарнобыльскім шляху.

Калі 23 жніўня 1991 года я ехаў з радзільні (акурат нарадзілася мая дачка) і ўбачыў увечары, як над Домам урада падымалі бел-чырвона-белы сцяг, падумалася: усё, майго ўдзелу больш не трэба.

Вярнуўся я да актыўнасці даволі нечакана. Гэта звязана з захапленнем спортам. Прыкладна ў 1996 годзе я сустрэў свайго сябра, з якім на той час не бачыўся гады тры. Ён запытаўся, дзе я гуляю ў футбол, і запрасіў гуляць з імі. Я прыйшоў. А там гулялі Анатоль Лябедзька, Яраслаў Раманчук, Віктар Ганчар і іншыя. І так праз футбол я ўвайшоў у палітыку. На той час Лукашэнка ўжо разагнаў ВС. Пачалося сяброўства з гэтымі людзьмі, пачалося і супрацоўніцтва.

## Кастусь Шыталь

Патрэба ў грамадскай дзейнасці выспела ва мне адначасова з разуменнем таго, што за грамадства, у якім мы жывём, адказны кожны з нас. І кожны павінен рабіць, паводле сваёй магчымасці, свой унёсак дзеля агульнай карысці.

І першую такую справу я зрабіў, калі яшчэ вучыўся ў восьмым класе. У школе і ў шматкватэрных дамах нашага мястэчка кепска працавала ацяпленне. Узімку ў класах было 10–12 градусаў цяпла, аднак усе – як настаўнікі, так і бацькі вучняў – маўчалі, баючыся наклікаць на сябе гнеў чыноўнікаў. Тады я сабраў каля сарака подпісаў вучняў і адправіў зварот у адміністрацыю Лукашэнкі.

Падчас навучання ў старэйшых класах я з сумам назіраў за тым, што моладзь не мае павагі да роднай мовы і культуры, адыходзіць ад хрысціянскай веры, апускаецца на нізкі ўзровень маральнасці. Тады я і яшчэ некалькі аднадумцаў паспрабавалі стварыць нейкую альтэрнатыву для тых нашых аднагодкаў, хто не страціў яшчэ здольнасці да крытычнага мыслення.

Мы выдавалі сваю газету «Прамень», множылі дыскі з фільмамі і музыкай, спрабавалі ладзіць рознага кшталту сустрэчы. Наша дзейнасць не кранала палітычнага поля, мела хутчэй культурна-асветніцкі характар. Тым не менш,

амаль адразу мы апынуліся ў полі ўвагі райвыканкамаўскіх ідэолагаў, мясцовых гэбістаў і местачковых бабулек-пляткарак. Хоць не было на нас вялікага ціску, аднак моладзь стала пакрысе ад нас адыходзіць, а старэйшае пакаленне ставілася насцярожана.

У выніку наша моладзевая ініцыятыва не пратрымалася і года. Крыху даўжэй – два гады – працягваў я выдаваць газету. Потым заангажаваўся ў дзейнасць Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, у шэрагах якой знаходжуся дагэтуль. Часам бяру ўдзел у асобных кампаніях «Маладога Фронту».

### Генадзь Шэпелеў

Да беларускасці павінен быць штуршок. Для мяне такім штуршком былі першыя выбары. Тады прасілі дапамагчы падчас выбараў, і я прыйшоў у БНФ. А потым пасля ганебнага рэферэндуму я перайшоў цалкам на беларускую мову.

### Аляксандра Якубоўская

Я проста адчувала неабходнасць у зменах, не магла заставацца ў баку, хацелася дзейнічаць, супрацьстаяць несправядлівасці, якая на кожным кроку.

Я пачынала з арганізацыі «Еўрапейская Беларусь», якая называлася тады яшчэ інакшай, адразу, як паступіла вучыцца ў Менск. Мяне пазнаёміў з гэтай суполкай мой сябар. Потым былі розныя рухі, кампаніі... Пачала ўдзельнічаць, дапамагаць у арганізацыйных момантах. Пра Студэнцкую раду даведалася, калі ўдзельнічала ў іх праекце «Клуб маладога праваабаронцы».

### Уладзімір Яроменак

Пасля Плошчы-2006 я пачаў больш цікавіцца нацыянальным рухам і дзейнасцю няўрадавых арганізацый. Пра ўсё, што адбывалася ў краіне ў гэты час, я даведваўся праз інтэрнэт. Яшчэ падчас вучобы ў школе я пачынаў расклейваць налепкі, распаўсюджваць незалежныя газеты і перыядычныя выданні. Калі

я прыехаў у Менск (гэта было ўвосень 2008 года), я далучыўся да дзейнасці «Маладога Фронту».

### Галіна Яшчанка

Пачалося ўсё з Народнага ўніверсітэта, лекцыі якога праходзілі ў маім родным горадзе, і якія я, адзінаццацікласніца, пачала наведваць. Цудоўныя выкладчыкі – гісторык Павел Лойка, палітолаг Валер Карбалевіч, эканаміст Уладзімір Тарасаў. Не зацікавіцца грамадскім жыццём краіны было немагчыма. З'явілася моцнае жаданне зрабіць нешта для краіны, як бы пафасна гэта ні гучала, галава думала такімі катэгорыямі, як справядлівасць, дэмакратыя, воля, любоў да радзімы. Ну а на попыт цікавая прапанова знайшлася хутка, у гэты час моладзевыя арганізацыі актыўна замацоўваліся ў рэгіёнах. Калі я паступіла ў БДУ, далучылася да дзейнасці галоўнай сядзібы арганізацыі ў Менску.

## 13. Ці паспрыяла Ваша дзейнасць

- **Вашай рэалізацыі як асобы,**
- **дасягненню жыццёвых планаў,**
- **здзяйсненню імараў?**

### Настасся Александровіч

Так, адкрыла ў сабе здольнасці да журналістыкі. Дасягненню жыццёвых планаў? Так. Здзяйсненню мараў? Маленькіх – так, да вялікай мары, спадзяюся, таксама дойдзе.

### Сяргей Андросенка

Безумоўна. Я здолеў арганізаваць шэраг акцый і правесці шэраг мерапрыемстваў, здолеў пранесці праз іх любоў да беларускасці і павагу да іншасці. Мяркую, што ўсё, што было здзейснена, стала своеасаблівым унёскам у дасягненне жыццёвых планаў – карысныя знаёмствы, набыты вопыт і вядомасць як праваабаронцы ЛГБТ-супольнасці.

Цяпер я паступаю ва ўніверсітэт, і менавіта дзейнасць стала прычынай абранай вучэбнай праграмы. Я не разглядаў ніколі вышэйшай адукацыі як мэты, але цяпер разглядаю як сродак для лепшай грамадскай рэалізацыі. Лічыў, што паступаю ва ўніверсітэт выключна праз грамадскую дзейнасць: па дадатковыя веды і дзеля дадатковай аўтарытэтнасці Мінскага гей-прайду і яго лідара.

### Сяргей Антусевіч

Чалавеку заўсёды чагосьці бракуе… Шмат у чым я задаволены. Каб не грамадская дзейнасць, то шмат чаго б не зрабіў.

### Ігар Банцар

Досвед гадоў актыўнага ўдзелу ў грамадскай дзейнасці дазволіў мне развівацца і самаўдасканальвацца. Я даведаўся пра рэчы, пра якія раней не меў ніякага ўяўлення. Нарэшце, давялося бліжэй пазнаёміцца з судовай сістэмай і сістэмай выканання пакаранняў у нашай краіне. На дадзены момант я не магу сказаць, што я рэалізаваў свае жыццёвыя планы, бо яны ў мяне не вельмі акрэсленыя. Тое самае тычыцца і мараў. Скажу толькі, што галоўнай марай для мяне застаецца незалежная Беларусь, а яна дасюль нерэалізаваная. Таму я не магу казаць пра нейкае задавальненне.

### Павал Батуеў

Так, натуральна. Адказы на ранейшыя пытанні сведчаць аб гэтым. Я стаў такім, які я ёсць, у тым ліку дзякуючы сваім зацікаўленням, актыўнасці. Мая асоба склалася дзякуючы дзейнасці.

А наконт мараў пакуль рана гаварыць. Жыццё ўносіць свае карэктывы. Штосьці ўдалося, штосьці – пакуль яшчэ не.

### Яраслаў Берніковіч

Я думаю, што і спрыяла, і спрыяе. Але да нейкіх фінальных дасягненняў і канчатковых здзяйсненняў усіх мараў яшчэ далёка. Урэшце, любая дзейнасць – гэта толькі шлях, але не вынік.

### Аляксей Валабуеў

На рэалізацыю як асобы паўплывала адназначна. Я сябе такі адчуў сапраўднай асобай! Што да жыццёвых планаў, дык, на жаль ці, можа, на шчасце, на іх гэта асабліва не адбілася. Хоць у пэўных момантах маю перавагі перад грамадска-пасіўнымі суграмадзянамі.

### Вераніка Велігор

Мая цяперашняя дзейнасць – гэта досвед, гэта іспыт на прадмет «дарослае жыццё». Трэба стрымліваць слёзы, калі можна трываць, трэба маўчаць, калі можна маўчаць, трэба крычаць, калі можна крычаць, а галоўнае, трэба навучыцца распазнаваць моманты, калі гэта ці іншае можна рабіць.

Не мне меркаваць, як я рэалізуюся як асоба. Я імкнуся да мэты, і гэта і ёсць мая рэалізацыя…

### Алесь Гелагаеў

Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Бо я проста не ўяўляю сябе цяпер без нацыяналістычнай дзейнасці і без удзелу ў жыцці Беларускага Касцёла.

### Аляксей Дзермант

Ацэньваю сваю дзейнасць пазітыўна, бо маю магчымасць развівацца як асоба. У самых розных сэнсах. Я бачу развіццё іншых, і гэта стымулюе развівацца самому далей. Гэты рух я ацэньваю як пазітыўны фактар развіцця. І ўласнага, і наваколля.

### Юрый Казак

Як асоба я яшчэ сябе не рэалізаваў у поўнай меры. Гэта толькі пачатак – я стану асобай у поўнай меры, калі аддамся справе цалкам. Часткова, праз сваю

дзейнасць, я дасягнуў здзяйснення жыццёвых планаў, але гэта я лічу драбязой у параўнанні з тым, чаго трэба дасягнуць. Мае жыццёвыя планы цесна завязаныя на маёй мары. Мара – гэта тое вялікае, чаго, я лічу, буду дасягаць усё сваё жыццё. І здзяйсненне жыццёвых планаў, я веру, прывядзе мяне да маёй мары.

### Ганна Канюс

Калі я была маленькай і мяне пыталіся, кім я хачу быць, я адказвала, што настаўнікам. Настаўнікам я стала і нават змагла атрымаць вопыт працы. Пасля звальнення са школы мне нічога не заставалася, як працягнуць навучанне – магістратуру ЕГУ па праграме «Дэмакратыя і грамадзянская супольнасць». А пра такую колькасць падарожжаў, сустрэч можа марыць любы географ. Акрамя гэтага, я інтраверт, а грамадская праца дае мне навыкі экстраверта.

Я не чакала, што ўсё маё жыццё ператворыцца ў суцэльную грамадскую барацьбу.

Вядома, я хачу, каб у мяне была сям'я, хачу проста жыць, а не кожны дзень змагацца за права жыць як хачу.

Хачу жыць і працаваць у свабоднай краіне – пакуль гэта мара.

### Віталь Каратыш

Рэалізацыі як асобы – так, дасягненню жыццёвых планаў і здзяйсненню мараў – пакуль не.

### Юрый Карэтнікаў

У пэўным сэнсе – так, але, спадзяюся, мой патэнцыял яшчэ да канца не скарыстаны. А дасягненню жыццёвых планаў і здзяйсненню мараў – не.

### Пятро Кузняцоў

Мяркую – так. Грамадская дзейнасць, паміж іншым, – унікальны занятак яшчэ й тым, што дазваляе рабіць тое, да чаго ляжыць душа. Я працую ў сферах правоў чалавека, моладзевае адукацыі, выдавецтва, журналістыкі, культурніцкіх праграм шмат чым іншым, усё гэта мне падабаецца і дапамагае развівацца й самарэалізоўвацца.

Жыццё яшчэ, лічу, наперадзе. Пабачым.

Я мару з юнацтва – ведаеце аб чым? Каб па выходных ці па вечарах на цэнтральнай вуліцы майго горада асноўным гукавым фонам быў не шум ад машын, не крыкі п'яных, а смех! Як у малых гарадках Еўропы: усе сядзяць на вуліцы, адпачываюць і… смяюцца. А машын няма. Вільня – вось яна такая. Каб праблемы, алкагалізм, дэпрэсіі, злосць, клопат аб кавалку хлеба не былі галоўным. А ў нас гэта галоўнае. Таму адпачынак беларуса – напіцца гарэлкі, а ад яе, у сваю чаргу, ён часта звярэе. Гэта не шчаслівае грамадства.

Я мару, каб мая краіна была шчасліваю і каб тут паўсюль гучаў толькі смех. Дзеля дасягнення гэтай мары яшчэ працаваць і працаваць.

### Воля Кузьміч

Грамадская дзейнасць дазваляе паспрабаваць сябе ў розных справах ды розных ролях, што дае вялікія магчымасці да самарэалізацыі, раскрыцця талентаў ці нават знаходжання сваёй прафесіі. Мае грамадскія справы далі і даюць мне разуменне маіх магчымасцяў, ведаў, упэўненасць у тым, ці магу я займацца тым ці іншым зараз ці ў будучыні, робяць выклік маім творчым і арганізацыйным здольнасцям, дапамагаюць у пошуку калегаў.

### Ігар Лапеха

Станоўчы адказ на ўсе тры пункты.

### Ян Лялевіч

Так, я паспрабаваў выявіць свой патэнцыял праз удзел у разнароднай грамадскай дзейнасці, як у выглядзе выканаўцы даручэнняў, так і будучы адказным за рэалізацыю тых ці іншых лідарскіх функцый.

…Дасягненню жыццёвых планаў, здзяйсненню мараў? Ой, думаю, яшчэ шмат чаго наперадзе.

### Юлія Міцкевіч

Паспрыяла па ўсіх трох пунктах.

### Васіль Палякоў

У пэўнай ступені так, але абмежаваныя магчымасці ва ўмовах існуючай палітычнай сістэмы не дазваляюць зрабіць гэта ў поўным аб'ёме.

…Дасягненню жыццёвых планаў?

Пакуль не. Я ў тых гадах, калі многае пераглядаецца, пераасэнсоўваецца, але ў той жа час складаюцца планы на будучыню.

…Здзяйсненню мараў?

Мары на тое і мары, каб быць у сваёй большасці недасягальнымі. Казаць пра здзяйсненне сваіх мараў не магу, хоць пэўныя чаканні спраўдзіліся.

### Аляксандр Самец

Хутчэй не, чым так.

### Тарэса Собаль

Не ведаю пра мары, планы. Цяпер усе яны звязаныя якраз з маёй грамадскай дзейнасцю. Таму стараюся іх рэалізоўваць, нягледзячы на ўзрост.

Але скажу, што даведалася аб сабе адну важную рэч. Тое, што я здольная нашмат. Раней думала, што я слабы чалавек, але цяпер думаю іначай. Асабліва моцна гэта адчуваецца, калі пачынаюць прыцiскаць, душыць. Тады такая сіла ўзнікае, што не перадаць словамі. Як быццам сам Бог мне яе пасылае.

### Вольга Стужынская

Мая дзейнасць дакладна дала магчымасць для самарэалізацыі і развіцця і як асобы, і як прафесіянала. Той досвед, што я атрымала ад працы са структурамі ЕС, міжнароднымі арганізацыямі, грамадзянскай супольнасцю і медыямі, быў вельмі карысным як для мяне асабіста, так і для Беларусі, для якой я працую. Што тычыцца дасягнення жыццёвых планаў, то шмат што яшчэ наперадзе! Планы на будучыню заўсёды будуць: чым іх больш і чым болей яны амбіцыйныя, тым вышэйшы шанц для іх рэалізацыі, але толькі з умовай сапраўднага жадання іх здзейсніць, шмат працаваць.

Наконт здзяйснення мараў – дык я занадта рэальна бачу навакольны свет і прафесійную дзейнасць, каб марыць на працы.

### Алена Талапіла

Так, вядома. Бо, як я ўжо адзначала вышэй, я лічу палітыку (а яе прыватным выпадкам можна назваць грамадскі актывізм) грунтоўным складнікам чалавечага жыцця. Увогуле, супраціў, заяўлены ў назве праекта, – даволі моцнае слова, і я не зводзіла б усю грамадскую актыўнасць да супраціву.

### Іван Шыла

У пэўнай ступені грамадская дзейнасць задаволіла мае патрэбы ў рэалізацыі ўласных задум, многае дала як асобе. Адносна жыццёвых планаў – мне 19 і, нягледзячы на многія негатыўныя наступствы, да якіх прывяло сяброўства ў «Маладым Фронце», я лічу, што наперадзе вялікая прастора і для рэалізацыі

асабістых планаў, і грамадскіх. Што не дазваляе мне аб чымсьці шкадаваць і надае аптымізму.

### Ігар Шынкарык

У нечым паспрыяла, а ў нечым – не. Я думаю, што стаў іншым чалавекам. Не ведаю, як думаюць сябры і знаёмыя.

А не паспрыяла праз тое, што я мог бы дамагчыся большага, займаючыся бізнесам. У мяне была крама, якую прыйшлося зачыніць пасля выбараў 2003 года. Думаю, што і цяпер хацеў бы займацца такімі рэчамі. Я мог бы лепш забяспечваць сям'ю, больш зарабляць. Рэалізаваўся б у іншым плане.

### Кастусь Шыталь

Так, паспрыяла. Грамадская дзейнасць прынесла мне шмат добрых знаёмстваў, шмат чаму навучыла. Мне не будзе сорамна ўспамінаць сваю маладосць, бо яна прысвечана найлепшым ідэалам.

### Генадзь Шэпелеў

Так, натуральна. Менавіта таму мне і цікава займацца нечым, акрамя працы. Калі нешта робіш такое, што блізка тваёй душы, твайму сэрцу – гэта натхняе.

### Аляксандра Якубоўская

Маёй рэалізацыі як асобы, вядома, паспрыяла. Я пачала больш разумець некаторыя рэчы, развівацца. Але, з іншага боку, стала мала часу для рэалізацыі сваіх творчых ідэй, недатычных грамадскага сектара.

### Уладзімір Яроменак

«Малады Фронт» – моцная і ўплывовая арганізацыя ў сферы маладзёвай палітыкі і грамадскай дзейнасці. Таму я рэалізаваўся як асоба дзякуючы «Маладому Фронту». Што датычыць жыццёвых планаў і мараў, дык каб іх рэалізаваць, я маю яшчэ час. У мяне ўсё наперадзе.

### Галіна Яшчанка

Рэалізацыі як асобы – адназначна. Калі ты робіш справу, а не тэарэтычна разважаеш, што ды як, гэта сапраўдны вопыт, які развівае. Асабліва калі тое, што ты робіш, ідзе ад душы, ад поклічу сэрца. Гэта ключ – рабіць ад сэрца, тады ты шчаслівы, тады ты расцеш, развіваешся, раскрываеш сябе. Грамадская дзейнасць, якой я займалася ў студэнцкія гады, развіла мяне больш і навучыла мяне большаму, чым вучоба ва ўніверсітэце.

Дасягненню маіх жыццёвых планаў – паспрыяла. У сэнсе, грамадская дзейнасць адкрыла для мяне магчымасці, якіх я б не мела ў іншым выпадку. Іншая рэч, што ў 18 год у чалавека звычайна адны жыццёвыя планы, а ў 28, хутчэй за ўсё, – іншыя. Людзі растуць, жывуць, тое, што раней было ў планах, здзяйсняецца, альбо жыццё ўносіць свае карэктывы, з'яўляюцца іншыя планы. Маладосць даецца на тое, каб шукаць сябе, а планы – добры інструмент пошуку, але ніяк не карта навігацыі.

Здзяйсненню маіх мараў грамадская дзейнасць паспрыяла толькі ўскосна. Мары – гэта зоркі ў небе. Яны часта адарваныя ад рэальнасці. Звычайна людзі не ведаюць, калі і як яны дасягнуць сваіх мараў. Бо калі ты ведаеш, гэта ўжо мэта, а не мара. Грамадская дзейнасць паспрыяла майму развіццю, чым, спадзяюся, наблізіла мяне да маіх мараў.

# 14. Што для Вас значыць тэрмін «грамадзянская супольнасць»?

### Настасся Александровіч

Пачуццё салідарнасці і гатоўнасць выказаць салідарнасць.

### Сяргей Андросенка

Грамадзянская супольнасць – гэта ядро беларускага грамадства. Яна не такая вялікая і шматлікая, але такая ж разнастайная, як і беларускае грамадства. Гэта своеасаблівы зрэз беларусаў. Нягледзячы на сваю агульную млявасць і абыякавасць, кожны беларус адносіцца ці да нейкай меншасці ці да нейкай супольнасці. Грамадзянская супольнасць – гэта ёсць сукупнасць недзяржаўных арганізацый і самаарганізаваных груп, камунікацыя паміж featured розным супольнасцямі і абарона інтарэсаў кожнай супольнасці, у тым ліку абарона ад агалцелага дзяржаўнага кантролю.

### Сяргей Антусевіч

Гэта самаарганізацыя грамадзян пры неўмяшальніцтве дзяржавы.

### Ігар Банцар

Супольнасць абсалютна свабодных людзей, з мінімальным уплывам дзяржавы на сферу грамадскага жыцця.

### Павал Батуеў

Грамадзянская супольнасць для мяне – гэта стаўленне грамадзян краіны да жыцця, актыўны ўдзел у грамадскіх і палітычных працэсах, жаданне змяніць краіну ў лепшы бок і актыўная дзейнасць на карысць гэтага.

У Беларусі грамадзянская супольнасць неразвітая. Колькасць людзей, якія рэальна жадаюць уключыцца ў жыццё краіны, каб на нешта ўплываць, мізэрная.

Можна адзначыць, што ў Менску з актыўнасцю грамадства трошкі лепш, чым у рэгіёнах, але ўсё адно недастаткова.

Я думаю, што Беларусі патрэбная грамадзянская супольнасць. Думаю, што ў нас яна абавязкова з часам паўстане. Іншая справа, якой яна будзе. Хацелася б, каб гэта была супольнасць заходняга ўзору. Безумоўна, са сваёй спецыфікай, сваімі падыходамі, без гэтага ніяк. Мы ўсё ж беларусы, асобная нацыя, і будзем ствараць краіну і супольнасць для сябе.

### Яраслаў Берніковіч

Грамадзянская супольнасць – гэта сфера жыццядзейнасці людзей, свабодная ад непасрэднага ўплыву дзяржавы і службовых асоб. Але разам з тым сфера арганізаваная, арыентаваная на ўзаемадзеянне з дзяржавай. Гэта асяродак, дзе людзі маюць магчымасць рэалізаваць свае прыватныя інтарэсы, якія не супярэчаць інтарэсам дзяржавы, а толькі ўзмацняюць яе прыватнымі ініцыятывамі.

### Аляксей Валабуеў

Грамадзянская супольнасць – гэта пасярэднік між Чалавекам і Дзяржавай.

### Алесь Гелагаеў

Цяпер гэтым тэрмінам моцна злоўжываюць ва ўсім свеце, асабліва калі прыпісваюць гэтай супольнасці толькі адно нейкае меркаванне. У чыстым выглядзе гэта проста людзі, якія адчуваюць сябе грамадзянамі краіны не толькі пры атрыманні пашпарта ці замежнай візы. Гэта людзі, якія гатовыя самастойна, незалежна ад дзяржавы, бараніць свае правы, правы нейкай групы людзей ці ўсёй нацыі.

### Аляксей Дзермант

На жаль, тут я магу быць не зусім аб'ектыўным. Я сутыкаўся толькі з пэўнымі сегментамі грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Прынамсі, я бачу, што яна існуе. Аднак ёсць і розныя праблемы. Я бачу, што розныя сегменты грамадзянскай супольнасці разрозненыя міжсобку. Дзейнасць многіх ініцыятыўных людзей упіраецца ў перашкоды. У гэтым сэнсе я выступаю за развіццё грамадзянскай супольнасці.

### Эдвард Дмухоўскі

Грамадзянская супольнасць у Беларусі фармуецца ўжо досыць даўно: з канца 80-х гадоў. Тады розныя грамадскія рухі стварылі адзіны Беларускі Народны Фронт. На сёння грамадзянская супольнасць існуе. Проста мы жывём у досыць складаных умовах. Ідзе папросту вайна. Вайна, якую вядуць улады.

Але калі ўзяць нашу гісторыю і наш беларускі характар, то стане бачна, што ў нас актыўныя людзі. Кааператывы, прадпрымальніцтва, грамадская дзейнасць – усё гэта ў нас было. А патрабаваць, каб гэтым займаўся кожны, не варта. Гэта наіўна.

Маё ўнутранае адчуванне, што мы пойдзем далёка наперад.

У Германіі, Заходняй Еўропе традыцыі грамадскіх рухаў існуюць здаўна. Там гэтыя традыцыі не перарываліся. Мы мусім адрадзіць іх наноў.

### Юрый Казак

Гэта людзі, аб'яднаныя адной мэтай, марай і перакананнямі. Людзі, якія маюць адзіны менталітэт і праводзяць адну справу на карысць народа і краіны. Людзі, якія адрозніваюцца адзін ад другога характарам і асабістымі якасцямі, што ў той жа момант аб'ядноўвае і дапаўняе іх. Калі ёсць усе гэтыя якасці – гэта адзіны здаровы арганізм, які нельга разбурыць.

### Ганна Канюс

Для мяне грамадзянская супольнасць – гэта жаданне і магчымасць праяўлення грамадзянскай ініцыятывы. І гэта залежыць як ад жадання, патрэб людзей, так і ад магчымасцяў, гарантый, якія дае дзяржава. Гэта нармальны стан людзей у дэмакратычным грамадстве, калі насельніцтва можа само вырашаць многія праблемы.

### Віталь Каратыш

Для мяне «грамадзянская супольнасць» шырэйшая, чым проста недзяржаўныя арганізацыі. Гэта супольнасць людзей, якія гатовыя працаваць разам на карысць Беларусі, дзеля дасягнення свабоды і справядлівасці, займацца дабрачыннасцю.

### Юрый Карэтнікаў

Гэта шырокая сетка грамадскіх арганізацый, ініцыятыў і проста актыўных грамадзян, якія сваёй актыўнасцю ўплываюць на вырашэнне без дапамогі дзяржавы тых ці іншых грамадскіх праблем, а таксама кантралююць дзейнасць улады на ўсіх узроўнях. Гэта форма паралельнага, неафіцыйнага грамадскага аб'яднання і дзеяння.

### Пятро Кузняцоў

Грамадзянская супольнасць для мяне – гэта нацыя. Грамадзянская нацыя, а не ў этнаграфічным сэнсе. Нацыя, якая разумее сваё месца й ролю, нацыя, якая вырашае адзіныя задачы і будуе адзіны дом – сваю краіну.

### Воля Кузьміч

Грамадства, здольнае да самаарганізацыі, адказнасці, прыняцця рашэнняў і ўплыву на развіццё сітуацыі ў краіне.

### Ігар Лапеха

Гэта гарантыя ад рэвалюцый і крызісаў, спосаб пошуку аптымальнага, нестандартнага, прымальнага рашэння.

### Ян Лялевіч

Супольнасць людзей, паяднаных адным духам для таго, каб мець смеласць узяць адказнасць за вырашэнне праблем, якія не ў стане ці не жадаюць змяніць фінансавыя і дзяржаўныя структуры.

### Юлія Міцкевіч

Для мяне грамадзянская супольнасць – гэта дагавор паміж грамадствам і дзяржавай аб тым, што апошняя з’яўляецца для першага гарантам захавання дэмакратычных працэдур, вяршэнства закона, правоў і свабод кожнага чалавека і грамадзяніна. Кантроль за гэтым павінны ажыццяўляць недзяржаўныя інстытуты: незалежная (абавязкова!) прэса, свабодныя прафсаюзы, палітычныя партыі, грамадскія няўрадавыя арганізацыі.

У такім выпадку ніколі не адбудзецца таго, што цяпер ёсць у Беларусі, калі прэзідэнт краіны паводзіць сябе як алігарх і кажа людзям, што ён штосьці там

выдзеліць са свайго фонду, каб павялічыць іхні заробак. Ва ўсіх дзяржавах з існуючай грамадзянскай супольнасцю прэзідэнт – усяго толькі наняты на пэўны перыяд на працу чыноўнік, якому мы з вамі дэлегавалі пэўны аб'ём уладных паўнамоцтваў, і ён павінен даваць справаздачу народу, які яго на гэтую пасаду наняў, аб тым, як ён выконвае свае абавязкі на гэтай пасадзе, ці не крадзе ён, напрыклад, грошы з бюджэту для асабістых мэтаў.

### Васіль Палякоў

Гэта самаарганізаваная і аўтаномная частка грамадства, якая дакучае ўладзе і не дазваляе ёй пераўтварыцца ў монстра, стрымлівае яе.

### Аляксандр Самец

Калі б у Беларусі была грамадзянская супольнасць, то Беларусь была б моцнай, квітнеючай дзяржавай. А ўсялякія лукашэнкі-панамарэнкі, кнорыны ды іншыя мяснікяны, якія не хацелі і не хочуць гэтай супольнасці, сядзелі б як мышы пад венікам.

Грамадзянскай супольнасці няма таму, што пакуль няма ў Беларусі сілы, здольнай згуртаваць супольнасць.

З дзейнасцю і ў Беларусі цяжка разабрацца, куды ўжо за мяжой. Мне б тут справу зрабіць. За мяжой я і не быў, не вывучаў праблем тамтэйшага люду.

### Юра Сідун

Супольнасць грамадзян, якія адчуваюць адказнасць за сваю краіну, за ўсё тое, што адбываецца.

### Тарэса Собаль

Пра гэта я не шмат ведаю. У наш час вучылі іншым рэчам, мы па-іншаму жылі. Скажу вам толькі, што некалі я трапіла на памежжа Чэхіі, Германіі і Польшчы, у

Судэтах. І там на мяжы пабачыла вялікі манумент, што складаўся з трох шпіляў. Кожны з тых шпіляў сімвалізаваў адзін з народаў, што насялялі наваколле – немцаў, чэхаў і палякаў. Мне тады падумалася, а чаму б не паставіць нешта падобнае і ў нас? У Івянцы? Тут таксама розныя складаная лёсы людзей і народаў перасекліся. Палякаў, беларусаў, яўрэяў. Мне хацелася б, каб мы тут усе жылі і шанавалі нашы культуры. А пры гэтым не ганьбілі чужых.

Зараз надыходзяць яшчэ больш складаныя часы для Беларусі. Вельмі хочацца, каб мы змаглі нешта змяніць, змаглі выстаяць і не паддацца. Гэта вельмі важна.

### Вольга Стужынская

Ініцыятыўная частка грамадства, якой НЕабыякава і якая шукае магчымасцяў для паляпшэння ўзроўню жыцця і дабрабыту ўсяго грамадства, лепшай долі для краіны.

### Алена Талапіла

Ёсць шмат падыходаў да гэтага тэрміна, і я цаню працы шэрагу тэарэтыкаў. Калі акрэсліць каротка, то для мяне грамадзянская супольнасць – гэта ўдзел у кіраванні краінаю.

### Паліна Уліна

Я цалкам згодная з агульнапрынятым азначэннем. Грамадзянская супольнасць – гэта сфера жыццядзейнасці людзей, свабодная ад непасрэднага ўплыву з боку дзяржавы і яе службовых асоб, але разам з тым арганізаваная, унутрана ўпарадкаваная і якая ўзаемадзейнічае з дзяржавай, сфера, дзе людзі рэалізуюць свае прыватныя інтарэсы, аб’ядноўваюцца ў групы і арганізацыі.

### Іван Шыла

Гэта сукупнасць ініцыятыў, скіраваных на вырашэнне розных праблем. Гэта і пэўныя супольныя каштоўнасці, погляд на пэўныя рэчы і, у той жа момант, пэўная грамадская і палітычная традыцыя, прынцыпы павагі да розных меркаванняў.

### Ігар Шынкарык

Я думаю, што няма чаго выдумляць ровар. Усё ўжо прыдумана, захады для існавання грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ёсць.

Я ведаю, як гэта працуе на Захадзе. На Усходзе такіх прыкладаў няма. Таму трэба арыентавацца на лепшыя ўзоры, на заканадаўчыя акты і ўсталяваныя ў еўрапейскіх краінах нормы.

### Кастусь Шыталь

Супольнасць людзей, якія жывуць у адной краіне і ўсведамляюць сваю адказнасць за яе. Якія разумеюць, што не трэба спадзявацца на «мудрага» кіраўніка, а самім вырашаць свае праблемы.

### Генадзь Шэпелеў

Для мяне гэта, перш за ўсё, адказнасць у адносінах паміж людзьмі. Калі яны могуць усведамляць, для чаго жывуць, чым займаюцца і навошта. Калі могуць сказаць, што робяць нешта не толькі для сябе.

У Беларусі гэта будзе. З часам абавязкова. Проста за часы СССР мы моцна прызвычаіліся да таго, што ўсё за нас вырашала дзяржава. Цяпер ужо ўсе разумеюць, што наш шлях – у Еўропе, разам з суседзямі. Таму, думаю, што мы набліжаемся. Патрэбен толькі час. Вялікіх адрозненняў паміж Беларуссю і іншымі еўрапейскімі краінамі няма.

### Аляксандра Якубоўская

Я гэта разумею як суполку ініцыятыўных людзей, а таксама і арганізацый, якія аб'ядноўваюцца для прадстаўлення сваіх інтарэсаў, абмеркавання і рашэння праблем у грамадстве.

### Уладзімір Яроменак

На маю думку, гэта еднасць усяго грамадства, гэта еднасць народа для дасягнення незалежнасці. Гэта людзі, якія фармуюць нешта адзінае цэлае, якія яднаюцца пад адной ідэяй.

### Галіна Яшчанка

Для мяне грамадзянская супольнасць – гэта супольнасць людзей, якія не абыякавыя да жыцця сваёй краіны, і сваю неабыякавасць яны праяўляюць у дзейнасці, прычым ад шчырага сэрца, а не па ўказцы зверху ці за грошы. І неабыякавыя – не значыць незадаволеныя. Неабыякавыя – значыць зацікаўленыя пэўнай сферай жыцця краіны, неабавязкова палітыкай, хай бы нават і аховай птушак, галоўнае – каб гэта праяўлялася ў дзеяннях.

# 15. Ці бачыце Вы грамадзянскую супольнасць магчымай у Беларусі? Калі так, то чаму, калі не, то чаму?

### Настасся Александровіч

Баюся, што не. Прынамсі, не хутка. На жаль, беларусы як нацыя баяцца выказваць салідарнасць, пакуль іх не зачапіла праблема.

### Сяргей Андросенка

Усім відавочна, што ў Беларусі дзяржава прыкладае намаганні дзеля таго, каб грамадзянская супольнасць у Беларусі развівалася прымусова. Гэта, лічу, не ўдасца. Само вызначэнне грамадзянскай супольнасці паказвае адсутнасць дзяржаўнага ўплыву на яе развіццё.

Але калі на Захадзе, у Аўстраліі, нават у ПАР, дзяржава сумесна з грамадзянскай супольнасцю ствараюць развітыя прававыя адносіны, то ў нас дзяржава разглядае тутэйшую грамадзянскую супольнасць як перашкоду ў кантактах з цывілізаванымі краінамі, дзе грамадзянская супольнасць мае значны ўплыў.

Тое, што ў Беларусі ёсць грамадзянская супольнасць і яна актыўна развіваецца, даказвае нават той факт, што беларуская Асамблея недзяржаўных арганізацый аб'ядноўвае 264 (стан на 21.04.2009) арганізацыі ды ініцыятывы з усіх рэгіёнаў Беларусі па розных кірунках дзейнасці: праваабарончы, моладзевы, сацыяльны, экалагічны, адукацыйны, жаночы.

Праваабарончы праект «ГейБеларусь» таксама з'яўляецца сябром Асамблеі НДА і імкнецца таксама ўплываць на развіццё беларускага грамадства і грамадзянскай супольнасці, якая прадстаўляе найбольш актыўных прадстаўнікоў грамадства.

Калі мы імкнёмся на нешта ўплываць, відавочна, гэта магчыма і ў Беларусі.

### Сяргей Антусевіч

Чаму не, усё магчыма… Але яе фармаванне – надзвычай тонкі і складаны працэс і па часе, і па сродках.

### Яраслаў Берніковіч

Бачу. Так ці інакш, але працэс станаўлення грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ідзе. Хаця і стрымліваецца дзяржавай, бо яна ў нас баіцца страціць уплыў на нейкія групы ў грамадстве, якія маглі б без гэтага ўціску рэалізоўваць свае інтарэсы больш паспяхова.

### Ігар Банцар

Я перакананы, што, калі не цалкам, дык, прынамсі, часткова, некалі грамадская супольнасць будзе пабудаваная і ў Беларусі. Для мяне яна здаецца адзіным лагічным кірункам развіцця сучаснай цывілізацыі, а Беларусь, усё ж, ляжыць у цэнтры Еўропы, таму мы не можам быць збоку прагрэсіўных цывілізацыйных зменаў.

### Аляксей Валабуеў

Я яе бачу не толькі магчымай, але ж і наяўнай. Іншае пытанне, што яна пакуль досыць слабая. Але ж на тое ёсць гістарычныя прычыны. Тым не менш, грамадзянская супольнасць увесь гэты час паступова выбудоўваецца. Досыць пакутліва, але ж такія абставіны.

### Алесь Гелагаеў

Грамадзянская супольнасць у Беларусі магчымая, яна і існуе, няхай і кволая. Трэба яе пашыраць. Пад савецкай, сталінскай акупацыяй яна была немагчымая, бо фізічна вынішчалася. Яна існавала пры адносна мяккай польскай акупацыі ў 1920–1930-я гады. У параўнанні з тымі часамі цяпер яна ўвогуле мае амаль усе магчымасці для развіцця. Галоўная перашкода для яе – гэта палітычны рэжым, з аднаго боку. І, як гэта ні парадаксальна, нежаданне шматлікіх палітычных і грамадскіх актывістаў займацца працай на нізавым узроўні. І бараніць, і гуртаваць тых, хто жыве на адной з імі вуліцы, у адным раёне. Шмат хто жыве толькі шматгадовым чаканнем, «калі рэжым лясне». Ён, вядома, калісьці лясне, толькі без нізавых структур, моцнай і масавай незалежнай грамадзянскай супольнасці да ўлады прыйдзе проста новы папуліст.

### Аляксей Дзермант

У мяне няма асаблівага піетэту перад заходнімі ўзорамі. Спецыфіка кожнай краіны заключаецца ў тым, каб зразумець, для чаго патрэбная грамадзянская супольнасць. Штучна прыводзіць усіх пад адзін узор памылкова. Патрэба павінна зыходзіць ад самога грамадства. Хацелася б, каб грамадзянская супольнасць рэальна працавала на карысць самога грамадства.

### Юрый Казак

На цяперашні момант пры такой уладзе яна немагчымая. Любая грамадзянская супольнасць цесна звязана з палітыкай. У нашай краіне супольнасцю, звязанай з палітыкай, але якая не падтрымлівае ідэалогію пануючай улады, ёсць апазіцыя пануючай уладзе, а значыць – вораг. Нават калі рабіць усё згодна з беларускімі законамі, улады ствараюць перашкоды. А калі не могуць, то прыдумаюць новы закон ці дырэктыву прэзідэнта, каб абмежаваць дзейнасць.

### Ганна Канюс

Грамадзянская супольнасць у Беларусі ёсць, проста яна неразвітая. Менавіта таму грамадзянскія ініцыятывы часта носяць палітычны характар. У прынцыпе, грамадзянская супольнасць не можа займацца палітыкай, але ў пераломныя перыяды менавіта яна становіцца вагаром павароту палітычнай сітуацыі.

Пакуль у Беларусі застаюцца людзі, якія гатовыя ўзначаліць дэмакратычныя рухі (рэспубліканскія і, асабліва, лакальныя), ёсць шанцы і ў развіцці грамадзянскай супольнасці.

### Віталь Каратыш

На дадзеным этапе ў Беларусі адсутнічае грамадзянская супольнасць у поўным сэнсе гэтага слова, бо няма падставовых рэчаў – свабоды слова, справядлівай прававой сістэмы, ідзе несправядлівае і ненатуральнае змаганне між сектарамі. На долю трэцяга сектара амаль нічога не адводзіцца.

### Юрый Карэтнікаў

Яна ёсць, існуе, але ў своеасаблівай форме, у выглядзе нейкай вузкай праслойкі, часам сама ў сабе, і якая ў цэлым слаба ўплывае на грамадства і працэсы ў краіне. Прычыны тут розныя, як аб’ектыўныя, так і суб’ектыўныя.

### Пятро Кузняцоў

Бачу, але з цягам часу. Беларусы доўга жылі, не разумеючы, як у анекдоце: «Дзе я? Хто я?». Зараз, дарэчы, нягледзячы на ўсё ганебнае, даволі стабільна ідзе працэс адраджэння. Вось ужо пераважная большасць нашых людзей бачаць Беларусь незалежнай краінай і не мараць аб аднаўленні СССР. Гэта ўжо шмат, гэта ўжо нейкі народ тут з’явіўся. Наступныя крокі будуць да пабудовы нацыі – і грамадзянскае супольнасці.

### Воля Кузьміч

Цяжка ўявіць свабодную прагрэсіўную краіну без адказнага і ўплывовага грамадства. І ў Беларусі мусіць быць грамадзянская супольнасць. Для ейнага станаўлення мусяць быць адпаведныя прававыя ўмовы, належны ўзровень адукацыі і культуры.

### Ігар Лапеха

Грамадзянская супольнасць – гэта непазбежнасць для Беларусі. Фармат нашай краіны – аптымальная кантраляваная велічыня, цэнтр Еўропы, гістарычны досвед народа без імперскіх памкненняў – абавязкова прывядзе да яе, да супольнасці, нават калі эліты гэтага не хочуць.

Адзіная небяспека – гэта паглынанне імперыяй. Але тады Беларусі не будзе.

### Ян Лялевіч

Дзіўнае пытанне, падобнае да: ці магчымыя сем'і ў Беларусі. Людзі з'яўляюцца сацыяльнымі стварэннямі па-за палітычнымі ці этнічна-канфесійнымі межамі.

### Юлія Міцкевіч

Так, канечне, я бачу магчымым існаванне грамадзянскай супольнасці ў Беларусі хаця б таму, што ў пачатку 90-х – будзем казаць, ад моманту атрымання нашай краіны незалежнасці пасля распаду СССР і да 1996 года – такая супольнасць пачала зараджацца. Але вядомыя гістарычныя падзеі зрабілі яе ў адзіны момант немагчымай. Аднак аднавіць наяўнасць грамадзянскай супольнасці ў выпадку змены палітычнай сістэмы будзе магчыма. Можа, толькі не так хутка, як гэта падаецца на першы погляд.

## Васіль Палякоў

У Беларусі грамадзянская супольнасць лакалізаваная. Яна ёсць, але ў абмежаваным варыянце. Сюды ўваходзяць і апазіцыйныя палітычныя партыі, і няўрадавыя арганізацыі, і незалежныя СМІ, і царква (але не праваслаўная). Улады робяць усё магчымае, каб не даць гэтай супольнасці пашырыць свой уплыў на грамадства, абмяжоўваюць яе дзейнасць і пераследуюць яе прадстаўнікоў. Аднак вынішчыць канчаткова ў Беларусі грамадзянскую супольнасць ужо немагчыма.

Дэмакратычныя краіны даўно ўжо ўбачылі плён ад супрацоўніцтва структур грамадзянскай супольнасці з дзяржавай, якая нават перадала ім частку сваіх паўнамоцтваў. Усё гэта дае станоўчы вынік, але, на жаль, у нашай краіне ўлады гэтага не разумеюць і не хочуць разумець.

## Юра Сідун

Бачу магчымай, аднак у бліжэйшай перспектыве вельмі слабай. Змены ў адукацыйнай сістэме паспрыяюць узмацненню грамадзянскай супольнасці, але гэта доўгі працэс – у некалькі пакаленняў.

## Вольга Стужынская

Натуральна, як і ва ўсіх іншых краінах.

## Алена Талапіла

Так, бачу. Я не лічу Беларусь праклятым месцам, на якім не можа пусціць карані парастак дэмакратыі, таму я веру ў грамадзянскую супольнасць. А яшчэ бачу людзей, якія робяць яе рэальнасцю.

### Паліна Уліна

Я аптымістка. Таму веру, што гэта цалкам верагодна. А чаму не? Магчыма, гэта адбудзецца не зараз, магчыма, праз 20 гадоў, магчыма праз 100. Але цяпер такі час, што ідзе паўсюдная інтэграцыя. Амаль кожны мае магчымасць паехаць у любы пункт свету, было б жаданне. І калі людзі бачаць нешта новае і станоўчае ў іншых краінах, так ці інакш яны вязуць гэта дадому. Пастулова гэтае новае прыжывецца.

### Іван Шыла

Мне здаецца, што беларусы маюць еўрапейскую ментальнасць, а значыцца, мы пойдзем шляхам Польшчы альбо Чэхіі. Безумоўна, гэта няпросты шлях, і многае будзе залежаць ад саміх беларусаў. Але геаграфічны чыннік дае нам не толькі надзею, але і ўпэўненасць у непазбежнасці інтэграцыі ў агульнаеўрапейскія працэсы.

### Кастусь Шыталь

Грамадзянская супольнасць у Беларусі ёсць – дзейнічаюць недзяржаўныя арганізацыі, незалежныя СМІ, палітычныя партыі, цэрквы. Аднак яна напалову загнаная ў падполле, ахоплівае невялікую частку насельніцтва Беларусі, і таму ўплыў грамадзянскай супольнасці на тое, што адбываецца ў краіне, невялікі.

Калі Беларусь стане свабоднай краінай, грамадзянская супольнасць стане набываць усё большы ўплыў, бо ўлада ўжо не будзе перашкаджаць яе развіццю. Аднак іншая праблема – абыякавасць беларусаў да грамадскага жыцця – яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў будзе негатыўна адбівацца на грамадзянскай супольнасці.

### Аляксандра Якубоўская

Яна ў нас ужо ёсць. Не ідэальная, але ёсць! Калі даць людзям разуменне і растлумачыць, што яны могуць уплываць на прыняцце рашэнняў, то яны пачнуць праяўляць ініцыятыву.

### Уладзімір Яроменак

У Беларусі гэта рэальна магчыма. Гісторыя дае нам прыклад.

Усе «аксамітныя» рэвалюцыі другой паловы XX стагоддзя адбываліся тады, калі народ быў зусім загнаны ў кут і людзі не бачылі іншага выйсця.

Беларусь шмат у чым падобная да сацыялістычных краін таго часу (Чэхія, Польшча і г.д.). Таму прыйдзе час, і беларусы аб'ядналюцца пад ідэяй свабоды, незалежнасці, веры.

### Галіна Яшчанка

Пэўная грамадзянская супольнасць ужо існуе ў Беларусі. Хай гэта дзесяць, сто, пяцьсот тысяч чалавек, але гэта супольнасць людзей, якія неабыякавыя і адстойваюць свае інтарэсы. Але пакуль большасць беларусаў будзе працягваць жыць з думкамі «ад мяне нічога не залежыць» і «мая хата з краю», пра паўнавартасную грамадзянскую супольнасць у Беларусі гаварыць цяжка.

## 16. У чым, на Вашу думку, асноўныя адрозненні паміж грамадскай дзейнасцю ў Беларусі і за мяжой? Калі такое магчыма, то параўнайце, калі ласка, працу грамадскіх арганізацый у Беларусі, краінах былога СССР і ЕС

### Настасся Александровіч

У Беларусі адсутнічае свабода слова, існуюць перашкоды ў працы грамадскага сектара, ёсць неразуменне людзьмі паняцця «грамадзянская супольнасць».

### Сяргей Андросенка

Праваабарончыя арганізацыі нашага профілю, па абароне правоў ЛГБТ і арганізацыі гей-прайду, у СНД нідзе не маюць дзяржрэгістрацыі, акрамя як у Кішынёве.

Умовы, у якіх працуе праваабарончы праект «ГейРасія», не моцна адрозніваюцца ад нашых. Здавалася б, краіна ўваходзіць у Раду Еўропы, мае дастаткова ліберальнае заканадаўства. Але аргкамітэту Маскоўскага гей-прайду не ўдалося зарэгістраваць сёлета арганізацыю «За шлюбнае раўнапраўе. Расія», а таксама правесці хаця б адну санкцыянаваную акцыю на працягу пяці год. Ці то шэсце гей-прайду, ці то пікет іранскай амбасады супраць смяротнага пакарання за гомасексуальнасць у Іране, ці то шэсце супраць гемарою. Больш за тое, яны не маюць магчымасці ў межах прайду ў Маскве ці Пецярбурзе праводзіць адчыненыя мерапрыемствы – канцэрты,

паказы і вечарыны. Міліцыя адмаўляецца іх абараняць, а зрываць імпрэзы прыходзяць сотні агрэсіўных фанатыкаў.

У Кішынёве мэрыя дазваляе публічныя акцыі, але адмаўляецца іх абараняць.

Ва Украіне ЛГБТ-рух трымаецца палітыкі непублічнасці і на дадзеным этапе адмаўляецца ад руху гей-прайду і адкрытасці, бо лічыць, што гэта больш нашкодзіць, чым дапаможа, што я лічу вельмі памылковым.

Рух за гей-раўнапраўе на Захадзе, у той самай Вільні, развіваецца нашмат у больш спрыяльных умовах. Гэта відаць і па офісах арганізацый, і па тым, як публічныя акцыі абараняе тамтэйшая міліцыя.

Увогуле, падобнае параўнанне будзе паказваць перавагу заходняй палітычнай мадэлі, незалежна ад тэматыкі дзейнасці арганізацыі ці групы. Гэта наўпрост дэманструе сувязь правоў ЛГБТ і правоў чалавека. Чым больш правоў можа на практыцы рэалізаваць ЛГБТ-супольнасць, тым больш гэтых правоў можа рэалізаваць любая іншая супольнасць, чым больш топчуць правы ЛГБТ, тым праблемней у такой краіне рэалізавацца любой іншай супольнасці. Таму, калі мы кажам, што правы ЛГБТ – гэта таксама правы чалавека, мы не хлусім.

І мы перакананыя, што чым спрыяльнейшымі будуць умовы для развіцця грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ўвогуле, тым спрыяльнейшымі яны будуць і для нас. Мы, як і актыўная грамадзянская супольнасць, прагнем пераменаў і сапраўднай, устойлівай лібералізацыі. Для беларусаў, а не для Захаду.

### Сяргей Антусевіч

Самае вялікае адрозненне – гэта тое, што ў нас дзяржаўныя органы стараюцца ўвесь час кантраляваць трэці сектар. Наша ноў-хаў – дзяржаўна-грамадскія арганізацыі… Не так проста працаваць і за мяжой грамадскім арганізацыям. Але там прасцейшыя ўмовы рэгістрацыі, дзейнасці, атрымання сродкаў, доступ да СМІ. Нам да гэтага яшчэ далёка.

### Ігар Банцар

Асноўнае адрозненне такое, што на Захадзе дзяржава спрыяе развіццю грамадзянскай супольнасці, яна зацікаўленая ў максімальнай актыўнасці грамадзян, у тым, каб яны супольна вырашалі актуальныя для ўсяго грамадства праблемы. У нас жа, як і ў СССР, «грамадскае аб’яднанне» дасюль застаецца шыльдай, якую ўлады выкарыстоўваюць для праформы. Рэальная ж актыўнасць грамадзян на найніжэйшым нават узроўні адразу ж спыняецца ўладамі.

### Яраслаў Берніковіч

За мяжой актыўнасць насельніцтва не стрымліваецца, а наадварот, стымулюецца дзяржавай. І праз гэта з дзяржаўных структур здымаецца частка клопату. Навошта дзяржаве рабіць тое, што грамадзяне могуць зрабіць самі, без яе, – яны ж лепей разумеюць свае праблемы. Вось у Беларусі адмаўляюць у рэгістрацыі новым незалежным СМІ, а ў Швецыі дробным газетам, якія яшчэ не маюць прыбытку, дзяржава даплачвае грошы. І гэта правільна, бо там людзі не баяцца рэпрэсій з боку дзяржавы, у якой жывуць, а вучацца ёй давяраць.

### Аляксей Валабуеў

У ЕС няма такіх штучных бар’ераў з боку дзяржавы ў дачыненні да грамадскай супольнасці.

У краінах былога СССР усё па-рознаму. Тыя ж краіны Балтыі ўжо сябры Еўрасаюза і маюць грамадзянскую супольнасць, не горшую за заходнееўрапейскую. Тая ж Украіна і Грузія маюць адзін узровень развіцця, а Узбекістан ці нават Расея – зусім іншы. У большасці ж краін былога СССР грамадзянская дзейнасць застаецца па сваёй сутнасці цяжкай барацьбой з дзяржавай.

### Алесь Гелагаеў

Я думаю, у кожнай краіне свае асаблівасці. Адзінае, чым выразна, на жаль, адрозніваецца Беларусь у Еўропе – нізкай ступенню нацыянальнай свядомасці, у выніку чаго нізкая ступень і свядомасці грамадзянскай.

### Юрый Казак

Адрозненне вялікае. Большасць людзей у Беларусі займаецца грамадскай дзейнасцю нелегальна, бо зарэгістраваць грамадскую арганізацыю практычна немагчыма. Выканаць усе пастановы і дырэктывы практычна немагчыма. Нават калі арганізацыю зарэгістравалі і яна працуе легальна, улады душаць, рыюць, абшукваюць, як пацукі, каб як закрыць ці абмежаваць дзейнасць. Рэпрэсіўная і прапагандысцкая машына нашых уладаў скіравана на ачарненне людзей, якія займаюцца грамадскай дзейнасцю. Тым часам прадзяржаўныя арганізацыі робяць паказуху.

### Ганна Канюс

Праца грамадскіх арганізацый у Беларусі падобная да сітуацыі ў СССР, калі былі дзяржаўныя арганізацыі, а ўсе астатнія – па-за законам.

### Віталь Каратыш

Няма з чым параўноўваць. Прынцыпова розная сітуацыя. У працу НДА ў Еўропе закладзены прынцып субсідыярнасці. Да таго ж, адміністрацыя горада абавязана супрацоўнічаць з недзяржаўнымі арганізацыямі.

У Беларусі для дробных НДА адсутнічаюць прававыя механізмы здабыцця фінансавання ўнутры краіны, законы дзейнічаюць выбарачна, дзяржаўнай падтрымкай карыстаюцца толькі так званыя «дзяржаўныя» НДА, што ўвогуле супярэчыць сутнасці недзяржаўнай арганізацыі.

У Еўропе НДА дасягнулі ўзроўню бізнесу, дзе прафесіяналы працуюць на сваіх накірунках, выконваюць сацыяльныя замовы. НДА рэалізуюць праекты часам з большай эфектыўнасцю, чым дзяржаўныя ўстановы і бізнес-структуры.

### Юрый Карэтнікаў

Па-першае, гэта ўмовы. У Беларусі вельмі неспрыяльныя ўмовы як для дзейнасці НДА, так і для знаходжання рэсурсу для гэтай дзейнасці. Па-другое, непрадказальнасць і алагічнасць паводзінаў улады, яе рэакцыі на само існаванне нейкай нерэгламентаванай ініцыятывы. Трэцяе, стаўленне грамадзян і разуменне грамадствам, што гэта за трэці сектар і навошта ён патрэбны, агульная пасіўнасць беларусаў.

### Пятро Кузняцоў

Асноўнае адрозненне ў тым, што ў Беларусі няма сёння ўмоў для дзейнасці грамадскіх арганізацый увогуле. Прыкладам, у краінах былога СССР, кшталту Расеі, такія умовы, хаця й дрэнныя, але ж ёсць. У нас проста няма, і ўсё.

У ЕС усё якасна па-іншаму. Там ёсць грамадства, яно грае асноўную ролю ў пабудове краіны, яе палітычнае лініі. Таму яно само структуруецца, і гэтую ролю выконвае грамадскі сектар. Г.зн. там нацыя праз грамадскі сектар кіруе ўсім. У нас наадварот: купка ўзурпатараў кіруе народам, а грамадскі сектар, калі б ён быў паўнавартасны, гэтага б не трываў, таму яго імкнуцца знішчыць.

Калі параўноўваць сітуацыю па лініі «Беларусь – ЕС», то карціна прыкладна такая: у нас усё з галавы на ногі. Калі параўноўваць з краінамі былога СССР, кшталту Украіны ці Грузіі, то выходзіць, што яны недзе ўжо ў хадунках ходзяць. Калі параўноўваць з Расеяй, то карціна прыкладна такая, як бы мы былі неграмі, а расейцы – ваксаю пафарбаваныя.

### Воля Кузьміч

Адрозны прававы статус грамадскіх ініцыятыў і магчымасць уплыву на заканадаўчыя працэсы.

### Ігар Лапеха

У Беларусі грамадская дзейнасць эфектыўна, мэтава ўплывае на рашэнні дзяржавы і бізнесу, чым ва Украіне, Расіі і нават Еўрасаюзе.

У суседзяў можна ўсё, і ім за гэта нічога не будзе, але іх улада папросту не слухае.

У нас жа мала што дазволена, але малымі сіламі, абмежаванымі сродкамі можна дабіцца значна болей, чым у нашых суседзяў.

### Ян Лялевіч

Асноўныя адрозненні закладзеныя глыбока ў ментальнасці і ў існуючай палітычнай сістэме. Недахоп матывацый у беларусаў тлумачыцца адсутнасцю веры ў тое, што будучыню можна збудаваць разам, не спадзеючыся толькі на сябе і сваіх самых блізкіх. Для гэтага важна, каб беларусы ўзраслі ўрэшце як нацыя, каб нарадзілася любоў і глыбокая пашана да таго, што іх вылучае сярод іншых нацый. І, паверце, гэтага нечага адрознага так шмат, і яно сапраўды вельмі прыгожае.

### Юлія Міцкевіч

Асноўнае адрозненне паміж грамадскай дзейнасцю ў Беларусі і іншых краінах, таксама як і ў працы НДА, заключаецца ў тым, што ў нашай краіне ёсць брэнд «апошняй дыктатуры Еўропы», якім ахвотна карыстаюцца многія арганізацыі, болей за ўсё – правага кірунку. Я так кажу не таму, што належу да сацыял-дэмакратаў, то бок да левага руху, а таму, што сама не аднойчы назірала такую карціну, калі прыходзіць нейкі актывіст і кажа: «Той, хто не сядзеў за кратамі за барацьбу з рэжымам, не можа лічыцца сапраўдным дэмакратычным актывістам». На жаль, барацьба з рэжымам – так званая – стала сінонімам

дзейнасці многіх арганізацый. Няма ідэі, ідэалогіі, каштоўнасцяў, а засталася толькі барацьба з рэжымам.

Мне падаецца няправільным абвінавачваць кагосьці, і я гэтага не раблю, але крытычнае мысленне – аснова для таго, каб не ператварыцца ў нейкую маналітную глыбу. Менавіта таму наша «апазіцыя» часта выглядае як адваротны бок медаля пад назвай «улада».

Памятаю, як аднойчы адзін знаёмы сказаў: «Ну вось, што такое МСД-МГ – пра вас жа нідзе не пішуць. Другая справа – «Малады Фронт». Ён заўсёды ў авангардзе».

Я сама журналістка і ведаю, пра што маім калегам падабаецца пісаць, а пра што – не. Справа не ў асабістых пажаданнях, а ў тым, які артыкул колькі каштуе. І, вядома, з гэтага пункту гледжання МСД-МГ не вельмі прывабная, бо «барацьба з рэжымам» ніколі не была для нас «ідэфікс». Мы адзіная ў Беларусі моладзевая сацыял-дэмакратычная арганізацыя, у нас ёсць свая гісторыя, ідэалогія і каштоўнасці, як то свабода, салідарнасць, роўнасць, згодна з якімі мы і ажыццяўляем сваю дзейнасць. Аснову яе складаюць адукацыйныя мерапрыемствы, такія як семінары, трэнінгі, дэбаты, дыскусіі і г.д. Адзін патэнцыйны заходні спонсар аднойчы сказаў мне, што ўсё гэта не цікава. Можа і так. Але калі ўявіць сабе, што назаўтра ў Беларусі адбудзецца рэвалюцыя і змена ўлады, то ўзнікае пытанне: а хто будуць тыя людзі, асабліва маладыя, якія прыйдуць на змену папярэднім? Што яны будуць ведаць пра дэмакратыю і пра ўвасабленне яе ў жыццё? Будуць яны дакладна разумець, што такое еўрапейскія каштоўнасці і навошта яны патрэбны ў Беларусі?

Разруха, як вядома, найперш у галовах. І я абсалютна ўпэўнена, што перад тым, як ладзіць нейкія сацыяльныя змены, трэба перш за ўсё адукаваць людзей, данесці да іх неабходную інфармацыю, трэба мяняць свядомасць людзей, даваць ім веды, і навыкі, як гэтыя веды ўжываць у рэальным жыцці – і толькі пасля ўсяго гэтага можна пачынаць гаварыць пра перамены.

## Васіль Палякоў

Галоўнае адрозненне ў тым, што ў ЕС грамадская дзейнасць звязана, у першую чаргу, з вырашэннем пэўных праблем, якія існуюць у грамадстве, у Беларусі гэта больш форма супраціву дзеючай сістэме. Больш часу ідзе не на вырашэнне,

напрыклад, нейкай сацыяльнай праблемы, а на змаганне за тое, каб улады не перашкаджалі яе вырашаць.

Калі гаварыць пра краіны былога СССР, тут ёсць розніца паміж краінамі. Нейкія ўжо бліжэйшыя да ЕС, а некаторыя знаходзяцца на такім жа ўзроўні, як і Беларусь. Адпаведна, і грамадскія арганізацыі ў такім жа стане, як і ў Беларусі.

## Юра Сідун

У Беларусі ў сучасных палітычных умовах грамадская дзейнасць занадта недарэчна звязаная з палітыкай. Сувязь грамадскай дзейнасці з палітыкай наогул дастаткова лагічная з'ява. Аднак ва ўмовах недастатковай свабоды і пераследу з боку дзяржавы палітычных апанентаў нават ініцыятыва па абароне бяздомных жывёл можа быць рызыкоўнай для кар'еры, сям'і яе стваральніка.

## Вольга Стужынская

Грамадскай дзейнасцю ў краінах ЕС збольшага займаюцца прафесійна, хоць, натуральна, шмат і валанцёрскіх арганізацый. Стаўленне да дзейнасці гэтых арганізацый у дзяржаве ідзе як да роўных, а праца многіх НДА не толькі дапаўняе, але часам і замяняе дзяржаву ў некаторых сферах. У Беларусі ж пакуль ідзе толькі станаўленне грамадзянскай супольнасці, і яе развіццё з'яўляецца часткай усіх астатніх трансфармацыйных працэсаў, што толькі пачынаюцца: фармаванне палітычнай культуры, новых узаемаадносін паміж дзяржавай і грамадзянінам, актывізацыя ролі грамадзян у жыцці краіны і магчымасці ўплываць, роўныя магчымасці для жанчын і мужчын. Усе гэтыя працэсы патрабуюць шмат часу на станаўленне, а таксама нашага з Вамі актыўнага ўдзелу. Я спадзяюся, што праз дзейнасць нашай арганізацыі, маіх калег і маю асабістую мы зможам нешта змяніць да лепшага.

### Алена Талапіла

Паводле маіх адчуванняў, адрозненне палягае найперш на тым, што мы нярэдка займаемся рознымі тэмамі. Вялікую частку часу ў беларускіх арганізацыях займае пытанне выжывання, і гэта шкодзіць карысным справам. І яшчэ мяне цешыць, калі я бачу, што мясцовае самакіраванне або чынавенства, а таксама першыя асобы ў дзяржаве дбаюць пра патрэбы людзей. На жаль, такія прыклады я збольшага заўважаю за межамі Беларусі. Мяне пужаюць цынізм і абыякавасць людзей ва ўладзе да ўсіх, апроч сябе. Адпаведна, гэта адбіваецца і на дзейнасці грамадскіх актывістаў і арганізацый, бо гэта страшна, калі аргумент «гэта ж ідзе на карысць» не лічыцца.

### Паліна Уліна

Я магу гаварыць упэўнена толькі пра валанцёрскую дзейнасць. Чаму ў нас гэта не так пашырана? Бо проста не было прынята так рабіць. Не прынята ахвяраваць сваім часам, рабіць нешта проста так, бо не заўсёды ты можаш пачуць словы падзякі. Тая ж дабрачыннасць лічыцца справай заможных, а нам самім дапамога патрэбна. Часта такое пачуць можна. Але калі тлумачыш людзям, што неабавязкова мець шмат грошай, каб дапамагаць, што можна часам дапамагчы нават словам, стаўленне змяняецца.

Яшчэ ў нас прынята свае праблемы нейк хаваць, маўчаць пра іх. А калі так рабіць, адкуль возьмуцца тыя, хто зможа дапамагчы? Гэта нерэальна. Цяпер сітуацыя змяняецца да лепшага. Мне здаецца, што пэўная частка людзей атрасае сваю абыякавасць да навакольнага жыцця.

### Іван Шыла

Адрозненне палягае ў стаўленні дзяржавы да незалежных ініцыятыў і агульным грамадскім успрыманні гэтых працэсаў. Хоць успрыманне часта ёсць вынікам аднабаковага асвятлення дзейнасці асоб і арганізацыі ў СМІ. Праблема вырашальная, патрэбна толькі палітычная воля кіраўніцтва краіны і цярпенне.

## Кастусь Шыталь

Думаю, тут трэба вылучыць два адрозненні. Па-першае, у свабодных краінах улада адэкватна ставіцца да грамадскай дзейнасці. Цікава, якія ўражанні ў жыхароў Нямеччыны ці Італіі выклікалі б навіны пра тое, што ў Беларусі праваахоўныя органы разганяюць моладзь, якая ладзіць «бой падушкамі», ці ловяць па хмызняках асоб, якія спрабуюць таемна прабрацца да месца правядзення бардаўскага фэсту? Мабыць, не зразумелі б.

Другое адрозненне – гэта стаўленне простых людзей. Чалавек, які займаецца грамадскай дзейнасцю, сутыкаецца з неразуменнем звычайнага беларуса. Калі актывіст атрымлівае за сваю дзейнасць матэрыяльнае ўзнагароджанне, яму закідаюць, што ён «прадаўся» і «працуе за грошы». Калі актывіст не атрымлівае грошай, то ў яго са здзіўленнем запытваюць: «Ну і навошта табе гэта трэба?».

## Аляксандра Якубоўская

У еўрапейскіх краінах зусім іншае стаўленне да грамадскага сектара. Яго падтрымлівае дзяржава, і можна на дзяржаўным узроўні ўплываць на рашэнні. Грамадская дзейнасць там не нясе такой небяспекі, як у нас. Табе не пагражае вылецець з вучобы ці працы.

А вось у Расеі таксама і прыціскаюць, і ігнаруюць. Ва Украіне ж іншая сітуацыя – там хоць і дазваляюць шмат чаго, але няма яшчэ спелага грамадства, на якое можна аперціся.

## Уладзімір Яроменак

У Беларусі, як і ў большасці краін былога СССР, у адрозненне ад Еўропы, палітычная сістэма аўтарытарная. Таму ў нас грамадская дзейнасць арганізацый (акрамя праўладных) знаходзіцца пад забаронай. Дзейнасць любога сябра няўрадавай арганізацыі (для Беларусі гэта сінонім для незарэгістраванай арганізацыі) можа быць пакарана хаця б па сумнавядомым артыкуле 193-1 (а гэта

да двух год турмы). Таму развіваць грамадскія арганізацыі, ініцыятывы, партыі складана, а займацца грамадскай дзейнасцю – небяспечна.

### Галіна Яшчанка

Паспрабую параўнаць Беларусь і краіны ЕС зыходзячы са свайго досведу.

У Беларусі ёсць бяспечная і небяспечная грамадская дзейнасць. Небяспечная – усё, што звязана з крытыкай улады. Калі ты гэтым займаешся, ты рызыкуеш сваёй свабодай і дабрабытам, знаходзішся пад наглядам КДБ, і твая праца не прыносіць таго эфекту, які б мела ў краіне ЕС.

Па-першае, у Беларусі прысутнічае фактар моцнай рызыкі. Ты рызыкуеш не толькі сваёй свабодай і дабрабытам, але і свабодай і дабрабытам сваёй сям'і. І, гледзячы на тэндэнцыі, гэтая рызыка ў Беларусі з кожным годам павышаецца, што з'яўляецца вельмі моцным антыстымулам.

Па-другое, займацца грамадскай дзейнасцю ў Беларусі, асабліва небяспечнай грамадскай дзейнасцю – гэта значыць быць «пад наглядам» органаў. Беларусы з гэтым звыкліся, для жыхароў Заходняй Еўропы гэта нечуваная і ганебная рэч.

Па-трэцяе, грамадская праца ў Беларусі прыносіць малы эфект, што хутка расчароўвае. І калі тваю ініцыятыву ўлады ў соты раз бессумленна зарубілі, то ў сто першы раз біцца галавой аб сцяну жаданне можа і не ўзнікнуць.

Тыя, хто займаюцца небяспечнай грамадскай дзейнасцю ва ўмовах сённяшняй Беларусі, – моцныя людзі. У мяне яны выклікаюць павагу.

# Аб аўтарах

**Настасся Александровіч**, 22 гады, Мінск.
Журналістка. У 18 гадоў уступіла ў Партыю БНФ. Выбар быў свядомы. Тры гады займалася сайтам mbnf.org. Цяпер працуе ў незалежных СМІ.

**Сяргей Андросенка**, 21 гадоў, Мінск.
Кіраўнік праваабарончага праекта GayBelarus.by.

**Сяргей Антусевіч**, 37 гадоў, Гродна.
Старшыня Незалежнага прафсаюза работнікаў ААТ "Гродна Азот", сакратар-скарбнік Беларускага незалежнага прафсаюза.

**Ігар Банцар**, 30 гадоў, Гродна.
Незалежны журналіст.

**Павал Батуеў**, 28 гадоў, Салігорск.
Электрык.

**Яраслаў Берніковіч**, 43 гады, Глыбокае (Віцебская вобласць).
Дырэктар выдавецка-рэкламнага ўнітарнага прадпрыемства "Прэфект-інфо", заснавальнік аднайменнага рэкламнага выдання.

**Аляксей Валабуеў**, 29 гадоў, Салігорск.
Інжынер-будаўнік.

**Вераніка Велігор**, 21 год, Гродна.
Прадавачка, вучыцца завочна, удзельнічае ў “Маладым фронце”.

**Аляксей Дзермант**, 28 гадоў, Крыўя.
Філосаф.

**Эдвард Дмухоўскі**, 37 гадоў, Гродна.
Грамадскі актывіст

**Алесь Гелагаеў**, 31 год, Масква.
Карэспандэнт, перакладчык, гісторык, блогер.

**Юрый Казак**, 25 гадоў, Навагрудак.
Індывідуальны прадпрымальнік.

**Ганна Канюс**, 32 гады, Брэст.
Старшыня Берасцейскай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), сяброўка Беларускага Хельсінскага камітэта, Свабоднага прафсаюза беларускага.

**Віталь Каратыш**, 26 гадоў, вёска Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна.
Індывідуальны прадпрымальнік.

**Юрый Карэтнікаў**, 28 гадоў, Мінск.
Дырэктар інфармацыйна-кансалтынгавай установы “Правы альянс”.

**Воля Кузьміч**, 28 гадоў, Мінск.
Каардынатарка творчага сеціўнага рэсурсу Generation.by, арганізатарка культурных праектаў, дызайнерка-аніматарка, журналістка.

**Пятро Кузняцоў**, 29 год, Гомель.
Незалежны журналіст, грамадскі актывіст.

**Ігар Лапеха**, 41 год, Гродна.
Педагог, краязнавец.

**Ян Лялевіч**, 29 год, Гродна.
Гісторык.

**Юлія Міцкевіч**, 31 год, Мінск.
Старшыня МГА "Маладыя сацыял-дэмакраты – Маладая Грамада", журналістка, феміністка, ЛГБТ-актывістка.

**Васіль Палякоў**, 41 год, Гомель.
Старшыня Гомельскай абласной арганізацыі АГП.

**Аляксандр Самец**, 56 гадоў, Карэлічы.
Прараб.

**Юра Сідун**, 28 гадоў, Мінск.
Кардынатар сайта Generation.by, вэб-дызайнер, фатограф.

**Віталь Сіліцкі**, 38 гадоў, Смалявічы.
Палітолаг, акадэмічны дырэктар Беларускага інстытуту стратэгічных даследаванняў.

**Тарэса Собаль**, 63 гады, Івянец.
Кіраўніца мясцовага аддзялення Саюза палякаў Беларусі, пенсіянерка.

**Вольга Стужынская**, 32 гады, Брусель.
Кіраўніца офіса "За дэмакратычную Беларусь".

**Алена Талапiла**, 25 гадоў, Мiнск.
Карэктарка i перакладчыца.

**Палiна Улiна**, 22 гады, Мiнск.
Валанцёрская iнiцыятыва “Разам – дзецям”.

**Iван Шыла**, 19 гадоў, Салiгорск.
Студэнт. Школьнiкам прайшоў праз крымiнальны працэс за ўдзел у “Маладым фронце”, быў выключаны са школы перад экзаменамi, забраны ў армiю.

**Кастусь Шыталь**, 20 гадоў, Докшыцы.
Грамадскi актывiст, незалежны журналiст.

**Iгар Шынкарык**, 42 гады, Мiнск.
Старшыня выканкама АГП.

**Генадзь Шэпелеў**, 53 гады, Ворша.
Памочнiк машынiста.

**Сяргей Чалы**, 40 гадоў, Мiнск.
Эканамiст.

**Аляксандра Якубоўская**, 20 год, Мiнск.
У Мiнску жыве апошнiя 4 гады. Родны горад Лiда. Сяброўка МПГ “Студэнцкая рада”.

**Уладзiмiр Яроменак**, 20 год, Мiнск.
Студэнт.

**Галiна Яшчанка**, 28 год, Мiнск—Кiеў—Масква.
Кансультант у кансалтынгавай кампанii “McKinsey&Company”.

# Матывацыі супрацiву

## Кнiга апытанняў



Намi было праведзена больш за тры дзясяткi iнтэрв'ю з найбольш тыповымi прадстаўнiкамi беларускай грамадзянскай супольнасцi. Нашай задачай было высветлiць найбольш тыповыя матывы i погляды, стаўленнi i адчуваннi, зразумець найбольш базавыя ўзаемасувязi памiж выхаваннем, адукацыяй, жыццёвым досведам i грамадзянскай актыўнасцю i, у сваю чаргу, памiж ёй i iншымi аспектамi прыватнага, грамадскага i прафесiйнага жыцця.

19 снежня 2010 года пытаннi, што былi зададзеныя падчас падрыхтоўкi i рэалiзацыi гэтага праекта, набылi новы сэнс i гучанне. Сам «выбух» той снежаньскай ночы толькi пацвердзiў устойлiвае iснаванне патэнцыялу для палiтычных i сацыяльных альтэрнатыў у грамадстве.

**Вiталь Сiлiцкi**